ТОРВАЛЬД

АНТОН ЧЭХАЎ

@Пішам добрыя тэксты ад 1906 www.nn.by

# Наша Гісторыя

№ 8 (13) – 2019

ЗАХАПЛЯЛЬНЫЯ БІЯГРАФІІ
ЦІКАВЫЯ ЗНАХОДКІ
ВАЖНЫЯ АДКРЫЦЦІ

ISSN 2617-2305

ПАНОПТЫКУМ, ЯКІ НАРАДЗІЎСЯ Ў КРЫЧАВЕ



НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ГЕАГРАФІЯ: БЕРШТЫ



ОДРЫ ХЭПБЁРН

КОМІКС!



АПОШНІ ВАМПІР: ВЫЗВАЛЕННЕ

# КНЯЗЬ ІГАР & Co.

РУСЬ ЯК ГАНДЛЁВАЯ КАРПАРАЦЫЯ, ЯКАЯ АЖЫЦЦЯЎЛЯЛА АПТОВЫЯ ПАСТАЎКІ РАБОЎ

16+




## Калі часопіса не засталося ў «Саюздруках» і на поштах, пытайцеся яго ў кнігарнях

**Мінск**
«Акадэмкніга» (пр.Незалежнасці, 72, метро «Акадэмія навук»)
Symbal.by (пр. Машэрава, 18)
Філіял «Акадэмкнігі» на вул. Багдановіча, 46
Гандлёвы цэнтр «Купалаўскі» (пад Кастрычніцкай плошчай), крамы 41–42 і 44–45
«Галіяфы» (вул. Няміга, 3, крама № 47 на цокальным паверсе)
«Мой модны кут» (Цэнтр «Маскоўска-Венскі», павільён 333 — гэта каля ЦУМа, метро «Плошча Якуба Коласа», пр. Незалежнасці, 58)
Кніжны кірмаш па вул. Даўмана, 23 (субота 00.00–14.00), месца 78б
«Рагна» (вул. Сухая, 4, метро «Фрунзенская»)
«Кніжная шафа» (пр. Дзяржынскага, 9)
«Светач» (пр. Пераможцаў, 11)
«Цэнтральная кнігарня» (пр. Незалежнасці, 19)
«Кнігі і кніжачкі» (пр. Незалежнасці, 14)
«Эўрыка» (вул. Куйбышава, 75)

**Поштай ці з дастаўкай на дом** вы можаце яго замовіць праз Halijafy.by, Knihi.by, Kniger.by, Akademkniga.by

**Гродна**
«Цудоўня» (вул. Кірава, 3).
«Кругагляд» (б-р Ленінскага камсамола, 29а)
«Раніца» (вул. Маставая, 33)

**Брэст**
«Князь Вітаўт» (вул. Савецкая, 55)
«Асвета» (пр. Машэрава, 57)
«Дружба»(б-р Касманаўтаў, 120)
«Іскра» (вул. Пушкінская, 4)

**Гомель**
«Кніжны свет» (пр. Леніна, 45)

**Віцебск**
«Светач» (вул. Кірава, 10)
«Глобус» (вул. Замкавая, 21–30)

**Магілёў**
«Гасцінец» (Віцебскі праспект, 48)

**Бабруйск**
«Крыніца ведаў» (вул. Горкага, 31)

**Баранавічы**
«Кнігі» (вул. Савецкая, 73)

**Маладзечна**
«Спадчына» (вул. Прытыцкага, 7)

**Ліда**
«Кніжны свет» (пр. Перамогі, 33)

**Наваполацк**
«Дом кнігі» (вул. Маладзёжная, 145)
«Усход» (вул. Кірава, 4)

**Пінск**
«Мой модны кут» (вул. Леніна, 31)

Акрамя таго, праз сайт **ARCHE.BY** часопіс можна купіць у ПДФ, у электроннай версіі.

Наша Гісторыя
8/2019

history.nn.by

**Навукова-папулярны, літаратурна-мастацкі часопіс**

Выдаецца з 2018 г.

ISSN 2617-2305

Зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб рэгістрацыі №1921 ад 11.07.2018 г.

**Галоўны рэдактар**
Андрэй Васільевіч Дынько

**Намеснікі галоўнага рэдактара**
Аляксандр Пашкевіч, кандыдат гістарычных навук
Паўліна Скурко, кандыдатка гістарычных навук

**Дызайн і вёрстка** Уладзіслава Губіч

**Карэктура** Таццяна Кур'ян

На першай старонцы вокладкі — Б'ёрн Жалезнабокі ў выкананні Аляксандра Людвіга ў канадска-ірландскім тэлесерыяле «Вікінгі».

Часопіс «Наша гісторыя» выходзіць на беларускай і рускай мовах.
Перыядычнасць — 1 раз на месяц.



**Заснавальнік:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы».
Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» г. Мінск, вул. Калектарная, 11 код BLBBBY2X,
УНП 190786828.

**Адрас рэдакцыі:** 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34А.

**Адрас для допісаў:** 220004, Мінск, а/с 62.

**Тэлефоны:** (017) 316-48-13, (029) 613-32-32, (029) 707-73-29

**E-mail:** nn@nn.by

Цана дамоўная.

**Падпісаны ў друк** 12.08.2019.
Афсетны друк. Папера лёгкакрэйдаваная.
Фармат 60×84/8.
Умоўных друкаваных аркушаў 11,16.
Гарнітура PetersburgC.
Замова 0633/19.
Наклад 10 500 асобнікаў (1-ы завод 5010).

Часопіс надрукаваны ў друкарні «Акварэль-прынт». Вул. Радыяльная, 40-202, 220070, г. Мінск. УНП 101282916. ЛД 02330/78 ад 03.03.2014.
Пасведчанне аб рэгістрацыі ў Дзяржаўным рэестры выдаўцоў, вытворцаў і распаўсюднікаў друкаваных выданняў № 2/16 ад 21.11.2013 г.

## Ад рэдакцыі

Дагэтуль на старонках «Нашай гісторыі» няшмат месца займалі падзеі найдаўнейшага перыяду гісторыі Беларусі. Гэта не звязана з нейкай прынцыповай пазіцыяй рэдакцыі. Проста акурат тады, калі гаворка ідзе пра сівыя стагоддзі, найцяжэй устрымацца ад банальнасцяў, паўтарэння ўсім вядомага. Хто, напрыклад, не ведае сумнай гісторыі пра Рагвалода і Рагнеду? Ці не чуў пра Усяслава Чарадзея, які «воўкам скокнуў да Нямігі з Дудутак», або пра Еўфрасінню Полацкую?

Вывучэнне таго кавалка гісторыі мае сваю спецыфіку. Задача даследчыка Новага і Навейшага часу – выбраць з масіву архіўных крыніц тое, што сапраўды важна, і не збіцца на пераказ малаістотнай дробязі. А для гісторыкаў Сярэднявечча, асабліва ранняга, архіўныя пошукі – далёка не галоўнае. Колькасць пісьмовых крыніц у іх вельмі абмежаваная, і большасць даўно апублікавана. Таму новым пакаленням даследчыкаў даводзіцца наноў прачытваць тыя самыя крыніцы, супастаўляць іх паміж сабой ды даваць ім новыя інтэрпрэтацыі. Натуральна, з належнай аргументацыяй. Гэта няпроста і вымагае вельмі высокай кваліфікацыі.

Тым не менш сур'ёзныя навуковыя працы па гісторыі старажытнай Русі, якія прычыняюцца да перагляду стэрэатыпаў і актывізуюць дыскусіі, рэгулярна з'яўляюцца. Адна з іх – кніга ўкраінскага даследчыка Аляксея Талочкі «Нарысы пачатковай Русі», што пабачыла свет у 2015 годзе. Цэнтральны матэрыял гэтага нумара «Нашай гісторыі» — падарожжа па яе старонках разам з Андрэем Скурко (**старонкі 4—13**). Будзе цікава!


57


80


68


62




76


82




94




**Вікінг прапануе дзяўчыну-рабыню персідскаму купцу** ў горадзе Булгар на Волзе. Мастак Том Лоўэл

# Князь Ігар & Co.:

## Русь як гандлёвая карпарацыя, якая займалася аптовымі пастаўкамі рабоў

**Разважаючы пра гісторыю, мы часта ацэньваем працэс з гледзішча выніку. Паводле законаў такога рэтраспектыўнага бачання, Рагвалод прыйшоў «з замор'я» ў Полацк з цвёрдым намерам стварыць першую беларускую дзяржаву, Міндоўг у Наваградак — збіраць беларуска-літоўскія землі і г. д. Тым часам стварэнне першых дзяржаў залежала ад такіх фактараў, пра якія мы б і не падумалі. Пра кнігу члена-карэспандэнта Акадэміі навук Украіны Аляксея Талочкі «Нарысы пачатковай Русі» піша Андрэй Скурко.**

Уявіце, што вы не ўмееце чытаць. А цяпер раскажыце пра сваіх продкаў — як яны жылі, як іх звалі, — грунтуючыся толькі на тым, што чулі ад родных цягам жыцця. Пра бабулю-дзядулю — без праблем, але пра тых, што былі 200 год таму?

У найлепшым выпадку пра іх захаваецца некалькі перакручаных і туманных легендаў. Накшталт

той, з якой Аляксей Талочка пачынае кнігу: пра герцага Рола, які жыў спачатку ў Аланіі (?!), а пасля паплыў са сваімі людзьмі на трох караблях вакол Еўропы, знайшоў зямлю, дзе не было парадку — Нармандыю, — там пасяліўся, стаў кіраваць — і ад яго пайшлі герцагі нармандскія. Сюжэт пра перасяленне дынастыі з далёкай зямлі быў пашыраны ў еўрапейскай міфалогіі. Згадаем хоць бы «пачынальніка» літоўска-беларускай шляхты, рымляніна Палямона. І толькі ў адным выпадку такое паданне ўсур'ёз прымаецца сучаснымі даследчыкамі — гісторыя «паклікання варагаў» на Русь з «Аповесці мінулых гадоў».

З гэтага летапісу «ёсць пайшла» кананічная гісторыя Усходняй Еўропы ад IX стагоддзя. Талочка звяртае ўвагу на яе слабыя месцы і нацяжкі ды прапануе ўявіць гісторыю скандынаваў і славян на берагах Дняпра без адсылак да «Аповесці...».

## Мінус чатыры, плюс адзін

Пытанне, як складальнік летапісу, кіеўскі манах сярэдзіны XII стагоддзя, не маючы энцыклапедый і падручнікаў, апісаў падзеі 200-гадовай даўніны, ставілася і раней. Летапіс


WIKIMEDIA COMMONS

**Скандынаўскі рунічны камень XI стагоддзя**, знойдзены на чарнаморскім востраве Беразань на поўдні Украіны.

намагаліся рознымі спосабамі «састарыць»: акадэмік Аляксей Шахматаў, напрыклад, вычляняў з яго «пачатковыя» зводы. Аляксей Талочка, наадварот, лічыць, што ніякіх ранейшых зводаў не было.

Ён звяртае ўвагу на нумералагічную заканамернасць «мінус 4 плюс 1» вакол дамоваў кіеўскіх князёў з Візантыяй 911, 944 і 971 гадоў, што цытуюцца ў летапісе. За чатыры гады да кожнай з дамоваў «Аповесць...» паведамляе пра паход русаў на Канстанцінопаль, а праз год пасля кожнай з дамоваў князь, які яе падпісваў, памірае. Супадзенне? Не думаю, як той казаў.


WIKIMEDIA COMMONS

**Жанчына, якая забівае варага** (злева) **і вяртае нарабаванае вікінгамі** (справа). Ілюстрацыя з хронікі візантыйскага чыноўніка Іаана Скіліцы. XII–XIII стагоддзе. Асобнік хронікі захоўваецца ў Нацыянальнай бібліятэцы Іспаніі.

Даследчык лічыць, што гэтая частка летапісу была сканструяваная аўтарам «Аповесці...» на аснове тэкстаў тых самых дамоваў, атрыманых з канстанцінопальскага архіва. Менавіта з іх, а не з міфічных «пачатковых летапісных зводаў» складальнік дазнаўся імёны першых кіеўскіх князёў.

**«Росы кіравалі не дзяржавай, а вялікай дарогай. Гэта як сёння кантралявалі б сетку аўтазаправак уздоўж галоўнай аўтастрады»**

Ён разважыў, што дамовы пазначалі замірэнне пасля вайсковых дзеянняў — і напісаў ▸

## Шмат знаходак, а тапонімаў няма

Колькасць скандынаўскіх артэфактаў эпохі вікінгаў ва Усходняй Еўропе большая, чым у Англіі ці Нармандыі. А тапонімаў скандынаўскага паходжання фактычна няма. Значыць, лічыць Талочка, скандынавы не перасяляліся сюды масава (у адрозненне зноў жа ад Англіі і Нармандыі), раз не змаглі навязаць свае назвы тубыльцам. І жылі яны пераважна ў гарадскіх цэнтрах. Артэфакты ж могуць быць ускосным сведчаннем развітага гандлю нявольнікамі.

▶ пра паходы, якія не згадваюцца пад тымі самымі датамі ў візантыйскіх хроніках. Таксама ён пабачыў, што кожную наступную дамову падпісвае новы князь — і «ўмярцвіў» Алега, Ігара і Святаслава адпаведна праз год пасля дамовы з імператарам.

Калі гэта так, дык цалкам верагодна, што паміж гэтымі вядомымі нам князямі ў Кіеве кіраваў хтосьці іншы, каму не пашчасціла трапіць у якасці «архонта»-князя на старонкі візантыйскага архіва. Можа, пляменнік Вольгі, які згадваецца ў адной з дамоваў? Можа, нейкі Акун (Хакон), які, па ўсім бачна, таксама меў высокі статус? А мо жанчына? Апроч княгіні Вольгі, у дамове стаяць імёны Прадславы і Сфандры. Прадславай, нагадаем, праз 150 год назвалі полацкую князёўну, будучую святую Еўфрасінню.


POLOTSK.MUSEUM.BY

**Арабскі дырхем** з Казьянкаўскага скарбу, знойдзенага **пад Полацкам**.

## Даляры дзявятага стагоддзя

Можна многа казаць пра далучанасць беларускіх земляў да гоцкай дзяржавы караля Германарыха ці да Хазарскага каганата, але гістарычны час на абшары Усходняй Еўропы прынеслі скандынавы.

Дзякуючы ім, «нічыйны» куток на перыферыі цывілізацыі набыў суб’ектнасць, трапіў на старонкі германскіх хронік, арабскіх падарожных нататак, візантыйскіх дакументаў. І зазнаў процьму бедаў.

Сёння ўжо мала засталося аматараў выводзіць назву «Русь» ад густых росаў, што выпадаюць на беларускіх і ўкраінскіх паплавах раніцай. Ці ад невялікай ракі пал назвай Рось, якая цячэ ў цэнтральнай Украіне і ўпадае ў Дняпро. Большасць навукоўцаў пагадзілася, што «русь» — ад скандынаўскага слова «весляры». Так называлі сябе вікінгі, якія веславалі, гандлявалі і ваявалі на рэках Усходняй Еўропы. Русы —



**Аляксей Талочка** — гісторык-медыявіст, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Украіны. Жыве ў Кіеве.




Вікінгі ўжо некалькі стагоддзяў з'яўляюцца ўлюбёнай тэмай масавай культуры. **На фота: Кэтрын Вінік у ролі Лагерты з канадска-ірландскага тэлесерыяла «Вікінгі».**

## Рольф Пешаход, сын Рагнеды

Доктар гістарычных навук Алег Латышонак лічыць, што імёны полацкага князя Рагвалода і яго дачкі Рагнеды трапілі ў летапіс са скандынаўскай «Сагі аб аркнейцах», у якой згадваюцца Рагнвальд, ярл Морэ, і яго жонка Рагнхільд. Той Рагнвальд называецца бацькам Рольфа Пешахода, заваёўніка Нармандыі (пешаходам яго звалі за вялізны рост: ніводзін конь не мог панесці; праўда, коні тае пары былі нашмат драбнейшыя за сучасных, як і людзі). А на Дзвіну Рагнвальд-Рагвалод і Рагнхільд-Рагнеда «перанесліся», лічыць гісторык, пад уплывам «Сагі пра Рольфа Пешахода». У ёй згадваецца кароль Рэгвід, што ў маладосці падпарадкаваў Падзвінне. Латышонак звяртае ўвагу, што імя Рагвалод з’яўляецца ў полацкай княскай галіне толькі ў XII стагоддзі — пасля напісання «Аповесці...». Усяслаў Полацкі, які назваў так свайго сына, мог даведацца пра Рагвалода і Рагнеду з летапісу. І ў наш час не кожны ведае імя прапрадзеда, што ўжо казаць пра XI стагоддзе.

**Падрабязней пра гэта можна пачытаць у кнізе Алега Латышонка «Нацыянальнасць — Беларус».**



ідэнтычнасць, якую набывалі скандынавы, знаходзячыся тут.

У самой назве нашай краіны — Беларусь — захаваўся той скандынаўскі корань.



Але што тут трэба было вікінгам? Ні багатых, як у Англіі, манастыроў, ні ўрадлівых палеткаў, ні гарадоў — толькі лес, населены досыць агрэсіўнымі плямёнамі. І скандынавы наўрад ці палезлі б сюды, калі б не дырхем.

Гэтая невялікая срэбная манета, якую білі ў Арабскім халіфаце, была даларам VIII—X стагоддзяў. Яна хадзіла ад Цэнтральнай Азіі да атлантычнага ўзбярэжжа і Скандынавіі. І шлях да багатых рынкаў Хазарыі, на якіх разлічваліся дырхемамі, ляжаў па ўсходнееўрапейскіх рэках. А на іх лясістых берагах знайшліся тавары, якія маглі зацікавіць хазарскіх ды арабскіх купцоў: звярыныя футры і нявольнікі.

«Русы жывуць далёка на поўначы, не ведаюць сельскай гаспадаркі, гандлююць футрамі собаляў і вавёрак, а таксама рабамі, якіх здабываюць, нападаючы з караблёў на славян, каб пасля прадаць у Булгары ды Ітылі. Мячы ў іх франкскай работы, і носяць яны іх увесь час каля сабе», — пісаў арабскі падарожнік. Гандаль нявольнікамі быў няпростым бізнэсам, патрабаваў інфраструктуры. На ўсім шляху ад ракі Волхаў да нізоўяў Волгі ўзнікалі стаянкі чоўнаў, пункты абмену, зімоўкі, лагеры, месцы для ўтрымання рабоў. Гэтая справа фармавала і характары: стаўшы «русамі», многія варагі ўжо ніколі не вярнуліся ў Скандынавію.

### Срэбны крызіс

Як сёння сусветная эканоміка залежыць ад курсаў асноўных валют, так і тысячу год таму ▶

дабрабыт русаў быў абумоўлены палітычным становішчам на далёкім Блізкім Усходзе, прадуктыўнасцю арабскіх срэбных капальняў. Першы крызіс ударыў па іх у 870-я — з нейкіх прычынаў прыток дырхемаў ва Усходнюю Еўропу скараціўся. Праўда, пасля на поўначы Ірана стабілізавалася дзяржава Саманідаў, русы адшукалі шляхі да яе рынкаў праз Волжскую Булгарыю, — і рака срэбра паплыла з яшчэ большай сілай.

Цягам X стагоддзя, падлічылі навукоўцы, з Блізкага Усходу было выпампавана на поўнач 125 мільёнаў дырхемаў — гэта 4,8 тоны срэбра штогод. Скарбы, знойдзеныя пад Гараўлянамі на Глыбоччыне, у Казьянках пад Полацкам, у Старым Дзедзіне Клімавіцкага раёна, у Касаляках — Кармянскага, паказваюць, што беларускія землі таксама былі ўключаныя ў працэс. Адзін Казьянкаўскі скарб складаецца амаль з васьмі тысяч дырхемаў і важыць 20 кілаграмаў. А колькі яшчэ не знойдзена!

### З'яўленне на Дняпры

Падчас першага срэбнага крызісу, шукаючы новых рынкаў, русы з'явіліся на Дняпры і разведалі дарогу ў Канстанцінопаль. З Візантыяй можна было гандляваць, туды можна было наймацца служыць. Цэны былі не такія салодкія, як хазарскія: за раба ў Канстанцінопалі можна было атрымаць эквівалент не 200 грамаў золата, але прынамсі 180.

Але не золата і срэбра найбольш цікавіла росаў у «Царградзе». Яны праглі шаўковых тканін. Візантыя была адзінай краінай хрысціянскага свету, якая

## Рагнар Лодбрак і Фрода на Дзвіне

Саксон Граматык, дацкі гісторык, у сваёй хроніцы «Дзеі данаў», складзенай у XII стагоддзі, адначасова з кіеўскім летапісам, згадвае Полацк (*Paltisca*), які захапіў хітрасцю напаўміфічны кароль Даніі Фрода I, перамогшы мясцовага правадыра Веспасія (*Uespasius*). Фрода прыкінуўся памерлым, Веспасій расслабіўся — і даны ўзялі горад.

«Вешпатс» па-літоўску — «гаспадар воласці». Суаднесці караля Фрода з нейкім гістарычным персанажам ці вызначыць час апісаных падзей немагчыма. Пра Фрода яшчэ пісалі, што ён, не меўшы грошай на вайну, забіў дракона і завалодаў яго скарбамі — гэта да таго, наколькі можна лічыць сагі надзейнай крыніцай.

Вядомы па серыяле «Вікінгі» Рагнар Лодбрак таксама згадваецца ў «Дзеях данаў» у сувязі з Дзвіной. У перадсмяротнай песні, кінуты ў яму са змеямі, ён прыгадвае свае подзвігі «ля вусця Дзвіны». Рагнар, паводле Саксона Граматыка, ваяваў там з «гелеспонтцамі», якіх узначальвалі каралі Дыян і Дакса, а таксама з русамі і скіфамі. Рагнар бываў на Гелеспонце яшчэ двойчы: калі помсціў за сына Хвітсерка, забітага там, і калі вяртаўся ў Данію з Міжземнага мора. Рагнар Лодбрак — таксама міфічны персанаж, у вобразе якога сышліся лёсы двух-трох скандынаўскіх конунгаў рознага часу.



**Заморскія госці.**
Мастак Мікалай Рэрых.
1901 год.




**Варажская сям'я X стагоддзя, якая жыла ў Балтыйскім рэгіёне.** Аўтар Крузэ, надрукавана ў часопісе *Magasin Pittoresque* (Парыж, 1843 год).

вырабляла шоўк. Барвовыя гладкія тканіны не проста радавалі вока, не проста былі лёгкімі і кампактнымі — яны былі сімвалам улады і прэстыжу: у шаўковыя строі ўбіраліся імператар і яго двор. Была ад яе практычная карысць: у шаўковай адзежы не плодзяцца вошы. Па Дняпры і Дзвіне візантыйскі шоўк даходзіў аж да Біркі, тагачаснай гандлёвай сталіцы Швецыі.

Магчыма, у той самы час русы звярнулі ўвагу і на ўзгоркі пры ўпадзенні Дзвіны ў Палату?

Русы, адзначае візантыйскі імператар, залежалі ад добрых адносін з печанегамі, што маглі перастрэць караван на дняпроўскіх парогах, дзе даводзілася выгружаць чаўны і пераносіць тавар ды пераганяць рабоў, мінаючы небяспечны ўчастак. На дняпроўскіх парогах, нагадаем, загінуў у падобнай сітуацыі бацька князя Уладзіміра, Святаслаў Ігаравіч.

Шлях у Балтыку праз Полацк быў бліжэйшы, чым праз Ноўгарад. Паводле Талочкі, Полацк кантралявала незалежная ад Кіева група русаў. Яна, відаць, мела свой навар з транзіту.

У адрозненне ад срэбра, шоўк у зямлі гніе, таму падлічыць хоць прыкладна, колькі тонаў яго прайшло праз Беларусь на поўнач, немагчыма. Дый кніга Талочкі не кранае наўпрост гісторыі Беларусі, яна засяроджаная на Кіеве. Але дапамагае зразумець агульную логіку і механізмы дзеяння варажска-«рускай» супольнасці ва Усходняй Еўропе тысячу год таму.

### Карпарацыя — гэта дзяржава мінус легітымнасць

Адна з ключавых думак аўтара: «Дзяржавы не заўжды ўзнікаюць як ад пачатку палітычныя арганізацыі і не абавязкова задумляюцца нават самімі стваральнікамі як тое, што мае суверэнітэт, праводзіць нейкую асэнсаваную палітыку ці ажыццяўляе ўладу над насельніцтвам ці тэрыторыяй».

Бо тое, што існавала на кіеўскіх гарах да часоў Уладзіміра Святаслававіча, можна было назваць хутчэй гандлёвай кампаніяй, чым дзяржавай. Кіеўская Русь мала чым рознілася ад Кампаніі Гудзонавага заліва, якая ў XVII стагоддзі скупляла на перапродаж звярыныя футры ў індзейцаў і трапераў Паўночнай Амерыкі.

Агулам гандлёвыя карпарацыі мінулага часта паводзілі сябе як дзяржавы: Ост-Індская вяла войны і будавала чыгункі, Кампанія Гудзонавага заліва займала гіганцкія тэрыторыі. Адзінае, чаго ім не хапала, — легітымнасці ўлады. Іх маглі нацыяналізаваць адной пастановай брытанскага парламента.

Як выглядаў бізнэс кіеўскіх русаў? Досыць падрабязна пра гэта піша візантыйскі імператар Канстанцін VII Парфірародны ▶



**Варажскі шлем з кургана Чорная Магіла на Чарнігаўшчыне.** Другая палова X стагоддзя.

ў павучанні сыну Раману. З яго нататак можна зразумець, што русы не валодалі ніякай тэрыторыяй, апроч самога Кіева ды фартоў па Дняпры са складамі і памяшканнямі, каб трымаць нявольнікаў. Увосень яны выпраўляліся ў палюддзе па землях саюзнікаў-славян. Збор тавару — пушніны і рабоў — працягваўся паўгода. Увесну русы фармавалі караван і плылі па Дняпры ў Канстанцінопаль збываць сабранае за восень-зіму. З такіх двух цыклаў і складалася іх жыццё.



Зняць рэалістычнае кіно пра эпоху вікінгаў вельмі цяжка: **занадта шакуючая была б для сённяшняга гледача тагачасная рэальнасць.**

## « І вось адзін з іх злучаецца са сваёй дзеўкай, а таварыш яго глядзіць на яго»

Адну з груповак русаў пабачыў на Волзе арабскі вандроўнік Ібн Фадлан (і гэта стала асновай для фільма «Трынаццаты воін» з Антоніа Бандэрасам):
«Я не бачыў людзей з больш дасканалымі целамі. Яны падобныя да пальмаў, румяныя, чырвоныя. Яны не носяць ні куртак, ні каптанаў, але носіць які-небудзь муж з іх ліку кісу (плашч), якой ён пакрывае адзін свой бок, прычым адна з яго рук выходзіць з яе. У кожнага маецца сякера, і меч, і нож, і ён не расстаецца з тым. Мячы іхнія плоскія, з баразёнкамі, франкскія. І ад краю пазногцяў да шыі ў іх маюцца выявы дрэў, рэчаў і людзей. ...На шыях у іх жанчын некалькі радоў маністаў з золата і срэбра, бо, калі чалавек валодае дзесяццю тысячамі дырхемаў, ён спраўляе жонцы адно маніста, а калі дваццаццю — два, і такім чынам кожныя дзесяць тысяч, якія ў яго дадаюцца ў выглядзе маністаў у яго жонкі. Яны найбруднейшыя з стварэнняў Алаха — не ачышчаюцца ні ад спаражненняў, ні ад мачы, і не абмываюцца ад полавага бруду, і не мыюць сваіх рук пасля ежы. Яны прыбываюць са сваёй краіны на Ітыль, а гэта вялікая рака, і будуюць на яе беразе вялікія дамы з дрэва, і збіраецца іх у адным такім доме і дзесяць, і дваццаць, і ў кожнага лава, на якой ён сядзіць, і з імі дзеўкі-рабыні — захапленне для купцоў. **І вось адзін з іх злучаецца са сваёй дзеўкай, а таварыш яго глядзіць на яго.** Часам жа злучаюцца многія з іх адзін насупраць аднаго, і ўваходзіць купец, каб купіць у каго-небудзь з іх дзеўку, і застае яго. Але рус не пакідае яе, пакуль не задаволіць сваю патрэбу».



SHUTTERSTOCK.COM BY IVAN ABRAMKIN

«Кампаніі-дзяржавы», піша Талочка, даволі доўгі час могуць існаваць без тэрыторыі. Усё, што трэба, — сетка фартоў і гандлёвых факторый, якія кампанія кантралюе, і флот для хуткай камунікацыі паміж апорнымі пунктамі. Плюс рэсурсная зона. «Росы кіруюць не дзяржавай, а вялікай дарогай. Гэта як сёння кантралявалі б сетку аўтазаправак уздоўж галоўнай аўтастрады», — піша Талочка.

### Ці бралі палачане Царград?

Талочка звяртае ўвагу на тое, што згаданыя вышэй дамовы русаў з Візантыяй хутчэй


**Ладдзя вікінгаў на возеры.** Парк-музей інтэрактыўнай гісторыі «Сула» ў Стаўбцоўскім раёне. **А справа ўнізе — дакладная рэканструкцыя дракара** з музея мараплаўства вікінгаў у Осла, Нарвегія.

гандлёвыя, чым міждзяржаўныя. Яны рэгулююць эканамічныя адносіны ды правілы гандлю ў Канстанцінопалі рускіх купцоў.

У першых пагадненнях члены сям'і, якая пасля стане княскім родам, яшчэ пералічваюцца нароўні з шараговымі бізнэс-партнёрамі. Магчыма, спачатку іх пышныя тытулы («светлы князь!») выклікалі агульны смех усёй кампаніі, але паступова кантакты з Візантыяй накідвалі пэўныя ўзоры паводзін.

«Калі кантактуеш з дзяржавамі, спрабуеш вытлумачыць сябе ў зразумелых ім катэгорыях, — адзначае даследчык. — Аднак неабходна працяглае ўздзеянне чужародных ідэй, каб купцы-ваяры пачалі ўсур'ёз думаць пра сваю эканамічную зону як пра дзяржаву, пра сябе — як пра князёў, а пра сваіх тубыльцаў — як пра падданых».

**Паход 907 года з прыбіваннем шчыта да варотаў Царграда, у якім «удзельнічалі» крывічы і палачане, падобна, быў выдуманы**

Ці былі тыя дамовы вынікамі ваенных паходаў? Налёты варажскіх флатылій на Канстанцінопаль здараліся, яны фіксуюцца ў візантыйскіх хроніках. Але няма пэўнасці, што іх ініцыятарам і правадыром з'яўляўся лідар кіеўскай групы русаў. Бо пасля разгрому вікінгаў ён працягваў спакойна гандляваць на царградскіх кірмашах.

Як паказваюць аналагічныя рэйды на Англію ці Францыю, пірацкія флатыліі фармаваліся без ніякай цэнтралізаванай структуры і агульнага камандавання. ▶

▶ А для нас тут самае прыкрае, што паход 907 года з прыбіваннем шчыта да варотаў Царграда, у якім «удзельнічалі» крывічы і палачане, падобна, быў выдуманы. Летапісец спрабаваў накласці рэальнасць свайго XII стагоддзя — з трывалай ужо дзяржаўнай структурай і падпарадкаванымі землямі — на пачатак X-га. Бо адной з мэтаў летапісу было падкрэсліванне легітымнасці ўлады.



**Гібель рускага флоту пад Царградам.** Аўтар Фёдар Бруні. Каля 1839 года. Гэты напад на Канстанцінопаль «невядомага народа з краю зямлі» ў візантыйскіх хроніках датуецца 860 годам. Ці ўдзельнічалі ў ім кіеўскія русы — невядома.

## Гандаль людзьмі: сведчанні

Гандаль нявольнікамі неяк абмінаецца ўвагай, калі пішуць пра былінна-гераічнае паўставанне першых рускіх княстваў. Тым часам пра гэты бізнэс русаў згадваюць арабскія падарожнікі, у дамовах Візантыі з русамі вызначэнне цаны на жывы тавар ідзе асобным пунктам.

Апроч дакументальных крыніц, ёсць і археалагічныя сведчанні. Такія, як гіганцкія магільнікі каля адносна невялікіх пасяленняў. Так, у Гнёздаве каля Смаленска — каля 5 000 пахаванняў тае пары.

Цяжкія пераходы і дрэнныя ўмовы ўтрымання выклікалі высокую смяротнасць сярод нявольнікаў. Яшчэ адзін ускосны доказ — багатыя рэчавыя знаходкі ў аддаленых ад гандлёвых шляхоў і рэк мясцінах: імпартныя тавары і ўпрыгожанні, а таксама састарэлую заходнюю зброю там можна было атрымаць толькі ў абмен на жывы тавар, адзначае даследчык.

Ён праводзіць паралель з дзейнасцю партугальцаў у Заходняй Афрыцы ў XV—XVII стагоддзях: яны таксама аддавалі перавагу абмену — не лавілі рабоў у трапічных лясах, а дамаўляліся з мясцовымі князькамі пра пастаўкі ўзамен на прадметы раскошы і прэстыжу.

Шэраг даследчыкаў піша, што на беларускіх землях гандаль нявольнікамі дажыў да XII стагоддзя — у часы Глеба Менскага яго цэнтрамі сталі Менск і Друцк.



**Варажскі атрад у Візантыі.** Малюнак-рэканструкцыя канца XIX стагоддзя.

## Сацыяльная катастрофа 950-х

Ператварэнне кіеўскай гандлёвай карпарацыі ў дзяржаву адбылося толькі ў часы Уладзіміра

Святаслававіча, лічыць Талочка. Другі срэбны крызіс 950-х цалкам спыніў прыток дырхемаў з Блізкага Усходу, і русы, якія «працавалі» на волжскім кірунку, зніклі бясследна з усёй сваёй інфраструктурай.

Дняпроўская русь, у адрозненне ад волжскай, захавалася. Яна была скансалідаваная, мела перад вачыма прыклад Візантыі, а хаос даў ёй магчымасць перафарматавацца. Кіеў пераходзіць на ўнутраныя рэсурсы, а для гэтага трэба кантроль над тэрыторыяй і падпарадкаванне насельніцтва. Замест ранейшых гандлёвых паселішчаў масава з'яўляюцца ўмацаваныя дзядзінцы.

**Маскавічы**

Скандынаўскае гарадзішча ў сённяшнім Браслаўскім раёне. Гісторык Андрэй Катлярчук называе яго фарпостам Полацкага княства, што кантраляваў мяжу з балтамі і волакі на Браслаўскіх азёрах. Стаіць над возерам Дзябро, з яго праз азёры і раку Друйку можна трапіць у Дзвіну. Археолагі адшукалі ў Маскавічах, апрача скандынаўскіх рэчаў ды зброі, мноства надпісаў скандынаўскімі рунамі і малюнкаў на костках свойскай жывёлы. Надпісы — магічныя замовы, варажскія імёны... Заняпад Маскавічаў у пачатку XIII стагоддзя супадае са з'яўленнем рыцараў-мечаносцаў, якія пабудавалі Рыгу і ўзялі пад кантроль гандаль па Дзвіне.

Водгуллем той сацыяльнай катастрофы могуць быць летапісныя гісторыі пра забойства Ігара (ён чамусьці другі раз за год пайшоў у палюддзе да драўлянаў), усталяванне Вольгай «пагостаў» — месцаў збору даніны. Дый захоп Полацка, які ў крызіс губляў ранейшае гандлёвае значэнне, ці не з гэтай серыі?

Князь Уладзімір па старой памяці спрабаваў кантраляваць гандлёвыя шляхі, адзначае Талочка: і лагічна тут выглядае адсылка падрослага сына Ізяслава ў Полацк, на Дзвіну, а Яраслава — у Растоў, на Волгу. Паралельна ідзе раздача «сталоў», не звязаных з гандлёвымі маршрутамі — асваенне і падпарадкаванне тэрыторыі. Адбываецца і хрышчэнне, а разам з ім — пераймание візантыйскіх узораў Царквы і ўлады.

**Падрабязней пра гэта**

можна пачытаць у кнізе Андрэя Катлерчука «Шведы ў гісторыі і культуры беларусаў»




Гісторыя і маршруты «Полацкай гандлёвай карпарацыі» яшчэ чакаюць сваіх даследчыкаў. Ці будзе ў гэтай гісторыі месца прыгожай легендзе непакорнай Рагнеды? Ці яна, як «прызванне варагаў», будзе аднесеная да агульных месцаў еўрапейскай дынастычнай міфатворчасці? Як бы ні было, але свет аматара гісторыі, які прачытае кнігу Аляксея Талочкі, ужо ніколі не будзе ранейшым. ◆



Від на азёры **побач з гарадзішчам вікінгаў Маскавічы.**

**Ператварэнне кіеўскай гандлёвай карпарацыі ў дзяржаву адбылося толькі ў часы Уладзіміра**

ФОТА СЯРГЕЯ ГУДЗІЛІНА

## Доўгія дамы вікінгаў

Традыцыйным жытлом вікінгаў у Скандынавіі, Ісландыі ды Грэнландыі былі «доўгія дамы». Гэта пабудова накшталт вялікага ангара ці казармы, даўжыня якой магла сягаць трыццаці метраў. Страха была крытая дзірваном (а ў самых старажытных доўгіх дамах страхой служыў перакулены карабель). Страху падтрымлівалі магутныя драўляныя слупы. Страха даходзіла да зямлі, і на ёй лазілі козы і дзеці.

Дамы былі «курныя». У цэнтральнай частцы дома гарэлі — «курылі» — вогнішчы, дым выходзіў праз спецыяльныя дзіркі ў страсе. Каля вогнішчаў стаялі сталы, каля сцен — лавы, на якіх можна было спаць. Часам дамы былі разгароджаныя. У канцах маглі быць каморы для прадуктаў, загоны для жывёлы.



SHUTTERSTOCK.COM, BY MP.CZ

## Вікінгі — людзі спецыфічных заняткаў

Так называлі мараходаў, піратаў і гандляроў родам са Скандынавіі. Адна з версій паходжання гэтай назвы — ад слова *wiking*, што раней у Нарвегіі значыла «ісці ў мора па багацце і славу».
У раннім Сярэднявеччы бедная скалістая радзіма не магла пракарміць скандынаваў, зямлі не хапала. І маладыя мужчыны выпраўляліся ў чужыя землі на пошукі прыгодаў і багацця. У Францыі і Англіі іх называлі нарманамі (*«nord mann»*, «паўночнымі людзьмі»), у Візантыі — варангамі, ва Усходняй Еўропе — варагамі і русамі.
Вікінгі плавалі па Балтыйскім, Паўночным, Чорным, Міжземным, Каспійскім морах. Часта яны не вярталіся на радзіму са сваіх паходаў, застаючыся жыць у чужых землях. Калоніі вікінгаў, некаторыя з якіх сталі дзяржавамі, былі раскіданыя ад Кіева да Нармандыі, ад Усходняй Англіі да Сіцыліі і Паўночнай Афрыкі.

## Хрэн, кмен і дохлыя кіты: рацыён вікінгаў

Даследчыкі прыйшлі да высновы, што харчаваліся вікінгі разнастайна: мяса жывёл, птушкі і рыбы, садавіна, хлеб. Значную частку складалі мяса і тлушч выкінутых на бераг кітоў. Вёскі маглі жорстка спрачацца за аднаго кіта, які выкінуўся на «памежнай» тэрыторыі.
Праўда, з мясам была праблема: яно доўга не захоўваецца. Вікінгі сушылі яго на сонцы і, як вынік, мучыліся ад глістоў і іншых паразітаў.
Вікінгі трымалі свіней, коз, авечак, коней, кароў. На некаторых фермах было да 100 жывёл. Таксама разводзілі курэй, гусей, качак.
У моры лавілі скумбрыю і траску, у рэках — ласося. Не грэбавалі мясам цюленяў і марскіх свінняў (гэта такі дэльфін).
Садавіна, агародніна, малочныя прадукты і алей складалі істотную частку іх рацыёну. Елі слівы, цёрн і яблыкі, сушылі іх на зіму. Вырошчвалі радыску, гарох, фасолю, капусту, шпінат, пастарнак, рэпу, моркву... Таксама елі цыбулю, грыбы і марскія водарасці.
Збожжавыя культуры выкарыстоўвалі, каб пячы аладкі і варыць піва. Для смаку дадавалі ў ежу кроп, гарчыцу, насенне маку, хрэн, кмен, крэс-салату. Ведалі і экзатычныя спецыі.
Карта напояў была бяднейшая: пілі, акрамя піва, звычайную ваду, малако і медавуху.



**Вікінгі адпачываюць.** Фрагмент каменя з вострава Готланд, які цяпер экспануецца ў Шведскім музеі нацыянальных старажытнасцей у Стакгольме.



## Вікінгі адкрылі Амерыку

На 500 год раней за Хрыстафора Калумба Лейф Эрыксан, сын конунга Эрыка Рудога, на караблі з 35 спадарожнікамі адплыў ад Грэнландыі і дасягнуў Паўночнай Амерыкі. Яны пабывалі на Бафінавай зямлі (назваўшы яе Хелуланд), паўвостраве Лабрадор (Маркланд) і ўзбярэжжы Ньюфаўндленда. Апошні яны назвалі Вінланд з-за вялікай колькасці буйнога вінаграду, знойдзенага там. Археолагі адшукалі сляды іх стаянак. Вікінгі некалькі разоў зімавалі ў новых землях, ваявалі з мясцовымі плямёнамі, якіх называлі скрэлінгамі. Якраз пастаянныя набегі «скрэлінгаў» змусілі вікінгаў адмовіцца ад ідэі асталявацца ў Амерыцы, тлумачыцца ў сагах.
Паўночны шлях у Амерыку быў забыты пасля эпідэміі чумы ў XIV стагоддзі, якая цалкам, да апошняга чалавека, знішчыла скандынаўскае насельніцтва Грэнландыі.
Пра падарожжы Лейфа расказваюць «Сага пра Эрыка Рудога» і «Сага пра грэнландцаў».



**«Лейф Эрыксан адкрывае Амерыку»**, карціна Ханса Даля (1849–1937), славутага нарвежскага мастака.

## Чым біліся

Самымі пашыранымі відамі зброі былі меч і сякера. Меч вікінга — зазвычай да 80 см у даўжыню і да 6 см у шырыню, вагой да 1,5 кг, заточаны з абодвух бакоў. Ён быў прызначаны для таго, каб біцца адной рукой, а ў другой трымаць шчыт. Апроч мячоў, атрыбутам багатых людзей былі нажы-скрамасаксы, накшталт мачэтэ, заточаныя з аднаго боку.
Баявыя сякеры эпохі вікінгаў былі невялікія і вузкія, накшталт індзейскіх тамагаўкаў ці гуцульскіх сякерак.
Таксама пашыраным і недарагім відам узбраення былі дзіды. Яны мелі асаду ў 1,5 м і доўгі лістападобны наканечнік. Такой дзідай можна было не толькі калоць, але і секчы.
Лукі вікінгі гнулі з цісавых, ясеневых ці вязавых сукоў. Цеціву пплялі з валасоў. У сагах апісаны выпадак, калі жонка, раззлаваўшыся на мужа, не дала яму свае валасы, каб замяніць парваную цеціву, калі на дом напалі ворагі. Скончылася гэта трагічна.

## У што верылі

Вікінгі верылі ў **Одзіна**, вярхоўнага бога, якога выяўлялі ў выглядзе старога аднавокага чалавека (другое вока ён аддаў, каб атрымаць веды). Одзіна суправаджаюць **ваўкі і крумкачы** — гэтыя істоты былі прысвечаныя яму. Яшчэ Одзіну (Вотану, Водану ў іншых германскіх народаў) быў прысвечаны дзень тыдня серада, што адбілася на яе назве ў многіх сучасных мовах (напрыклад, у англійскай — *Wednesday*). Чацвер быў прысвечаны Тору, сыну Одзіна і богу грому, пятніца — Фрэйру, богу плоднасці і лета (*Thursday* і *Friday* па-англійску).
Былі і адмоўныя багі, напрыклад бог хітрасці і падману Локі. Ён увесь час шкодзіць і вядзе свет да пагібелі. Яго дзеці — гіганцкі змей Ёрмунганд, пачварны воўк Фернір і валадарка свету памерлых Хель.
Вікінгі ўяўлялі свет трохузроўневым, уладкаваным вакол сусветнага дрэва, ясеня Ігдрасіля. Наверсе, у Асгардзе, жылі багі. Пасярэдзіне, у Мідгардзе, людзі. Пад зямлёй, у Хельхейме, душы памерлых, якія не трапілі ў рай — Вальгалу.
Вікінгі верылі, што калісьці воўк Фернір, скаваны багамі, вырвецца на волю і тады надыдзе канец свету — Рагнарок.



## Правы жанчын

Жанчыны вікінгаў мелі з мужчынамі роўныя правы. Вядома, гаворка пра вольных багатых скандынавак, а не пра рабынь. Калі на тое былі важкія прычыны, жанчына магла нават развесціся з мужам і забраць назад свой пасаг. Такія выпадкі апісаныя ў сагах.



SHUTTERSTOCK.COM, BY NEJRON PHOTO

## Рагатыя шлемы вікінгаў — выдумка




Ваяваць у рагатым шлеме нязручна. Па-першае, цяжка, па-другое, можна заблытацца ў кустах, па-трэцяе, пры першым удары ён злятае. Калі рагатыя шлемы ў эпоху вікінгаў і былі, дык надзяваліся падчас містычных рытуалаў. У штодзённым баявым жыцці выкарыстоўваліся гладкія шлемы, якія маглі гасіць удар па галаве. Выявы ж вікінгаў у рагатых шлемах пачалі множыцца ў эпоху рамантызму — у XIX стагоддзі. Прафесійнай археалогіі не існавала, тагачасныя мастакі фантазіравалі, малюючы на шлемах вікінгаў крылы ды рогі. Такі незвычайны вобраз замацаваўся ў масавым уяўленні.



## На чым плавалі

Вайсковыя караблі вікінгаў называліся дракарамі — бо на носе звычайна змяшчалася драўляная галава *драк*она. У даўжыню дракар меў 18 метраў, у шырыню — да 2,6. Ён быў хуткаходны, лёгкі і з малой асадкай. На борт такі карабель мог браць да 70 чалавек. Дракар меў ветразь, але часта вікінгам, асабліва на рэках і ў ф'ёрдах, даводзілася веславаць. 12-метровая мачта была здымная, на яе ставіўся ветразь шырынёй 20 метраў.




## Цэны ў каровах

Універсальнай адзінкай вымярэння цаны ў часы вікінгаў была… карова. У канцы XI стагоддзя за адну карову можна было атрымаць 72 метры ваўнянай тканіны для адзення. Або — трох свіней ці шэсць авечак. Рабыня цанілася як дзве каровы. Раб, таксама як і конь, — тры каровы.
За сярэдні меч (без упрыгожанняў, б/у) маглі аддаць ад 3 да 7 кароў (у залежнасці ад стану). Калі ж меч быў выраблены вядомым майстрам, аздоблены каштоўнымі металамі — цана ўзлятала. Так, за меч з пазалочаным тронкам давалі 13 кароў! Амаль столькі ж каштавала і кальчуга — гэта былі самыя дарагія элементы экіпіроўкі ваяра. Шчыт, дзіда і баявая сякера каштавалі прыкладна аднолькава — адна карова за прадмет. Таму такое ўзбраенне было самым даступным і масавым.

## Найлепшы музей вікінгаў

знаходзіцца ў Стакгольме і называецца *Vikingaliv*. Там, апроч найбагацейшай экспазіцыі, ёсць 3D-атракцыён, які распавядае гісторыю асобна ўзятай сям'і з X стагоддзя.

VIKINGALIV
A TRUE ADVENTURE

# «Ліхім жывешы, літвой арэшы»:



# рабства на Русі

**У «Рускай праўдзе» — першым зводзе законаў Русі князя Яраслава Мудрага 1016 года — нямала прававых нормаў прысвечана рабам. У «Праўдзе» іх называюць халопамі ці чэляддзю. Выходзіць, рабы былі значнай часткай насельніцтва Русі, калі іх учынкі патрабавалі рэгламентацыі. Рабы выступалі суб'ектамі права, а адказнасць за іх неслі гаспадары, піша кандыдат гістарычных навук Алег Дзярновіч.**

Яшчэ ў XIX стагоддзі гісторыкі-рамантыкі лічылі, што ў славян Усходняй Еўропы рабства было пашырана нязначна. Толькі асобныя даследчыкі здолелі ўбачыць у ім сапраўдны сродак умацавання асабістай улады ў грамадстве, а значыць — маёмаснай дыферэнцыяцыі і перадумоў сацыяльнай няроўнасці. «Эканамічны дабрабыт Кіеўскай Русі трымаўся на рабаўладанні нават у XII стагоддзі», — меркаваў Васіль Ключэўскі.

У савецкай гістарыяграфіі панаваў шаблонна-марксісцкі погляд, што на Русі X—XIII стагоддзяў склаўся феадалізм. Акадэмічнае выданне «Гісторыя Беларускай ССР» 1970-х гадоў адносіла яго фармаванне ў Беларусі да IX стагоддзя. З пункту гледжання гістарычных фактаў гэта зусім некарэктна.

Цяпер пануе меркаванне (яго трымаюцца, у прыватнасці, расійскія гісторыкі Ігар Фраянаў і Андрэй Дварнічэнка), што

**У Полацкай і Смаленскай землях феадалізм склаўся не раней за XIV—XV стагоддзі. Да таго ўсё трымалася на рабскай працы**

**Захоп палону на Русі падчас княскіх міжусобіц.** Мініяцюра з Радзівілаўскага летапісу.

невялікія сядзібы-вотчыны Кіеўскай Русі трымаліся на рабскай і паўсвабоднай працы, а элементы феадальнай залежнасці з'явіліся ўжо пазней. А ў Верхнім Падняпроўі і Падзвінні, у Полацкай і Смаленскай землях, феадалізм раней за XIV—XV стагоддзі наогул не склаўся.

Вядома, рабства на Русі не мела маштабаў антычнага. Гэта быў, хутчэй, гаспадарчы ўклад і адна з сацыяльных рэалій. Аднак, як высвятляецца, значнасць гэтага ўкладу гісторыкі недаацэньвалі.

У IX—X стагоддзях галоўнай крыніцай рабства быў палон. І рабоў паспяхова прадавалі, пераважна ў Візантыю. Але з развіццём княскага і баярскага землеўладання для чэлядзі знаходзілася ўсё больш працы на Русі, а ў некаторых рэгіёнах рабы пачыналі складаць канкурэнцыю свабодным людзям у апрацоўцы зямлі. Так, пасля паходу галіцка-валынскага князя Рамана за Нёман гэты валадар засяліў свае сёлы літоўскім палонам, і сярод мясцовага насельніцтва склалася непрыхільная да князя прымаўка: «Рамане, ліхім жывешы, літвой арэшы».

Вядома, рабы складалі важную частку ваеннай здабычы, як гэта адбылося ў 1084 годзе ў Менску і яго ваколіцах, калі Уладзімір Манамах разрабаваў горад і не пакінуў тут, паводле летапісу, «ні чалядзініна, ні скаціны».

## За згвалтаванне рабыні

Старабеларускае права XIII стагоддзя ўжо ведала пакаранні за згвалтаванне рабыні.

Даследчыкі мяркуюць, што тэрмін «чэлядзь» з'явіўся раней за тэрмін «халоп». Чэляддзю (параўнайце з англійскім *child*) лічыліся палонныя, захопленыя ў час войнаў, халопы ж фармаваліся з мясцовага люду.

Бо ў XI стагоддзі рабамі станавіліся ўжо не толькі паланяне, але і суайчыннікі, якія траплялі ў халопства за нявыплачаныя пазыкі, а таксама ў выніку шлюбаў свабодных з несвабоднымі. Асобны шлях — прыняцце «халопскіх» пасадаў, накшталт ключнікаў ці цівуноў. Менавіта таму гордая Рагнеда заявіла, што не пойдзе замуж за «рабыніча» Уладзіміра, сына ключніцы Малушы.

Царкоўныя гісторыкі пішуць, што становішча чэлядзі паступова змякчала хрысціянская Царква. А з'яўленне вялікай колькасці рабоў з ліку суайчыннікаў спрыяла таму, што на іх пашыраліся некаторыя спадчынныя і маёмасныя правы. Старабеларускае права XIII стагоддзя будзе ўжо ведаць пакаранні за згвалтаванне рабыні — адну грыўню срэбра «за сорам».

## Канчаткова «рабскую спадчыну» «Рускай праўды» на нашых землях змагла пераадолець толькі каралева Бона

Канчаткова ж «рабскую спадчыну» «Рускай праўды» на нашых землях змагла пераадолець толькі каралева Бона, якая ў першай палове XVI стагоддзя правяла рэформу велікакняскіх зямельных уладанняў, у выніку якой з вёсак Вялікага Княства знікла нявольніцтва, якое праіснавала нават да тае пары. ◆

**Санько, Зміцер; Санько, Юрась. Слаўнае сяло Азярычына: свет нашых продкаў.** – Мінск: Тэхналогія, 2019. – 352 с.




Гэтая кніга — пра вёску Пухавіцкага раёна, радзіму аўтараў, а таксама яе найбліжэйшыя ваколіцы.

Апошнім часам у Беларусі кнігі, прысвечаныя гісторыі адной вёскі ці мікрарэгіёна — не рэдкасць. Але гэта выданне — узорнае для прац падобнага кшталту і паводле паліграфічнай якасці, і паводле інфармацыйнага напаўнення. У тоўстым фаліянце альбомнага фармату пад цвёрдай вокладкай – усё, што толькі можа быць: і гісторыя вёскі, і песні, якія спявалі продкі аўтараў, і назвы азярыцкіх урочышчаў, і традыцыйныя імёны, і слоўнік азярыцкай гаворкі, і ўспаміны азерыкоў пра даўнейшае жыццё, і спіс ахвяраў рэпрэсій 30–40-х гадоў. Акрамя таго, выданне багата ілюстравана фотаздымкамі з сямейных архіваў.

Кнігу можна набыць у мінскай кнігарні «**Акадэмкніга**».

# Торвальд, які (не) хрысціў Полацк

**Ісландзец Торвальд Кодрансан — адзін з першых вядомых хрысціян у Беларусі, які стаіць у адным шэрагу з княгіняй-манахіняй Рагнедай-Анастасіяй, яе сынам Ізяславам, біскупамі Рэйнбернам і Бруна Кверфурцкім. Але ягоная постаць міфалагізаваная, асабліва ў апошнія гады. Колькі ў тых міфах можа быць праўды, разбіраецца Максім Гацак.**

Сёння ў шырокадаступных крыніцах можна знайсці інфармацыю пра тое, што Торвальд хрысціў Полацк яшчэ ў 986 годзе, за два гады да хрышчэння Кіева. Падставай для такіх сцверджанняў сталі артыкулы гісторыка Андрэя Катлерчука «Місія Торвальда Вандроўніка» і «Торвальд Вандроўнік, ці Скандынаўскія пачаткі хросту Беларусі», прысвечаныя «сенсацыйным падзеям хросту палачан каля 986 года, адноўленым на падставе скандынаўскіх крыніц». З'явіліся гэтыя публікацыі каля дзясятка гадоў таму.




**Фрэска з выявай Торвальда Вандроўніка** ў касцёле ў Расонах.

Паводле Катлерчука, Торвальд прыбыў у Полацк у якасці паўнамоцнага прадстаўніка візантыйскага імператара, і яго мусілі слухацца князі. У Полацку ён нібыта сустрэўся з іншым «вікінгам-хрысціянінам» Олавам Тругвасанам, стаў намеснікам манастыра Святога Яна і памёр падчас нападу кіеўскага князя Уладзіміра каля 1000 года.

Але версія Катлерчука не ўпісваецца ў біяграфію Торвальда, якую падаюць скандынаўскія крыніцы.

Па-першае, сустрэча Торвальда з Олавам Тругвасанам адбылася хутчэй не ў Полацку, а на Балтыцы, пасля ўцёкаў Торвальда з Ісландыі. Олаў у гэты час у складзе войска польскага князя ваяваў з паганцамі Даніі і палабскімі славянамі. Мог у тых паходах удзельнічаць і Торвальд. Паколькі Олаў каля 985 года пакінуў Польшчу, найбольш верагодная дата сустрэчы — 985 год.

Тады Олаў яшчэ не быў хрысціянінам. Пра Хрыста ён кажа як пра Бога Торвальда, але не свайго.

Па-другое, Торвальд наўрад ці мог патрапіць у Полацк у 986 годзе. Спачатку ён «...аб'ездзіў ўсю Грык'ярыку (Візантыю) і прыехаў у Міклагард (Канстанцінопаль)». Занадта доўгі маршрут, каб прайсці яго ў X стагоддзі за год.

«Сага аб хрышчэнні Ісландыі» дадае, што падарожжа Торвальд пачаў у 1000 годзе. Менавіта тады ён сустрэўся з іншым хрысціянскім прапаведнікам у Ісландыі — Стэўнірам Торгільсанам. «Яны разам падарожнічалі па свеце, даехалі да Іерусаліма, а адтуль паехалі ў Міклагард, а потым у Кэнугард (Кіеў)». І толькі пасля згадваецца Полацк.

У Візантыі Торвальд мог служыць у варажскай гвардыі візантыйскага імператара. Гэта тлумачыць і яго вандраванні, і доступ да басілеўса. Варажская дружына ў 987—989 гадах душыла паўстанні ў Сірыі і Малой Азіі. Ваявалі варагі ў Сірыі і ў 999 годзе, а ў 1000-м біліся з людзьмі абхазскага цара.

## Торвальд і Стэўнір маглі прыбыць у Полацк паміж 985 і 995 гадамі

Так што сагі не адмаўляюць, што паміж 985 (986) і 995 гадамі Торвальд і Стэўнір маглі прыбыць у Полацк. Але відавочна, што там яны не заставаліся, манастыроў не засноўвалі і не паміралі, бо пасля 1000 года зноў накіраваліся туды. І гэты раз для Торвальда стаў апошнім. Хутчэй за ўсё, у Полацк яны патрапілі не раней за 1002 год — праз 14 гадоў пасля традыцыйнай даты хрышчэння Русі. Так што казаць, што Торвальд хрысціў Полацк, не выпадае.

Са скандынаўскіх крыніц вядома, што Торвальд заснаваў у Полацку манастыр каля царквы Святога Яна. У гэтым

манастыры ён памёр і быў пахаваны. Адбылося гэта, з улікам будаўніцтва манастыра і наступнага «дабрачыннага жыцця», каля 1005 года, а не каля 1000-га, як піша Катлярчук. Версія пра смерць разам з князем Рагвалодам падчас штурму Полацка Уладзімірам не вытрымлівае крытыкі. Паводле скандынаўскіх крыніц, Торвальд «скончыў свой век у дабрачынным жыцці» ў манастыры. А захоп Полацка, згодна з агульнапрынятай храналогіяй, адбыўся ў 980 годзе.

Міф таксама кажа, што пасля смерці Торвальда Полацк наведаў вікінг Бранд. Вядомая згадка ў «Сазе аб хрышчэнні Ісландыі»: «Бранд Вандроўнік кажа так: "Я ездзіў туды, дзе Хрыстос супачыў Торвальда Вандроўніка. У высокай гары, каля Драпна, каля царквы Яна цяпер ён ляжыць"». «Сага пра Торвальда...» кажа, што манастыр «стаіць пад высокай гарой, якая называецца Дроўн (*Dröfn*)». «Сага пра хрышчэнне...» ўдакладняе: Торвальд быў пахаваны ў «гары высокай, каля Драўна (*Drafne*)».



FLICKR.COM

**Помнік Торвальду Вандроўніку** і ягонаму паплечніку па місіянерскай дзейнасці, біскупу Фрыдрыку, у Ісландыі. Пастаўлены ў 1981 годзе да 1000-годдзя хрышчэння гэтай краіны.

У Полацку сапраўды былі манастыр і царква Святога Яна Хрысціцеля, ці Іаана Прадцечы, якія стаялі насупраць Верхняга замка, на Востраве. Археолаг Георгій Штыхаў адносіў манастыр да самых старых у Полацку разам са Спаса-Еўфрасіннеўскім і Багародзіцкім. Раскопкі выявілі там рэшткі збаноў і плінфаў XI—XIII стагоддзяў — блізкіх па часе да Торвальда. Сёння рэшткі манастыра і царквы мусяць знаходзіцца на тэрыторыі парку 50-годдзя Савецкай улады, а сам востраў амаль зросся з берагам.

Што тычыцца слова «Дроўн», «Драўне», то гэта можа быць памылковым вымаўленнем скандынавамі слова «Востраў», на якім стаяў манастыр, ці пэўнага аб'екта на ім, які мог называцца «Астроўна» (такіх шмат на Віцебшчыне). Як адзначаў Штыхаў, насупраць Вострава на месцы сучаснага Кургана Бяссмерця быў высокі ўзгорак з валам. Магчыма, гэта тая «высокая гара», пад якой пахавалі Торвальда.

Такім чынам, сучасныя міфы, якія мусілі паказаць першаснасць хрышчэння Полацка перад Кіевам і ўзвысіць беларускае княства на новыя вяршыні, не выглядаюць верагоднымі. Але развенчванне міфаў ніяк не змяншае важнасці постаці Торвальда ў гісторыі Беларусі як аднаго з першых вядомых хрысціян, прапаведніка ды фундатара аднаго з першых манастыроў. Не змяншае гэта і значнасці Полацка. ◆


PINTEREST.COM

**«Доўгі дом»** — жытло вікінгаў у Скандынавіі ды Ісландыі (схема).

# Як мы ў Шклове адбудавалі ратушу

Сярэднюю адукацыю я здабыў у школе №3 горада Шклова. Школьны будынак — двухпавярховы, цагляны, тынкаваны — здаваўся мне, маломý, велічным.

У пачатку 1960-х школа выконвала ролю цэнтра ўсяго дзіцячага жыцця і была месцам не толькі вучобы, а і шматлікіх гульняў і забаў. Кожны дзень у школьным двары мой погляд міжвольна чапляўся за паўразбураны будынак з вежай, які знаходзіўся побач. Ён меў мясцовую назву «каланча». Унутраныя пакоі са скляпеннямі, вежа і цагляная муроўка падзямелляў прыцягвалі. Будынак быў закінуты, мы лазілі і вывучалі яго.

Пазней я даведаўся, што знаёмы з дзяцінства паўразбураны будынак — гэта гарадская ратуша, пабудаваная яшчэ ў XVIII стагоддзі. Ратуша, у якой засядаў магістрат, працаваў бурмістр, захоўваліся ўзоры мер і вагаў, была сімвалам вольнасці, Магдэбургскага права, да якога ад XV стагоддзя імкнуўся кожны беларускі горад.

Першыя правы Шклоў атрымаў у XVI стагоддзі. У 1574 годзе ўладар Шклова Ян Хадкевіч зацвердзіў у якасці магдэбургскага войта шклоўскага месціча Харытона Васілевіча. Далучыўшыся да агульнаеўрапейскай традыцыі, горад пачаў хутка развівацца. Узровень дабрабыту гараджанаў быў такі, што іх камерцыйную дзейнасць крэдытавалі нават віленскія і замежныя купцы.

Квітнела прадпрымальніцтва. Паводле інвентара 1643 года, у Шклове налічвалася 175 (з улікам мяснікоў — 188) рамеснікаў 45 прафесій! А ўжо ў 1650-м толькі мяснікоў, пекараў, алейнікаў, шаўцоў, кушнераў, крухмальнікаў, якія мелі свае лаўкі і «гандлёвыя месцы», было 300 чалавек. І, як вынік, горад у першай палове XVII стагоддзя быў сёмы па колькасці насельніцтва ў Вялікім Княстве Літоўскім, саступаючы толькі сталічнай Вільні, Магілёву, Берасцю, Слуцку, Менску і Полацку. Гэта былі часы найбольшага росквіту за ўсю гісторыю Шклова.

Вось так! Правінцыйны горад — і раптам ратуша. Мой гонар цешыўся тым, што падобных помнікаў у Беларусі засталіся адзінкі.

Між тым, мясцовая каштоўнасць знаходзілася ў занядбаным стане. Першы паверх і частку былых гандлёвых радоў займалі пажарнікі, потым тут гаспадарылі гаргаз і школа. Але тое, што будынак яшчэ некаму быў патрэбны, захавала яго ад зносу.

Ідэя аднавіць ратушу пачынала лунаць сярод неабыякавых людзей і бударажыць мяне асабіста. У тыя часы вялікі грамадскі рэзананс мела друкаванае слова. Артыкулы пра ратушу ў Шклове рэгулярна пачынаюць з'яўляцца ў мясцовых газетах. Найбольш рашуча дзейнічаў былы партызан, шклоўскі настаўнік Іван Кулікаў. Ён дасылаў лісты ў «Советскую Белоруссию», «Літаратуру і мастацтва», пісаў пра неабходнасць рэстаўрацыі ратушы, крытыкаваў раённае начальства, якое марудзіць.

Каб зрушыць справу, група актыўных гараджанаў скіроўвала лісты ў Прэзідыум Вярхоўнага Савета і Саўмін БССР.

У 1986-м актывісты Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры запусцілі ў раёне збор сродкаў на рэстаўрацыю. І за няпоўны год атрымалі амаль тысячу рублёў. Сярод арганізацый найбольш пералічыў райкам КПБ — 270 рублёў, сярод грамадзян — святар Спаса-Праабражэнскай царквы айцец Валянцін Цвікевіч — 50 рублёў.

Аднаўленне пачалося ў 1988 годзе. Упершыню за пасляваенны перыяд над збудаваннем з'яўляецца часовы дах. Праз два гады пачынаецца ачышчэнне падзямелляў ад смецця, якое назапашвалася тут некалькі дзесяцігоддзяў. У часе добраахвотнага нядзельніка тут працаваў і дэпутат Вярхоўнага Савета БССР ад Шклоўшчыны, дырэктар саўгаса «Гарадзец» Аляксандр Лукашэнка.

Аднак у кастрычніку 1993 года работы прыпыніліся з-за адсутнасці сродкаў. Пра Шклоўскую ратушу нібыта забылі. Успомнілі, калі шукалі пляцоўку пад новую школу. Той будынак, у якім я вучыўся, ужо не адпавядаў сучасным патрабаванням. І тады ўзнікла думка спалучыць будаўніцтва школы з рэстаўрацыяй ратушы.

Работы пачаліся ў 1998 годзе, а ўжо ў другой палове мая 1999-га на вежу ратушы паставілі купал са шпілем. Наверсе быў размешчаны флюгер з гербам Шклова і лічбамі 1762. Герб і дата пацвярджаюць Магдэбургскае права горада і надаюць яму адпаведны статус.

У тыя складаныя гады мне, выкладчыку ПТВ-139, давялося падпрацоўваць у былой роднай школе ў якасці вартаўніка. Абыходзячы закуткі, я ўжо не знаходзіў у школьным будынку былой велічнасці. Збудаванне было згорбленае, урослае ў глебу і з вуліцы Дняпроўскай захінала фасад аднаўленай ратушы.

Калі школу пачалі разбіраць, у душы, безумоўна, з'явіўся смутак. Але Шклоў узамен атрымліваў значна больш. У горадзе з'явіўся ансамбль, у які ўпісаныя



SHUTTERSTOCK.COM. BY DMITRIY GUTKOVSKIY




**На вышыні з «Нашай гісторыяй». Сі-Эн Таўэр (*CN Tower*) у канадскім Таронта.**
Андрэй Берасневу

архітэктурны помнік і сучасная навучальная ўстанова.

У будынку працуе і гісторыка-краязнаўчы музей. Статус школы ўзвысіўся да гарадской гімназіі. Усё гэта вельмі цешыць.

Шлях, які прайшоў будынак, ад напаўразбуранай «каланчы» да архітэктурнага ансамбля, натхняўся самымі рознымі людзьмі. Многія з іх ужо адышлі ў іншы свет. Але справы не былі дарэмныя. У нацыянальную спадчыну Беларусі вярнуўся найцікавейшы аб'ект.

**Алесь Грудзіна, Шклоў**

# Вітанне ў Варняны

Мы ведаем, што ваш часопіс чытае Алесь Юркойць з Варнян Астравецкага раёна. Карыстаемся гэтым, каб перадаць вітанне і словы падтрымкі. І будзем удзячныя, калі ў часопісе з'явіцца артыкул пра найлепшы турыстычны маршрут па Астравеччыне.

**Сябры з Мінска**

# «Я расіянка. Вучу мову па вашым часопісе»

Паважаны рэдакцыйны калектыў часопіса «Наша гісторыя»! Велізарная Вам падзяка за працу!
Я расіянка. Год як жыву ў Беларусі. Проста закахана ў такую мілую сэрцу беларускую мову. Я і вучу яе па Вашых часопісах, па кнігах беларускіх аўтараў. Натуральна, са слоўнікам.
Часопіс вельмі цікавы. І вёрстка падабаецца.
Шчыра жадаю Вашаму выданню накладаў добрых, чытачоў больш.

**З павагай, ваша пастаянная чытачка**
**Вольга Крацько**

# Касцяны гарпун з берага Дняпра

Незвычайная знаходка патрапіла ў рукі вучням Лучынскай базавай школы Рагачоўскага раёна. Лучын — вельмі старажытнае беларускае паселішча, першая згадка пра яго адносіцца да 1136 года. Але людзі жылі тут і раней — яшчэ ў каменным веку.

Знаходка, зробленая падчас урока-экскурсіі на пясчаный водмелі правага берага Дняпра, — касцяны гарпун. Гэта даволі доўгі прадмет выцягнутай формы з завастрэннем на канцы і выразанымі вострымі зубцамі з аднаго боку пляскатага краю косткі. Ён выкарыстоўваўся для таго, каб лавіць рыбу.

Пасля кансультацыі з вядомым рагачоўскім краязнаўцам Аляксандрам Рыкуновым, а таксама са сталічнымі спецыялістамі-археолагамі Ганнай Цімафеенка, Іванам Прыстаўкам і Аляксандрам Вашанавым высветлілася, што наш гарпун датуецца эпохай неаліту — новага каменнага веку. Яму прыкладна 5–7 тысяч гадоў. Як вызначыў Аляксандр Вашанаў, зроблены ён з пляскатай косткі жывёлы. З аднаго боку косткі было выразана 5 загнутых уніз зубцоў, ніжні з якіх аказаўся абламаным. Гэтыя зубцы выразаліся абавязкова апушчанымі ў бок рукаяткі для таго, каб прылада без цяжкасці



**Даўжыня захаванай часткі гарпуна — каля 19,3 см, найбольшая шырыня — 1,9 см, шырыня зубцоў — 0,5–0,7 см.**

ўваходзіла ў цела ахвяры, а пасля праколу не магла адтуль выслізнуць, чапляючыся зубцамі.

Наш гарпун абламаны знізу, таму мы не можам даведацца, як ён мацаваўся да палкі, з якой складаў адзіную прыладу. Знізу косткі мусілі быць уступ ці адтуліна, да якіх прывязвалася вяроўка, што злучала працоўную частку і дрэўка прылады. Пасля таго як яе кідалі ў рыбу і траплялі ў ахвяру, вяроўка размотвалася, а рыбіна падцягвалася да чоўна пры дапамозе дрэўка.

Гарпун, знойдзены вучнямі Лучынскай школы, будзе захоўвацца ў школьным краязнаўчым гуртку пры кабінеце гісторыі.

**Святлана Варыкава,**
**настаўніца гісторыі Лучынскай базавай школы**

**Ад рэдакцыі**

Дарагія чытачы, дасылайце нам тэмы ды ідэі артыкулаў, успаміны, сямейныя гісторыі (і нават рэцэпты!) на **history@nn.by**. А таксама падпісвайцеся, каб штомесяц гарантавана атрымліваць «Нашу гісторыю» ў паштовую скрыню. Падпісны індэкс **00469**.

# «Гэта маглі быць ДЗЯСЯТКІ Чарнобыляў»

## *Ядзерная зброя Беларусі: колькі было, як не стала*

**Ядзернай зброяй, што стаяла на беларускай зямлі, можна было знішчыць паўсвету. Але сама Беларусь утрымаць яе б не здолела. Піша кандыдат фізіка-матэматычных навук Ягор Лебядок.**

Першая савецкая плутоніевая бомба РДС-1 была выпрабаваная 70 гадоў таму — 29 жніўня 1949 года пад Сяміпалацінскам у Казахстане. Да стварэння савецкай ядзернай зброі прыклалі руку і выхадцы з Беларусі.

У палескіх Целяханах — карані разведчыка Георга Коваля, якому ўдалося трапіць на сакрэтны амерыканскі атамны аб'ект і выкрасці чарцяжы.

У Мінску нарадзіліся фізік Якаў Зяльдовіч, што распрацаваў першыя савецкія тэрмаядзерныя боезарады, і галоўны канструктар ядзерных боепрыпасаў Аркадзь Брыш.

Працэсы, што адбываюцца пры ядзерным выбуху, вывучаў у сакрэтнай лабараторыі Інстытута фізікі АН БССР Міхаіл Ельяшэвіч.

Адну з першых бомбаў на беларусах і выпрабоўвалі. Гаворка пра вучэнні 14 верасня 1954 года на Тоцкім палігоне (Арэнбургская вобласць). Адпрацоўвалася наступленне войскаў з прымяненнем ядзернай бомбы магутнасцю ў 40 кілатон (удвая большай, чым у Хірасіме). Касцяк «наступаючых» войскаў склаў 128-ы корпус Брэсцкага гарнізона ў поўным складзе, з бібліятэкай уключна.

### Мінск, Быхаў, Орша, Баранавічы — у першай чарзе на знішчэнне

Ад пачатку 1950-х пры аэрадромах далёкай авіяцыі пачалі будаваць склады для захоўвання і падрыхтоўкі атамных бомбаў — «рамонтна-тэхнічныя базы» (РТБ). Зарады туды дастаўлялі з цэнтральных баз захоўвання, адна з якіх

**Тактычная ядзерная зброя** — боепрыпасы для знішчэння буйных аб'ектаў і збірання сіл праціўніка ў найбліжэйшых тылах. Гэта авіяцыйныя бомбы, артылерыйскія снарады, тактычныя ракеты. Стратэгічная ядзерная зброя мае большую далёкасць і большую магутнасць.




была ў Беларусі — «Гомель-30» недалёка ад Рэчыцы.

Беларусь была заходнім плацдармам СССР і не магла пазбегнуць размяшчэння ядзернай зброі. Ужо ў 1951-м Саўмін СССР пастанавіў збудаваць РТБ пры аэрадромах у Балбасаве пад Оршай і Мачулішчах пад Мінскам. У Мачулішчах быў размешчаны цяжкі бамбардзіровачны авіяполк, у Балбасаве сфармавалі бамбардзіровачны авіяполк далёкай авіяцыі.

У 1960-м у Беларусі размясцілі чатыры ракетныя дывізіі стратэгічнага прызначэння. Яны ўваходзілі ў 50-ю ракетную армію са штабам у Смаленску. Першымі на баявое дзяжурства заступілі Пінскі і Слонімскі ракетныя палкі.

Ракеты маглі базавацца на колавых шасі або ў шахтах. У Беларусі былі шахтавыя пускавыя комплексы ў Пастаўскім і ў Смаргонскімраёнах.

Пасля размяшчэння бамбардзіроўшчыкаў у Беларусі яе гарады трапілі ў спіс прыярытэтных цэляў для нанясення ядзернага ўдару з боку ЗША. Аэрадромы ў Быхаве, Оршы (Балбасава), Баранавічах, Бабруйску, Мачулішчах пад Мінскам і Забраўцы пад Мінскам уваходзілі ў дваццатку аб’ектаў, прыярытэтных для знішчэння ва ўсім СССР, краінах Арганізацыі Варшаўскай дамовы і Кітаі.

## Раззбраенне пачаў Чарнобыль

З першых дзён прымянення ядзернай зброі ў свеце пайшла гаворка пра раззбраенне. Сур’ёзным крокам стала Дамова аб нераспаўсюджванні ▸




152-міліметровы атамны снарад для самаходнай артылерыйскай устаноўкі «Акацыя». **Адзін такі снарад мог знішчыць тысячы людзей.**

ядзернай зброі 1968 года. Але асноўны штуршок дала аварыя на Чарнобыльскай АЭС. Яна на доўгі час сфарміравала ў Беларусі негатыўнае стаўленне да ўсіх ядзерных тэхналогій.

## На момант распаду СССР Беларусь была восьмай у свеце краінай па запасах ядзернай зброі

Першы этап знішчэння ядзернай зброі адбыўся пасля падпісання дамовы паміж СССР і ЗША аб ліквідацыі ракет сярэдняй і меншай далёкасці (1000–5500 км і 500–1000 км) у канцы 1987 года.

Апошняя беларуская ракета Р-12 была знішчаная 23 мая 1990 года. Сёння корпус такой ракеты можна пабачыць на «Лініі Сталіна» ці ў Пружанах. 27 кастрычніка 1989 года ў Станькаве парэзалі апошнюю пускавую ўстаноўку ОТР-23.

Тым не менш на момант распаду СССР Беларусь была восьмай у свеце краінай па запасах ядзернай зброі. Тактычных ядзерных боезарадаў на нашай тэрыторыі знаходзілася тады каля 1 120: 270 — у Сухапутных войсках, 125 — у супрацьпаветранай абароне (для знішчэння паветраных цэляў з дапамогай ядзернага выбуху), 575 — у Ваенна-паветраных сілах і 150 — у авіяцыі ВМФ.

### Ракеты ў Беларусі, кнопка ў Маскве

Пункт аб тым, што Беларусь ставіць мэтай зрабіць сваю тэрыторыю бяз'ядзернай зонай, быў у Дэкларацыі аб незалежнасці ад 27 ліпеня 1990 года. А рубам пытанне стала пасля таго, як СССР распаўся і незалежнасць Беларусі стала здзейсненым фактам.

**РАКЕТЫ Р-12 МАГЛІ ЗНІШЧЫЦЬ ЛОНДАН ЦІ РЫМ**, а Р-14 — дасягнуць любога, нават самага далёкага ад нас горада Заходняй Еўропы. Пускавых установак Р-12 у Беларусі было 144, Р-14 — 14. Калі б такая ракета з ядзерным боезарадам выбухнула, напрыклад, у Парыжы, там загінуў бы мільён чалавек.

**«ПІЯНЕР».** Так называўся ракетны комплекс, які ў 1976 годзе паступіў пад Петрыкаў. «Піянер» стаў асноўным стратэгічным ракетным комплексам у Беларусі. У 1986-м у Полацку размясцілі іншую ракету на базе «Піянера», **«Горн»** — комплекс аўтаматычнага кіравання масіраваным ядзерным ударам у адказ. Ён гарантаваў пуск ракет, нават калі ўсё камандаванне будзе знішчана.

**МІНСКІ АЎТАМАБІЛЬНЫ ЗАВОД** спецыяльна для ядзерных ракет распрацаваў і ствараў колавыя шасі. Акрамя стратэгічнага «Піянера», у Беларусі стаялі сотні тактычных ракетных комплексаў з ядзернымі боезарадамі: «Эльбрус» (больш вядомы як «Скад») і «Тэмп-С» (ОТР-22). Максімальная далёкасць — 300 км і 900 км, магутнасць ядзернага зараду — ад 10 кт да 500 кт.

**10500 КМ** магла праляцець ракета рухомага грунтавога ракетнага комплекса «Топаль», якая прыйшла на змену «Піянеру» ў канцы 1980-х. Гэта першыя на нашай тэрыторыі комплексы з міжкантынентальнымі балістычнымі ракетамі. Яны маглі дастаць да любога горада ЗША, забіць на Манхэтане 900 тысяч чалавек. У 1991 годзе ў Беларусі размяшчаўся 81 «Топаль» у складзе 33-й і 49-й ракетных дывізій.

**ВІЛЕЙКА** — горад, дзе з 1964 года знаходзіцца радыёстанцыя «Антэй» для сувязі з ракетнымі падводнымі лодкамі. Яна дзейнічае і цяпер як 43-ці вузел сувязі ВМФ Расіі. У Слонімскім раёне размясцілася станцыя для вызначэння каардынат самалётаў і караблёў (цяпер 354-я радыёнавігацыйная частка УС Беларусі). Радыёлакацыйная станцыя сістэмы папярэджання аб ракетным нападзе з'явілася ў канцы СССР пад Ганцавічамі, у Азярэччы Клецкага раёна (цяпер РЛС «Волга» — аб'ект Узброеных сілаў Расіі).

**«ГІЯЦЫНТ», «ПІВОНЯ», «АКАЦЫЯ», «ЦЮЛЬПАН».** Так называліся гарматы, гаўбіцы і мінамёты, для якіх былі створаныя атамныя снарады. Гарматы «Гіяцынт» і «Акацыя» знаходзяцца на ўзбраенні і сёння, але без атамных снарадаў.

Амерыканцы баяліся, што на ядзернай кнопцы можа апынуцца шмат пальцаў. Таму прызнанне незалежнасці Беларусі з боку ЗША і іншых заходніх краін увязвалася з забеспячэннем бяз'ядзернага статусу.

У тактычнай ядзернай зброі (далёкасцю да 300 км), якая засталася ад СССР, тагачасныя беларускія генералы сэнсу не бачылі, бо ў рамках абарончай дактрыны такую зброю давялося б з вялікай верагоднасцю ўжываць на сваёй тэрыторыі. «Гэта не проста дзясяткі Чарнобыляў, але і падрыў або разбурэнне генафонду нацыі да цяжка ўзнаўляльнага ўзроўню, і ніякія мэты вайны не вартыя такой задачы», — казаў камандуючы Беларускай вайсковай акругай Анатоль Кастэнка.

Стратэгічныя ракеты таксама стваралі больш небяспек, чым магчымасцей. Такая зброя павінна знаходзіцца ў глыбіні абароны, каб не быць знішчанай у першыя хвіліны вайны. Да таго ж, кіраванне пускам было ў Маскве. Тэхнічна Расія магла запусціць ракеты без ведама Мінска, а ўдар у адказ атрымала б Беларусь.

У снежні 1991-га Беларусь, Казахстан і Украіна пагадзіліся вывезці тактычную ядзерную зброю ў Расію для разукамплектавання пад сумесным кантролем.



PLAKAT.UNID.BY

### Будапешцкі мемарандум

5 снежня 1994 года дзяржавы «ядзернага клуба» гарантавалі Беларусі, якая аддавала ядзерную зброю, што будуць паважаць яе незалежнасць, суверэнітэт і межы, устрымлівацца ад пагрозы сілай ці яе прымянення супраць тэрытарыяльнай цэласнасці і незалежнасці Беларусі, што ніякія іх узбраенні не будуць ужытыя супраць Беларусі. Таксама падпісанты абавязаліся ўстрымлівацца ад эканамічнага прымусу.
Праўда, практыка паказала, што такі дакумент сам па сабе не ёсць гарантыяй ні суверэнітэту, ні тэрытарыяльнай цэласнасці.
У той жа самы дзень аналагічныя мемарандумы былі падпісаныя таксама з Казахстанам і Украінай, але гэта не ўратавала апошнюю ў сакавіку 2014 года ад анексіі часткі яе законнай тэрыторыі — Крыма. Прытым анексію здзейсніў не нейкі трэці бок, а адзін з падпісантаў і гарантаў Будапешцкага мемарандума — Расійская Федэрацыя. У іншых падпісантаў і гарантаў сур'ёзных механізмаў, каб паставіць агрэсара на месца, не знайшлося.

### Пазняк прапаноўваў пачакаць

Цягам 1992-га краіны СНД разбіраліся з правамі на ядзерную спадчыну. Спачатку меркавалі, што ядзерная зброя СССР застанецца непадзельнай, пад сумесным кантролем.
Але потым Беларусь дэлегавала камандаванне Стратэгічнымі сіламі Расіі. Расія ў адказ абавязалася не ўжываць ядзерную зброю, часова размешчаную на беларускай тэрыторыі, без згоды Беларусі.



PLAKAT.UNID.BY

**Савецкія антываенныя плакаты, скіраваныя супраць ядзернай зброі.** Выступаючы за ядзернае раззбраенне, савецкія кіраўнікі няспынна нарошчвалі ядзерны арсенал. Зверху — плакат Юрыя Лягічава. Злева знізу — плакат Яўгена Бусла.

## Расія магла запусціць ракеты без ведама Мінска, а ўдар у адказ атрымала б Беларусь

Пытанні далучэння Беларусі да ядзерных дамоў СССР і ЗША і вызначэнне статусу ядзернай зброі разглядаліся 4 лютага 1993 года на закрытым пасяджэнні сесіі Вярхоўнага Савета. ▶

Яшчэ ў спрадвечныя часы чалавек навучыўся перабудоўваць малекулы з дапамогай звычайных хімічных рэакцый, хоць і не разумеў іх механізму. А калі стала відавочна, што атам складаецца з больш дробных часціц, наступны крок быў перадвызначаны, пісаў пісьменнік-фантаст і папулярызатар навуковых ведаў Айзек Азімаў у кнізе «Кароткая гісторыя хіміі».

**Першую атамную бомбу стварылі ў ЗША, бо яшчэ перад вайной многія выдатныя навукоўцы ўцяклі з дыктатарскіх краін у дэмакратычныя. У прыватнасці, Энрыка Фермі, адзін з кіраўнікоў амерыканскага атамнага праекта, у 1938 годзе пераехаў у ЗША з Італіі.**

Навукоўцы задумаліся, чаму б не паспрабаваць перабудоўваць ядры атамаў, выкарыстоўваючы ядзерныя рэакцыі. Да гэтага часу ўжо было вядома, што ядры атамаў складаюцца з пратонаў і нейтронаў.

Спачатку бамбардзіроўку атамных ядраў вялі становуча зараджанымі часціцамі, што прывяло да атрымання новых хімічных элементаў.




Расшчапленне ядра ўрану на ядры іншых элементаў з выдзяленнем новых нейтронаў. **Гэта адзін з відаў рэакцыі, якія ляжаць у аснове дзеяння ўранавай ядзернай бомбы.**

Але ў 1934 годзе італьянскі фізік Энрыка Фермі заняўся бамбардзіроўкай урану нейтронамі, мяркуючы атрымаць атамы з яшчэ большай масай, чым уран. У той час уран меў найбольшы парадкавы нумар у перыядычнай табліцы Мендзялеева.

Сярод навукоўцаў, якія займаліся вывучэннем вынікаў такой бамбардзіроўкі, былі Ота Ган і Ліза Мэйтнер, якія працавалі ў Германіі. Прыкладна ў 1938 годзе Ган, вывучаючы вынікі эксперыменту, выказаў здагадку, што атам урану пасля яго абстрэлу нейтронамі падзяляецца прыкладна напалову (адбываецца расшчапленне ядра). Растлумачыць гэта ён не мог і не адважваўся — прынамсі публічна — нават абмяркоўваць магчымасць такога расшчаплення.

У 1938 годзе нацысцкая Германія ўварвалася ў Аўстрыю і анексавала яе. Аўстрыйская грамадзянка Ліза Мэйтнер пазбавілася грамадзянства. Гану і Мэйтнер прыйшлося расстацца з-за яе яўрэйскага паходжання. Ліза Мэйтнер з дапамогай Гана нелегальна эміґравала ў Швецыю і апублікавала тэорыю Гана пра тое, што атамныя ядры ўрану пры бамбардзіроўцы нейтронамі падвяргаюцца расшчапленню.

Гэты артыкул выклікаў вялікі перапалох, бо навукоўцы зразумелі, да якіх жахлівых наступстваў можа прывесці гэтая з'ява. Калі атам урану пасля паглынання нейтрона распадаецца на два меншыя атамы, у ядрах якіх менш нейтронаў, чым у ядры атама ўрану, то будуць выдзяляцца лішнія нейтроны, і калі іх паглынуць іншыя атамы ўрану, то яны ў сваю чаргу таксама падзеляцца, што прывядзе да выдзялення яшчэ большай колькасці нейтронаў.


WIKIMEDIA COMMONS

**Ліза Мэйтнер і Ота Ган. Ім давядзецца расстацца з-за яўрэйскага паходжання,** але ён дапаможа ёй уцячы ў Швецыю. Там яна апублікуе артыкул, які дазволіць навукоўцам зразумець наступствы расшчаплення ядра ўрану.

А паколькі ядзерныя рэакцыі звязаны з вялікімі энергіямі, то вынік ланцуговай ядзернай рэакцыі будзе небывала магутным. Устаноўлена было, што ланцуговая ядзерная рэакцыя магчымая толькі пры наяўнасці даволі вялікай масы ўрану — так званай крытычнай масы.

Свет стаяў на парозе Другой сусветнай вайны. Урад ЗША, разумеючы, што смертаносная энергія атамных ядраў можа быць выкарыстана нацыстамі, пачаў стварэнне ланцуговай ядзернай рэакцыі і атрыманне ядзернай зброі.

Узначальваў гэтую працу Роберт Опенгеймер.

Да 1945 года былі выраблены прылады, у якіх пры падрыве невялікага зараду выбуховага рэчыва адбывалася збліжэнне дзвюх порцый урану. Дзякуючы ўздзеянню касмічных

прамянёў у атмасферы заўсёды маюцца выпадковыя нейтроны, так што ў крытычнай масе ўрану адразу ж пачыналася ланцуговая ядзерная рэакцыя, якая суправаджалася выбухам невядомай датуль сілы.

Першая такая «А-бомба», ці «атамная бомба» (або правільней бомба расшчаплення), асноўным рэчывам якой быў плутоній, была падарваная ў ліпені 1945 года ў штаце Нью-Мехіка. Да наступнага месяца былі выробленыя яшчэ дзве бомбы, якія ў канцы Другой сусветнай вайны былі скінутыя на японскія гарады Хірасіма і Нагасакі.

Пры выбуху ядзернай бомбы ўзнікае ўдарная хваля, светлавое выпрамяненне, радыяцыя, радыеактыўнае заражэнне і электрамагнітны імпульс. Ударная хваля знішчае ўсё на сваім шляху. Напрыклад, пры выбуху ядзернага боепрыпасу з трацілавым эквівалентам 100 кт ударная хваля прыводзіць да імгненнай гібелі людзей, якія знаходзяцца на адлегласці 1,6 км ад эпіцэнтра выбуху і цалкам разбурае шматпавярховыя каменныя будынкі ў радыусе 4,5 км. Пасля ўдару ЗША па Нагасакі (бомба «Таўстун», 21 кт) ад светлавога выпрамянення і ўдарнай хвалі адразу загінулі 73 тысячы чалавек, ад радыяцыі памерлі 35 тысяч.

Ліза Мэйтнер і Ота Ган **(на фота)** страшна перажывалі, што іх даследаванні прывялі да стварэння і выкарыстання ядзернай зброі. Ган быў на мяжы адчаю: з-за свайго адкрыцця расшчаплення ядра ён адчуваў сябе адказным за смерць і пакуты сотняў тысяч японцаў.

У 1945 годзе Шведская каралеўская акадэмія навук прысудзіла Ота Гану Нобелеўскую прэмію па хіміі за 1944 год «за адкрыццё расшчаплення цяжкіх атамных ядраў». Ота Ган, які разам з іншымі нямецкімі фізікамі знаходзіўся ў гэты час пад брытанскім арыштам, атрымаў саму прэмію толькі ў 1946 годзе, пасля таго як навукоўцам дазволілі вярнуцца ў Германію.

Ліза Мэйтнер так і не дачакалася Нобелеўскай прэміі, затое ў яе гонар быў названы 109-ы элемент табліцы Мендзялеева.

▶ Міністр замежных спраў Пятро Краўчанка заклікаў ратыфікаваць дамовы, якія б гарантавалі Беларусі бяз'ядзерны статус пад апекай ААН і «пэўную фінансавую кампенсацыю з боку Расіі» за ядзерныя рэчывы. Дэпутаты ад Апазіцыі БНФ Галіна Сямдзянава і Зянон Пазняк у адказ прапаноўвалі адкласці ратыфікацыю, мяркуючы, што дамовы не адпавядаюць нацыянальным інтарэсам.

З пратакола таго пасяджэння відаць, што Беларусь не настойвала на гарантыях бяспекі з боку ЗША, Расіі і іншых дзяржаў «ядзернага клуба». Затое пытанні пра такія гарантыі ставіла Украіна — яе дэлегацыя ездзіла ў Вашынгтон і дабілася адпаведнага абяцання ад амерыканцаў.

Пятро Краўчанка называў дзеянні ўкраінцаў «палітычнай гульнёй і пасмешышчам», бо, маўляў, гарантыі бяз'ядзерным дзяржавам закладзеныя ў самой дамове 1968 года. З'яўленне Будапешцкага мемарандума такім чынам, было абумоўлена працай украінскай, а не беларускай дыпламатыі.

На тым пасяджэнні Вярхоўны Савет пастанавіў ратыфікаваць дамову аб скарачэнні стратэгічных наступальных узбраенняў. 9 лютага 1993 года ў тэлефоннай размове з Шушкевічам амерыканскі прэзідэнт Біл Клінтан запэўніў, што ЗША дадуць гарантыі бяспекі краіне, а таксама дадатковую падтрымку з практычным выкананнем прынятых абавязкаў.

## Маёмасць, ад якой мала толку

Як вынікала са слоў міністра абароны Паўла Казлоўскага, на той час у Беларусі знаходзіліся 32–33 тысячы вайскоўцаў «стратэгічных сіл». Расійскі бок мусіў вывесці ракетныя войскі да 1996 года, кампенсаваць шкоду навакольнаму асяроддзю і забяспечыць ядзерную бяспеку падчас вываду. Нерухомая маёмасць вайсковых частак (казармы, вучэбныя карпусы, лячэбныя ўстановы, 189 жылых дамоў) перадавалася Беларусі.

Але бонус аказаўся так сабе. На ўтрыманне гэтай спадчыны за паўгода было выдаткавана каля 2 млн даляраў. Толку ад будынкаў у цяжкадаступнай мясцовасці было мала, былыя вайсковыя аб'екты раскрадаліся і разбураліся.

## Амерыканскія датацыі

На знішчэнне інфраструктуры, звязанай з ядзернымі ўзбраеннямі, Беларусь атрымлівала немалыя датацыі ад ЗША па праграме сенатараў Сэмюэла Нана і Рычарда Лугара. У 1992–1995 гадах Міністэрствы абароны Беларусі і ЗША заключылі восем пагадненняў на 120 мільёнаў даляраў, у 1995-м — яшчэ адно на $16 млн. Сродкі выкарыстоўваліся для закупкі сучаснага абсталявання, вываду з эксплуатацыі шахтаў і пускавых установак балістычных ракет.

Таксама за сродкі праграмы збудавалі 170 кватэр у Гродне для былых ракетчыкаў. Амерыканцаў палохала бытавая неўладкаванасць персаналу з такой кваліфікацыяй.

У сакавіку 1997-га амерыканцы спынілі дапамогу Беларусі з-за кепскага становішча з правамі чалавека.

## Пачалі першыя — скончылі апошнія

Апошні эшалон з тактычнай ядзернай зброяй выехаў з Беларусі 27 красавіка 1992 года. А вось вывад стратэгічнай зброі расцягнуўся. Першы полк з 9-цю ракетамі «Тополь» пакінуў Беларусь улетку 1993-га, ▶

да канца года былі выведзеныя тры палкі. Аднак у наступным годзе ў Беларусі памянялася ўлада, і з вывадам ядзернай зброі пачаліся затрымкі, ініцыятарам якіх стаў беларускі бок. У выніку апошняя ядзерная боегалоўка пакінула тэрыторыю Беларусі 23 лістапада 1996 года, за дзень да рэферэндуму аб змене Канстытуцыі. 27 лістапада 1996 года адбыўся сімвалічны вывад у Расію апошняй ракеты СС-25. Апошняе ж падраздзяленне забеспячэння расійскіх ракетных войскаў стратэгічнага прызначэння было выведзена з Беларусі 30 чэрвеня 1997 года.

Затрымкі прывялі да таго, што Беларусь, хоць у свой час заявіла пра вывад ядзернай зброі першай, фактычна вывела яе апошняй. Першай, у красавіку 1995 года, усю ядзерную зброю вывез Казахстан, а 1 чэрвеня 1996 года — Украіна.

### Ці варта было выводзіць?

Пасля скарачэння колькасці савецкай ядзернай зброі было шмат гучных заяў пра нібыта страчаную выгаду — ваенную і фінансавую. Вайскоўцы лаялі Міхаіла Гарбачова, які ўсё «здаў амерыканцам», але насамрэч і пасля скарачэння ў Расіі засталося дастаткова ўзбраенняў, каб магчы дашчэнту знішчыць ЗША і Заходнюю Еўропу. Патэнцыял ядзернага ўдару не знізіўся, а вось выдаткі на яго ўтрыманне зменшыліся, плюс з'явілася дадатковая працоўная сіла ў выглядзе звольненых вайскоўцаў.

У Беларусі дагэтуль гучаць папулісцкія выказванні, што ядзерную зброю лепш было б пакінуць сабе. Гэта, маўляў, узмацніла б абараназдольнасць і павысіла значэнне краіны ў свеце. Але варта ўлічваць, што ў Беларусі не было сваёй інфраструктуры вытворчасці і абслугоўвання ядзерных зарадаў (а купіць іх у Расіі перашкаджалі абмежаванні, закладзеныя дамовай 1968 года), не было ўласнай сістэмы кіравання ядзернымі сіламі. Ды і ўвогуле, гэта страшна дарагое задавальненне: небагатая краіна проста не пацягнула б.

У рэальнасці зброя магла застацца на нашай тэрыторыі, але была б расійскай. Што стварыла б дадатковую пагрозу, робячы Беларусь пешкай у чужой гульні.

А можа, хаця б на вывадзе, патаргаваўшыся, можна было нешта зарабіць? Магчыма. Але варта ўсведамляць, што ў пачатку 1990-х наша краіна рабіла першыя крокі на міжнароднай арэне, імкнулася здабыць сабе добрую рэпутацыю, а незгаворлівасць у справе бяз'ядзернасці не спрыяла б гэтаму. А рэпутацыя часта каштуе больш за грошы. ◆




**Апошняя пускавая ўстаноўка тактычнага ракетнага комплексу «Ака», ліквідаваная ў Станькаве** Дзяржынскага раёна ў кастрычніку 1989 года. На ёй — подпісы вайскоўцаў, якія дэмантавалі абсталяванне.

STANKOVO.BY

WWW.HISTORY.NAVY.MIL

**Чэрчыль, Рузвельт і Сталін у італьянскім дворыку Лівадзійскага палаца.** Здымак зрабіў 23-гадовы Роберт Гопкінс, які да таго ўжо фатаграфаваў Рузвельта і Чэрчыля ў мараканскай Касабланцы.

# Ялта: як вялікія дзяржавы дзялілі Еўропу

## Розныя мэты, розная логіка, але ўсё залежала ад сілы




**Сталін, Рузвельт і Чэрчыль — тры абсалютна розныя лідары трох абсалютна розных дзяржаў. Тры абсалютна розныя манеры паводзін і вядзення перамоў. Тры розныя патэнцыялы. І тры розныя мэты. Яны сустрэліся ў Ялце, каб вызначыць межы і прынцыпы пасляваеннага свету. Як кожны з іх праводзіў сваю волю? Ці ўдалося камусьці «абыграць» іншых? Цяпер, калі рассакрэчаныя дакументы, апублікаваныя ўсе мемуары і знойдзеныя запісы, украінскі гісторык, прафесар Гарвардскага ўніверсітэта Сяргей Плахій аднавіў ход падзей у сваёй кнізе «Ялта. Цана міру».** ▸

▶ Усе ўдзельнікі «Вялікай тройкі» — прэзідэнт ЗША Франклін Дэлана Рузвельт, прэм'ер Вялікабрытаніі Уінстан Чэрчыль і савецкі дыктатар Іосіф Сталін — пакінулі Ялту задаволенымі. Кожны з іх меў падставы лічыць, што свайго, галоўнага дабіўся. Гэта тыпова для людзей: толькі пазнейшая гісторыя паказвае, хто, у чым і наколькі памыляўся.

## Чаму Ялта

Падчас сустрэчы ў Тэгеране ў лістападзе 1943 года Сталін, паглядзеўшы на паралізаваныя ногі Рузвельта, паабяцаў, што наступная сустрэча «Вялікай тройкі» адбудзецца бліжэй да амерыканскай зямлі. Але напрыканцы 1944-га, калі перамога над фашысцкай Германіяй здавалася відавочнай і амерыканцы прапанавалі сустрэцца ў Рыме, савецкі правадыр адмовіўся, спаслаўшыся на дрэннае здароўе і забарону дактароў, што зусім не адпавядала рэчаіснасці. Ён проста не хацеў ляцець так далёка ўздоўж ліній фронту ды сустракацца «на чужым полі». Уінстан Чэрчыль у адказ прапанаваў правесці канферэнцыю ў іншым горадзе побач з Міжземным морам, бліжэйшым да СССР, аддаючы перавагу Афінам, дзе брытанцы мелі традыцыйныя ўплывы. Але і гэтая ідэя была адхіленая. Заходнім лідарам давялося ехаць у госці да Сталіна: канферэнцыя мусіла прайсці ў савецкім Крыме, адкуль незадоўга да гэтага пагалоўна дэпартавалі карэннае татарскае насельніцтва.

## Аперацыя «Арганаўт»

31 снежня 1944 года Уінстан Чэрчыль прапанаваў кодавую назву для канферэнцыі — «Аперацыя Арганаўт». Франклін Рузвельт адказаў: «Прымаю вашу прапанову адносна “Арганаўта”. Мы з вамі іх прамыя нашчадкі». Плахій піша: «Заходнія лідары называлі сябе арганаўтамі, згадваючы пра антычных воінаў, якія дабраліся да чарнаморскага ўзбярэжжа, каб завалодаць залатым руном цмока, які ніколі не спаў. Трафеем было завяршэнне вайны, якая паглынула свет, а цмокам лічыўся гаспадар маёнтка, Іосіф Сталін».

Цяжка сказаць, ці зразумеў увесь гэты падтэкст сам «цмок», але такому кодаваму найменню ён не пярэчыў. Не гэта ён лічыў важным.



**Ялцінская канферэнцыя** прайшла 4–11 лютага 1945 года. Усяго лідары «Вялікай тройкі» — СССР, ЗША і Брытаніі — у час Другой сусветнай вайны сустракаліся тройчы. Да гэтага з 28 лістапада па 1 снежня 1943 года адбылася аналагічная сустрэча ў іранскім Тэгеране, а ўжо пасля заканчэння ваенных дзеянняў у Еўропе з 17 ліпеня па 2 жніўня 1945-га — у германскім Патсдаме. Падчас кожнай з гэтых сустрэч бакі абмяркоўвалі спрэчныя пытанні і дамаўляліся пра пасляваеннае ўладкаванне свету.
**На фота — Лівадзійскі палац у Ялце,** дзе адбываліся пасяджэнні канферэнцыі.

SHUTTERSTOCK.COM, BY MYKOLA IVASHCHENKO




**Франклін Дэлана Рузвельт адразу пасля прыбыцця ў Крым** на вайсковым аэрадроме Сакі праязджае паўз савецкую ганаровую варту. Справа ад машыны ідуць міністр замежных спраў СССР Вячаслаў Молатаў і дзяржаўны сакратар ЗША Эдвард Стэцініус.

## Бяспека

Падчас канферэнцыі асабістая ахова Сталіна была дадаткова ўзмоцнена 100 агентамі і 500-асабовым спецыяльным падраздзяленнем войск НКВД. І гэта нягледзячы на наяўнасць чатырох палкоў НКВД, 1200 агентаў, матацыклетнага атрада са 120 чалавек і 50 спецыяльна адабраных афіцэраў, якія ўжо былі прызначаныя для аховы бяспекі ўдзельнікаў канферэнцыі. Будынкі, дзе размяшчаліся кіраўнікі дэлегацый, былі абнесеныя дзвюма лініямі патрулявання ўдзень і трыма — уначы.
Неба над Крымам ахоўвалі 244 самалёты і батарэі ПВА, якія мелі 300 зенітных установак і кулямётаў.

Напярэдадні ад'езду ў Ялту Чэрчыль і Рузвельт спаткаліся на Мальце. Але абгаварыць супольную стратэгію будучых перамоў ім не ўдалося. Прэзідэнт ЗША не жадаў звязваць сябе ніякімі абяцаннямі ў адносінах да брытанцаў, якім не давяраў. Таму больш бавіў час у экскурсіях па востраве, а Чэрчыль да позняй ночы гуляў у карты з падначаленымі.

## «Ганаровая варта»

Дарога ад аэрадрома ў Саках да Ялты заняла шэсць гадзін. Увесь маршрут ахоўваўся «ганаровай вартай»: праз кожныя 15 метраў стаялі ўзброеныя савецкія салдаты, значную колькасць з якіх, на здзіўленне іншаземцаў, складалі жанчыны. Гэта быў 290-ы Новарасійскі спецыяльны стралковы полк НКВД — адзін з чатырох падобных палкоў, адпраўленых у Крым для аховы канферэнцыі.

Напярэдадні прыезду «Вялікай тройкі» ў Крым НКВД праверыла ўсе 74 тысячы жыхароў паўвострава, якія заставаліся тут пасля дэпартацыі крымскіх татар. Падчас гэтай аперацыі былі арыштаваныя 835 «падазроных элементаў».

## Тры фельдмаршалы ў чарзе да вядра

Спецыяльна для Франкліна Рузвельта арыштанты ГУЛАГа разам з румынскімі ваеннапалоннымі адбудавалі Лівадзійскі палац. Ён быў узведзены яшчэ ў 1910—1911 гадах на загад імператара Мікалая II і яго жонкі Аляксандры. У вайну палац быў разрабаваны і моцна пашкоджаны, яго адрэстаўравалі за рэкордныя тры тыдні. Туалет перафарбоўвалі сем разоў: усё не маглі спыніцца на колеры.

Чэрчыль размясціўся ў Варанцоўскім палацы каля Алупкі, спраектаваным англійскім архітэктарам Эдвардам Блорам у 1830–1848 гадах. Ён быў прыемна ўражаны, пабачыўшы на сценах партрэты брытанскіх арыстакратаў, якія засталіся ад колішніх уладальнікаў палаца.

Нягледзячы на прыкладзеныя савецкім бокам намаганні, на ўсіх прадстаўнікоў дэлегацый асобных пакояў не хапіла. Што і не дзіўна: напрыклад, амерыканская дэлегацыя замест спачатку запланаваных 35 чалавек павялічылася ў 10 разоў. Прыходзілася жыць па двое, чацвёра і нават шасцёра ў нумарах. Не хапала і ванных пакояў. Напрыклад, у Варанцоўскім палацы тры ванны абслугоўвалі да 30 чалавек. Але найбольшай праблемай сталі прыбіральні. Дачка Чэрчыля Сара Олівер узгадвала: «Калі б хто прагульваўся калідорамі ўздоўж спальняў прыблізна а 7.30 ранку, то мог пабачыць трох фельдмаршалаў у чарзе да вядра!»

Сталін размясціўся ў Юсупаўскім палацы ў пасёлку Карэіз, непадалёк ад прыстані, адкуль апошнія прадстаўнікі царскай сям'і Раманавых пакінулі Расію ў красавіку 1919 года. Спецыяльна да прыезду дыктатара тут збудавалі бамбасховішча, якое магло вытрымаць удар паўтоннай бомбы.

## Пасяджэнні позна па абедзе

Адкрыццё канферэнцыі адбылося 4 лютага ў 17 гадзін у Лівадзійскім палацы. ▶

▶ Афіцыйнай стэнаграмы пасяджэнняў не рабілася, кожны з перакладчыкаў вёў уласныя хуткія запісы. Савецкія пратаколы былі ўпершыню апублікаваныя ў 1960-х гадах у моцна падкарэктаваным выглядзе. Чаму падкарэктаваным? Бо ў той момант савецкае кіраўніцтва з тактычных палітычных патрэб хацела паказаць, што яно не дабівалася падзелу Германіі і не было супраць адраджэння моцнай французскай дзяржавы. Хоць у рэчаіснасці ўсё было якраз наадварот.

Сустрэчы «Вялікай тройкі» пачыналіся заўжды позна па абедзе, як правіла а 16-й, і працягваліся па 4–5 гадзін. На сустрэчах заўсёды старшыняваў Рузвельт. Зраніцы адбываліся сустрэчы міністраў замежных спраў і прадстаўнікоў армій. «Вялікая тройка» сядзела за круглым сталом, дзе таксама былі зарэзерваваныя месцы для міністраў замежных спраў і перакладчыкаў. Таксама ў пакоі месціліся яшчэ два шэрагі крэслаў для дарадцаў.

### Шмат ікры і мала супу

У першыя дні ў Ялце ежа складалася з ікры і піражкоў з мясам, белага і чырвонага ласося, малочнага парасяці пад соусам з хрэну, шашлыкоў з бараніны на абед. Здаецца, гэта быў стол у смаку Сталіна, тыповы для банкетаў Палітбюро. Амерыканцам і брытанцам такая празмерна тлустая ежа хутка надакучыла, ім хацелася чагосьці прасцейшага. Але дабіцца ад гаспадароў нечага іншага было цяжка, прыкрыя ўспаміны пра гэта захаваліся ў запісах дачкі Чэрчыля. На вячэрах падавалі смажанага індыка і зялёны гарошак. Чаго хапала — то гэта гарэлкі. Падчас першай вячэры было прамоўлена 38 тостаў. Адзін з тостаў Сталіна гучаў так: «Саюзнікі не павінны адзін аднаго падманваць».

### «Вялікая тройка»

Рузвельт прыбыў у Ялту пасля чацвёртай — унікальны ў гісторыі ЗША выпадак — перамогі ў выбарах на пасаду прэзідэнта ЗША. Ён быў цяжка хворы, разумеў, што хутка памрэ, і, мяркуе Плахій, найбольш думаў пра месца ў гісторыі, пра тое, якую памяць пакіне пра сябе. Таму шчыра імкнуўся пакінуць нашчадкам сапраўды справядлівы і доўгатэрміновы мір. Будучы вядомым майстрам палітычнага кампрамісу, у цэнтр сваёй палітыкі на савецкім кірунку Рузвельт паставіў асабістыя адносіны з Іосіфам Сталіным. Брытанія ж разглядалася амерыканцамі як канкурэнт на міжнароднай арэне, што пацвярджалася пастаяннымі намаганнямі Чэрчыля падзяліць Еўропу на сферы ўплыву.

Мэтай Чэрчыля было аднавіць Францыю так, каб яна вярнулася ў лік «Вялікіх дзяржаў», якія будуць удзельнічаць у акупацыі Германіі. Такім чынам ён разлічваў вярнуцца да старой брытанскай палітыкі балансу ў Еўропе. Чэрчыль увесь час пускаў у ход свае аратарскія здольнасці, гаварыў шмат і эмацыйна, але гэта далёка не заўсёды прыносіла плён.

Сталін жа імкнуўся падштурхнуць саюзнікаў да шырокага наступлення на Заходнім фронце. Што да пасляваеннага ўладкавання свету, то — і гэта цешыла Чэрчыля — ён глядзеў на СССР як на імперыю, а не як на арганізатара сусветнай рэвалюцыі. Ён прагнуў пашырыць межы імперыі, але не замахваўся на заваладанне ўсёй планетай.

Сталін і ў Ялце вылучаўся, па ўспамінах іншаземцаў, выключнай дакладнасцю ў фармуляванні думак. У ім адчувалася ўладарнасць. Брытанскі міністр замежных спраў Энтані Ідэн запісаў: «Ён ніколі не казаў ніводнага лішняга слова. Ніколі не крычаў, рэдка нават раздражняўся. Закрыты, спакойны, ён ніколі не павышаў голасу... Найлепшы перамоўнік, якога я сустракаў».

## Сталін вылучаўся выключнай дакладнасцю думак

Рузвельт, прыходзячы да высновы аўтар кнігі, адносна Сталіна знаходзіўся ў палоне ілюзій, бо пераносіў на яго і на савецкую палітыку свае ўяўленні, сфарміраваныя ў дэмакратычнай сістэме. Так, ён верыў ці хацеў верыць, што сам Сталін прагнуў больш супрацоўнічаць з Захадам, але яго стрымлівалі ястрабы ў Палітбюро. Рузвельт разлічваў на добрыя пасляваенныя адносіны з СССР, лічачы, што савецкае кіраўніцтва мае патрэбу ў амерыканскіх пазыках, каб аднавіць панішчаную вайной эканоміку і палегчыць пакуты народа. Рузвельт не мог сабе ўявіць сістэму, пры якой усё вырашае адзін чалавек і ўсё залежыць ад аднаго чалавека. І тым больш ён не мог сабе ўявіць, што пакуты асобных людзей, пакуты народа хвалявалі Сталіна ў апошнюю чаргу. У адрозненне ад палітыкаў у дэмакратычных краінах, якія мусяць змагацца за галасы выбарцаў, Сталін ніяк не залежаў ад людзей, мільёны іх працягвалі жыць у беднасці.

Іншаземцаў моцна здзіўляла падрыхтаванасць Сталіна да любых пытанняў. Яны не ведалі, што гэта дасягалася дзякуючы разведцы, а таксама татальнаму праслухоўванню ўдзельнікаў канферэнцыі пры дапамозе «жучкоў». За апошняе адказваў сын Лаўрэнція Берыі Сярго.

### Нямецкае пытанне

Сталін выступаў за вяртанне да мадэлі існавання Германіі ў форме мноства дробных дзяржаў — якія існавалі па стане на сярэдзіну XIX стагоддзя, да аб'яднання Германіі.

Спрэчным пытаннем былі будучыя нямецкія рэпарацыі, у якіх найбольш зацікаўленым быў СССР, страты якога падчас вайны ацэньваліся ў 50 млрд тагачасных долараў. Сышліся на лічбе 10 млрд як «кампенсацыі за страты». Чэрчыль пры гэтым быў не супраць вывазу ў СССР нямецкага абсталявання: «Забіраючы фабрыкі і абсталяванне з Германіі, Расія зрабіла б нам паслугу, бо гэта паклала б канец нямецкаму экспарту, які б потым замясціў брытанскі экспарт».

### «Але ж ёй, відавочна, нічога не пагражае»

Амерыканцы не ведалі, што яшчэ з кастрычніка 1944 года існавала «пагадненне аб працэнтах» паміж Чэрчылем і Сталіным, заключанае ў Маскве. Згодна з ім, краіны Усходняй Еўропы былі падзеленыя на сферы ўплыву. У Румыніі СССР мусіў мець 90% уплыву, Брытанія — 10%, адваротная прапорцыя была ў Грэцыі. Югаславія і Венгрыя дзяліліся 50/50, Балгарыя — 80% СССР і 20% Брытанія. «Я падсунуў яе [таблічку] праз стол у кірунку да Сталіна, які ўжо даслухаў пераклад. З'явілася невялікая паўза. Тады ён узяў блакітны аловак, паставіў вялікую птушачку і перадаў яе нам назад. На вырашэнне справы пайшло не больш часу, чым на яе напісанне».

Такім чынам Брытанія вырашала пытанне кантролю над берагамі Міжземнага мора (Грэцыя), патрэбнага для сувязі марскімі лініямі з калоніямі (Егіпет, Суэцкі канал, Індыя). Чэрчыль, пры ўсім сваім розуме, не мог прадбачыць, што калоніі адна за адной адкалюцца і заваююць незалежнасць. Лёс усіх астатніх народаў — палякаў, румынаў, а тым больш украінцаў і беларусаў — для імперца Чэрчыля значыў менш. У кожным разе, ні брытанцы, ні амерыканцы не хацелі і не думалі ўвязвацца ў новую вайну, ужо з саветамі, за свабоду нейкіх народаў на ўсходзе Еўропы.

Польскае пытанне было самым значным: вялікая краіна, уплывовы народ. Незалежнасць Польшчы была адначасова і пытаннем найбольшага сімвалічнага значэння, бо ж брытанцы ўступілі ў Другую сусветную вайну для абароны Польшчы.

WIKIMEDIA COMMONS

**Гэты лісток паперы, на якім Чэрчыль са Сталіным за лічаныя хвіліны вырашылі лёс ледзь не ўсёй Усходняй Еўропы**, захаваўся ў архіве англійскага прэм'ера.

**Брытаніі была важная Грэцыя, а на Польшчу Лондан быў гатовы заплюшчыць вочы. Украіна ж і Беларусь тады ўвогуле нікім не ўспрымаліся як самастойныя суб'екты**

Рузвельт падчас канферэнцыі сказаў: «Польскае пытанне пяць стагоддзяў было галаўным болем для ўсяго свету». Для амерыканцаў незалежная Польшча выглядала тэстам на добрую волю Савецкага Саюза і неабходнай гарантыяй здзяйснення мары пра Арганізацыю Аб'яднаных Нацый. Для брытанцаў — спадзяваннем стрымаць савецкую экспансію ва Усходняй Еўропе.

Чэрчыль сказаў дачцэ ў першую ж ноч у Ялце: «Мы не можам пагадзіцца з тым, што Польшча стане толькі марыянеткавай дзяржавай Расіі, дзе нязгодных са Сталіным людзей будуць знішчаць. Амерыканцы не маюць ніякага ўяўлення пра глыбіню польскай праблемы. На Мальце я нагадаў ім пра незалежнасць ►

Польшчы і атрымаў пярэчанне: “Але ж ёй, відавочна, нічога не пагражае”».

Сталіну было важна зберагчы тэрытарыяльныя ўладанні, гарантаваныя пактам Молатава – Рыбентропа. У размове з брытанцамі і амерыканцамі ён апеляваў да так званай лініі Керзана, і максімум, які ён пасля некалькіх дзён перамоў згадзіўся саступіць, — 8 км ад яе на карысць Польшчы. Саветы стварылі ўласны польскі ўрад, назваўшы яго па прыкладзе створанай заходнімі саюзнікамі французскай арганізацыі Шарля дэ Голя Польскім камітэтам нацыянальнага вызвалення. Гэтым паказвалася, што СССР не ставіць пад сумнеў права польскай дзяржавы на існаванне, але «дзеля ўласнай бяспекі» патрабуючы поўнага дамінавання над гэтай краінай.

На пачатку канферэнцыі разглядалася магчымасць сустрэчы ў Ялце прадстаўнікоў прасавецкага і эміграцкага польскіх урадаў, але Сталін назваў гэтую ідэю ўтапічнай. Прапаноўваліся і іншыя варыянты, але ўрэшце ўсё звялося да неабходнасці правядзення ў Польшчы «па-сапраўднаму дэмакратычных выбараў». Гарантый гэтаму не прадугледжвалася, усе спадзяванні былі на сумленне таварыша Сталіна. Тое, што Сталін і хацеў.




Адначасова з амерыканскім фатографам Робертам Гопкінсам фотаздымкі трох лідараў рабіў і **29-гадовы савецкі фатограф Самарый Гурарый**. Аднак калі пасля ён адкрыў фотаапарат, то забыўся папярэдне зматаць плёнку і ўжо думаў, што важны здымак засвяціўся. Фатограф у думках ужо развітаўся з жыццём, але, на ягонае шчасце, акурат кадр з трыма лідарамі ацалеў. Менавіта гэты фотаздымак пасля друкаваўся ў савецкіх газетах.

### «Калі прыходзяць нашы войскі, то не застаецца ніякіх немцаў»

Новае бурнае абмеркаванне выклікала пытанне заходняй мяжы Польшчы. СССР прапанаваў «заходнюю мяжу Польшчы правесці ад горада Штэціна (польскі Шчэцін), далей на поўдзень па рацэ Одэр і яшчэ далей уздоўж ракі Нэйсэ (Нысы Лужыцкай)». Сталін быў гатовы пасунуць заходнюю мяжу Польшчы нават на 200 км заходней, чым на тое пагаджаліся саюзнікі. Але гэтаму супрацьпаставіўся Чэрчыль, патлумачыўшы сваё стаўленне, як заўсёды, метафарычна: «Было б вельмі шкада напхаць у польскага гусака столькі нямецкай ежы, каб ён памёр ад разладу жывата».

Англічан турбавала перспектыва атрымаць 6 млн нямецкіх бежанцаў у сваіх зонах акупацыі або з’яўленне ў складзе новаўтворанай польскай дзяржавы раёнаў з пераважна нямецкім насельніцтвам. Сталін патлумачыў, што гэтага баяцца не варта: «Там не будзе ніякіх немцаў, бо калі прыходзяць нашыя войскі, то немцы ўцякаюць і не застаецца ніякіх немцаў». Чэрчыль адказаў: «Гэта, натуральна, спрасціла б праблему», — і дадаў, што з ліку бежанцаў трэба адняць патэнцыйныя страты. Калі ж Сталін запытаўся, ці не мае ён на ўвазе 1–2 мільёны чалавек, то прэм’ер-міністр, згодна з амерыканскім пратаколам сустрэчы, адказаў на гэта: «О, я не прапаную ніякіх абмежаванняў на колькасць загінулых».

### ААН з Беларуссю і Украінай

Ідэя стварэння Арганізацыі Аб’яднаных Нацый належала Рузвельту. Ён казаў: «Я не настолькі аптымістычны, каб паверыць у вечны мір, але веру, што 50 гадоў міру былі б рэальнымі і магчымымі». Каб рэалізаваць гэты праект,

амерыканскаму прэзідэнту прыйшлося нават пагадзіцца на ўключэнне ў ААН БССР і УССР. Хоць напачатку ён гэтага рабіць не планаваў. Перад ад'ездам у Ялту Рузвельт нават паабяцаў Кангрэсу, што калі Сталін будзе настойваць на ўключэнні ў склад ААН савецкіх рэспублік, то ён запатрабуе ўключыць туды ж усе амерыканскія штаты. Але нечакана на дапамогу Сталіну прыйшоў Чэрчыль, які сказаў: «Свет сапраўды залежыць ад вялікіх дзяржаў, але было б несправядлівым не дазваляць меншым выказваць сваю занепакоенасць». Праўда, пры гэтым ён лічыў патрэбным зменшыць колькасць запатрабаваных СССР месцаў у ААН з 16-ці (па колькасці рэспублік) да трох. Сталін — саступка за саступку — пагадзіўся ўзяць удзел у баявых дзеяннях супраць Японіі. Амерыканцам тое было важна. Яны разумелі, што ў такім выпадку загіне менш амерыканскіх салдат.

### «Мы ўратавалі 2 мільёны амерыканцаў!»

Андрэй Грамыка ў сваіх успамінах прыводзіць эпізод, як Сталін атрымаў ліст ад Рузвельта, у якім амерыканцы прызнавалі прэтэнзіі СССР на Паўднёвы Сахалін і Курыльскія астравы. Аднак ні ў савецкіх, ні ў амерыканскіх паперах гэты ліст да сёння не выяўлены.

Сталін даў пісьмовую згоду распачаць вайну супраць Японіі праз тры месяцы пасля перамогі над Германіяй. Узамен на гэта Рузвельт пагадзіўся на права СССР стварыць савецкую ваенна-марскую базу ў Порт-Артуры і незалежнасць Манголіі. Адмірал Кінг прывітаў гэтую навіну наступнымі словамі: «Мы ўратавалі 2 мільёны амерыканцаў!» Суперінфармаваны адмірал быў няздольны прадбачыць, што японцы капітулююць праз некалькі дзён пасля Хірасімы і Нагасакі — што атамная бомба зробіць супрацоўніцтва бессэнсоўным.


WIKIMEDIA COMMONS

**Дзяржсакратар ЗША Эдвард Стэцініус і міністр замежных спраў СССР Вячаслаў Молатаў выглядаюць у крымскім небе самалёт амерыканскага прэзідэнта.** 3 лютага 1945 года. За іх плячамі — тагачасны пасол СССР у ЗША, будучы шматгадовы міністр замежных спраў СССР наш зямляк Андрэй Грамыка.

### Дэпартацыі дамоўленыя і недамоўленыя

Масква ад пачатку мела намер перасяліць палякаў з Заходняй Беларусі і Украіны на землі, атрыманыя Польшчай ад Германіі. Палякаў пачалі высяляць задоўга да таго, як Чырвоная армія выйшла на Одэр. Польскіх бежанцаў сталі звозіць у колішнія нямецкія канцлагеры ў хуткім часе пасля таго, як адтуль вызвалілі вязняў. Так, львоўскія палякі апынуліся ў Майданэку, колішнім нямецкім канцлагеры ў ваколіцах Любліна.

### «Дух Ялты»

У апошнія дні канферэнцыі прадстаўнікоў дэлегацый саюзнікаў ахапіла пачуццё, якое пазней яны акрэслілі як «дух Ялты» — адчуванне (а на самай справе ілюзія), што не існавала праблем, якія немагчыма вырашыць. «Вялікая тройка» намагалася дасягнуць паразумення па бягучых пытаннях, абмінаючы тое, што іх падзяляла. У выніку, як зазначае Сяргей Плахій, «Рузвельт так і не развеяў сваіх падазрэнняў адносна брытанскага імперыялізму, Чэрчыль ні на хвіліну не пераставаў быць антыкамуністам, а Сталін не мог зразумець логіку яго капіталістычных калег або характар іхняй дэмакратыі, якая магла выкінуць пераможцаў на выбарах або рабіла палітыкаў карыснейшымі для краіны, калі яны знаходзіліся не ва ўладзе, а ў апазіцыі». Неўзабаве пасля заканчэння вайны пачнецца іншая вайна — халодная. ◆

Агляд кнігі Сяргея Плахія зрабіў **Васіль Герасімчык.**

Джэрамі Бентам.

# ПАНОПТЫКУМ

## Як у Крычаве нарадзілася адна з найбольш арыгінальных ідэй брытанскай філасофіі

**Камеры вонкавага назірання, тэхналогіі распазнавання твараў, камп'ютарныя праграмы, што збіраюць інфармацыю і адсылаюць яе на далёкія серверы, сёння сталі часткай нашай штодзённасці. Усёмагутныя і незаўважныя сістэмы сочаць за намі, і звычайна мы нават не ўсведамляем сабе гэтага. І мала хто ведае, што сама ідэя нябачнага назірання нарадзілася ў канцы XVIII стагоддзя ў нас, у Беларусі. Піша Сяргей Астанковіч.**

WIKIMEDIA COMMONS

### Зорныя моманты Крычава

Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай у 1772 годзе ўсходнебеларускія землі ўвайшлі ў склад Расійскай імперыі. Імператрыца Кацярына II частку далучаных уладанняў раздала розным набліжаным асобам. Святлейшаму князю Грыгорыю Пацёмкіну, аднаму з найбольш вядомых і ўплывовых фаварытаў Кацярыны, дасталося Крычаўскае староства. Разам з 14 274 прыгоннымі беларусамі яно было падаравана яму ў 1776 годзе.

Пры Пацёмкіне Крычаў стаў буйным вытворчым цэнтрам. Крычаўская верф, пабудаваная ў 1785 годзе, была важным для Расіі цэнтрам суднабудавання. Тут стварылі цэлую флатылію для падарожжа імператрыцы ў Наваросію. Летам 1787-га, накіроўваючыся на поўдзень, каб зрабіць агледзіны Чарнаморскага флоту, ад Кіева да Краменчуга яна плыла на яхце «Дзясна», пабудаванай у беларускім горадзе. Таксама ўсёмагутны фаварыт Кацярыны пабудаваў у сваіх новых уладаннях мноства прадпрыемстваў: ветразевых, канатных, шкляных, гарбарных, а таксама млыны, вінакурні і бровар.

### Стаўка на замежныя кадры

Праца на такіх мануфактурах патрабавала не толькі мясцовай працоўнай сілы, але і адмыслоўцаў. Сваіх кадраў не было дзе надта ўзяць, таму стаўку зрабілі на замежнікаў. Сярод іншых у Крычаў у 1784-м прыбыў Сэмюэль Бентам (1757–1831), вядомы брытанскі інжынер, механік і суднабудаўнік. Яму было загадана кіраваць княжацкімі мануфактурамі і будаваць судны для транспартавання драўніны па Сажы і Дняпры ў далёкі Херсон. Таксама англічанін павінен быў рыхтаваць уладанні Пацёмкіна да меркаванага прыезду імператрыцы. Узамен Бентам атрымаў дом, прыслугу, працоўную сілу і сродкі, неабходныя для вырашэння розных праблем. Па ягоных словах, ён зрабіўся «заканадаўцам, суддзёй і шэрыфам» для тутэйшых жыхароў.

## Бентам пра беларусаў: людзі ціхія і неверагодна цярплівыя

Брытанцу на новым месцы спадабалася. Энергічны і амбіцыйны, ён апынуўся на ростанях еўрапейскіх шляхоў: тут перасякаліся не толькі дарогі, але сутыкаліся і далёкія адна ад адной культуры. «Месцазнаходжанне маляўнічае і прыемнае, людзі [...] ціхія і неверагодна цярплівыя, хоць адны працавітыя, а другія гультаі і п’яніцы». Тагачаснае насельніцтва горада складалі беларусы, расейцы, немцы, яўрэі: «Спачатку мае англійскія вушы ніяк не маглі прызвычаіцца да гэтай какафоніі». Яўрэі, у якіх даводзілася купляць усё неабходнае для жыцця, гаварылі на ідыш. «У кірмашовыя дні, апынуўшыся ў самай сярэдзіне гэтага гармідару дзівацкіх твараў і вопратак, я часта пытаўся ў сябе, якім ветрам мяне сюды занесла».

Хутка, аднак, стала зразумела, што аднаму яму не даць рады галоўнай пастаўленай задачы — будаванню караблёў. Бентам не разумеў мясцовых моў, а тутэйшае насельніцтва не разумела яго. Ды і ўвогуле, жыхары горада з іхняй звычайна невысокай кваліфікацыяй не надта надаваліся для ажыццяўлення яго планаў. Таму Бентам засыпаў князя скаргамі і атрымаў поўны карт-бланш на найманне замежных адмыслоўцаў і неабмежаваны бюджэт.

Праз бацьку і брата ў англійскай прэсе Бентам размяшчаў аб’явы, якія паведамлялі пра грандыёзныя планы князя і заахвочвалі ўсіх «разумных людзей» дапамагаць росквіту пацёмкінскай імперыі. Тым больш што ў прыступе англаманіі Пацёмкін нават паабяцаў стварыць тут цэлую англійскую калонію са сваёй царквой і прывілеямі.

Да лета 1785 года інжынер запрасіў з Вялікабрытаніі дваццаць спецыялістаў. У беларускім горадзе ўзнікла невялікае замежнае пасяленне.

### Рай для прайдзісветаў

Але не ўсё было так проста. На заклік Бентама ў Англіі адгукнулася нямала прайдзісветаў. Галоўнай праблемай быў недахоп у заходняй калоніі дысцыпліны. Лянота, крадзяжы, п’янства і сэксуальная разбэшчанасць сталі неад’емнай часткай жыцця заморскіх гасцей. Яны аказаліся ні на што нядатным натоўпам, які пры гэтым патрабаваў высокіх заробкаў. Непазбежныя, але ад гэтага не менш горкія расчараванні ішлі адно за адным.

Так, шатландзец Логан Хендэрсан, наняты кіраваць батанічным садам святлейшага князя, пазіцыянаваў сябе як спецыяліста не толькі па садах, але і па паравых машынах, цукровых плантацыях і феерверках. Ён завербаваўся, абяцаючы ▸

прывезці з сабой дзвюх пляменніц у якасці даярак. Але неўзабаве высветлілася, што «пляменніцы» Хендэрсана не толькі ніякія не пляменніцы, але і да малочнай вытворчасці не маюць аніякага дачынення. Сам жа «садоўнік» аказаўся «бессаромным самазванцам», які не пасадзіў аніводнай травінкі.

Іншы брытанец, Робук, падарожнічаў з «так званай жонкай», якая аказалася прафесійнай жрыцай кахання і прапаноўвала свае паслугі кожнаму з суайчыннікаў, жадаючы пазбавіцца ад «грубіяна-мужа». Бентам падазраваў, што ў Рызе Робук скраў у кагосьці брыльянты.

Некаторыя каланісты кралі грошы ў Сэмюэля, каб аплаціць пазыкі. А адзін з іх, Чарльз Бенсан, нават пагражаў напісаць даносы Кацярыне і Пацёмкіну на свайго шэфа.

І, вядома, прыезджыя не хацелі вывучаць мясцовыя мовы для таго, каб камунікаваць з падуладнай працоўнай сілай.

### «У нашым катэджы за тры мілі ад гарадка»

Нагледзеўшыся на ўвесь гэты бедлам, Сэмюэль Бентам стаў марыць пра такое прадпрыемства, у якім кіраўнік мог бы назіраць за ўсімі сваімі падначаленымі, застаючыся пры гэтым незаўважным. А неўзабаве для гэтага з'явілася і магчымасць.

**Галоўнай праблемай брытанскай калоніі ў Крычаве была нізкая дысцыпліна. Сюды з'ехаліся прайдзісветы — мала на што здатныя, але якім трэба былі высокія заробкі**

У 1786 годзе да інжынера далучыўся брат Джэрамі, які заставаўся тут каля 20-ці месяцаў. Джэрамі Бентам атрымаў ад князя Пацёмкіна запрашэнне прыбыць у Крычаў для збору звестак аб пажаданых зменах у галіне земляробства, садоўніцтва, мануфактурнай вытворчасці і гандлю. Таксама ён павінен быў прывезці з сабой дасведчанага батаніка.


DEFENCE of USURY;
Shewing the Impolicy of the
PRESENT LEGAL RESTRAINTS
ON THE TERMS OF
PECUNIARY BARGAINS.
IN A
SERIES OF LETTERS TO A FRIEND.
TO WHICH IS ADDED,
A LETTER
TO
ADAM SMITH, Eſq; LL. D.
On the Diſcouragements oppoſed by the above
Reſtraints to the Progreſs of
INVENTIVE INDUSTRY.
BY
JEREMY BENTHAM, of Lincoln's Inn, Eſq.
DUBLIN:
Printed for Meſſrs. D. Williams, Colles, White, Byrne, Lewis, Jones, and Moore.
MDCCLXXXVIII.

**Вокладка кнігі Джэрамі Бентама «Абарона ліхвярства»**, напісанай у Крычаве і выдадзенай у Дубліне ў 1788 годзе.

Джэрамі Бентам (1748–1832) у гісторыю ўвайшоў як сацыёлаг, юрыст, адзін з найбуйнейшых тэарэтыкаў лібералізму, заснавальнік цэлага кірунку ў брытанскай філасофіі — утылітарызму. У аснове ягонай этыкі ляжаў «прынцып карысці», у адпаведнасці з якім дзеянні людзей, іх стасункі мусілі ацэньвацца згодна з вынікамі, якія яны прыносяць. Ён жадаў усё наладзіць так, каб пры мінімальных выдатках рэсурсаў атрымаць найлепшы вынік. Гістарычнае ж значэнне кіраўніка, на думку філосафа, заключалася ва ўменні зрабіць шчаслівымі максімальную колькасць падуладных.




**Крычаў у 1780-я гады** на акварэлі мастака Міхаіла Іванова. Добра бачныя суднаверф, ратуша і гарадскія цэрквы.

Сваёй рэзідэнцыяй Джэрамі абраў не Крычаў, а вёску Задабрасць (ад савецкага часу яна завецца Калініна). І ўмовы для яго аказаліся надзіва спрыяльныя. «Тут, у Крычаве, дакладней у нашым катэджы за тры мілі ад гарадка, дзе я зараз жыву, у сутках не 24 гадзіны, а нашмат больш», — пісаў філосаф. Менавіта тут ён напісаў два свае знакамітыя творы: «Абарона ліхвярства» (*Defense of Usury*) і «Паноптыкум, ці Інспекцыйная ўстанова» (*Panopticon or the Inspection-House*).



WIKIMEDIA COMMONS

**Праект Паноптыкума Джэрамі Бентама,** 1791 год.

## Менавіта пад Крычавам Бентам напісаў свае знакамітыя творы *Defense of Usury* і *Panopticon*

Адштурхнуўшыся ад ідэй свайго брата, ён стварыў праект ідэальнай установы турэмнага тыпу, у якой можна было б пастаянна назіраць за людзьмі. Ягоная турма ўяўляла сабой цыліндрычны будынак з празрыстымі ўнутранымі перагародкамі. Вартаўнік знаходзіцца ў цэнтральнай вежы, але ён нябачны для вязняў. Апошнія не ведаюць, у які момант за імі назіраюць, таму ў іх узнікае адчуванне пастаяннага кантролю. Такім чынам, яны становяцца ідэальнымі вязнямі. Фізічны прымус у такіх умовах быў не патрэбны. Прытым людзі не толькі прымалі такую форму дысцыпліны, але хутка пераставалі яе заўважаць, успрымаючы як частку штодзённасці. Сістэму можна было выкарыстоўваць не толькі ▸



ARTUK.ORG

**Сэмюэль Бентам.**

«Будынак круглы. Пакоі вязняў размяшчаюцца па коле. Вы можаце назваць пакоі камерамі, калі жадаеце. Гэтыя камеры адасобленыя адна ад адной, і зняволеныя, такім чынам, ізаляваныя ад любой камунікацыі адзін з адным...
Кватэра інспектара займае цэнтр; калі хочаце, яе можна назваць вартоўняй інспектара. У большасці выпадкаў будзе зручна мець свабодную прастору паміж цэнтрам і акружнасцю. Гэтую прастору, калі хочаце, можна назваць прамежкавай ці кальцавой зонай».

*Джэрамі Бентам. Паноптыкум, ці Інспекцыйная ўстанова*



**Турма ў горадзе Кілмэнхем у Ірландыі**, пабудаваная ў 1796 годзе паводле прынцыпу паноптыкума Бентама.

▸ для турмаў, але для ўсіх іншых месцаў, дзе сканцэнтравана вялікая колькасць людзей, — фабрык, заводаў, вар'ятняў і г. д. А атрымала яна назву паноптыкума (у перакладзе са старажытнагрэчаскай — «усё бачна»).

Няма сумневаў, што на праект паноптыкума паўплывала практыка жыцця братоў Бентамаў у абсалютысцкай Расіі XVIII стагоддзя.

### Ідэальныя ўстановы

Нягледзячы на праблемы як з замежнай, так і мясцовай працоўнай сілай, браты Бентамы дасягнулі сур'ёзных поспехаў: выраб палатнянай мануфактуры патроіўся, вытворчасць карабельнага рыштунку падвоілася. Крычаўскія прадпрыемствы давалі прыбыткі на сотні тысяч рублёў. Дзякуючы заходняй медыцыне (хутчэй за ўсё, прышчэпкам ад воспы), удалося сур'ёзна павялічыць колькасць мясцовага насельніцтва. У сельскую гаспадарку ўводзіліся новыя культуры — такія як бульба. Поспехі былі дасягнутыя і ў садоўніцтве.

Але ў 1787 годзе браты, нягледзячы на свае дасягненні, былі вымушаныя назаўсёды




пакінуць Крычаў. Пацёмкін прадаў свае ўладанні мясцоваму абшарніку Галынскаму за 900 тысяч рублёў. А таму англійская калонія ў беларускім горадзе была не патрэбна. Пабудаваць тут паноптыкум браты не паспелі.

Аднак сама ідэя дарма не прапала. Падчас свайго чарговага прыезду ў Расію Сэмюэль Бентам паспрабаваў арганізаваць такую ўстанову ў Пецярбурзе, на рацэ Охта. Яна называлася Панаптычным інстытутам і выпрабляла навігацыйныя прыборы. Будынак, праўда, неўзабаве згарэў і цяпер вядомы толькі па чарцяжах. Цікавае супадзенне, але менавіта на гэтым месцы ў пачатку XXI стагоддзя ўсясільны «Газпрам» вырашыў змясціць хмарачос «Охта-цэнтр» вышынёй 396 метраў.

Джэрамі Бентам праз шмат гадоў напісаў расійскаму імператару Аляксандру I, што за два гады ў Крычаве атрымаў «самыя багатыя назіранні» свайго жыцця. Назваўшы Кодэкс Напалеона «ўсяго толькі хаосам», мысляр прапанаваў Аляксандру прыняць новае ўсёахопнае заканадаўства, якое будзе збудавана, быццам вакол цэнтральнай вежы, вакол бентамаўскага прынцыпу ўсеагульнай карысці. Панаптычны звод законаў ніколі не ўвайшоў у жыццё, аднак ідэі Джэрамі паўплывалі на заканадаўства некаторых амерыканскіх штатаў і Венесуэлы.

У мінулым стагоддзі брытанская задума матэрыялізавалася ў праектах такіх турмаў, як Прэсідзія Мадэла на кубінскім востраве Пінас (цяпер — Хувентуд, што па-іспанску азначае «юнацтва»), дзе з 1953 па 1955 год утрымліваўся Фідэль Кастра. Паводле прынцыпу паноптыкума была створана іспанская турма Карабанчаль у адным з прадмесцяў Мадрыда, дзе ў часы дыктатуры генерала Францыска Франка ўтрымлівалі палітвязняў. А ў Беларусі на паноптыкум найбольш падобная «амерыканка» — СІЗА КДБ у самым цэнтры Мінска. Яе васямнаццаць камер выбудаваныя па коле, а пасярэдзіне першапачаткова змяшчалася назіральная пляцоўка з ахоўнікам. Пасля вайны пляцоўку прыбралі, на адзін паверх падкарацілі і саму вежу — каб не высоўвалася з-за толькі што пабудаванага будынка органаў дзяржбяспекі.




**Мінская «амерыканка».**

**Бентам пісаў імператару Аляксандру I, што за два гады ў Крычаве атрымаў «самыя багатыя назіранні» свайго жыцця**

Нарадзіўшыся больш за 200 гадоў таму на беларускай глебе, мара братоў Бентамаў пра ідэальную ўстанову, так характэрная для эпохі Асветніцтва, перажыла і яе стваральнікаў, і Пацёмкіна, і Кацярыну II. У навуковы ўжытак яна вярнулася дзякуючы кнізе французскага філосафа Мішэля Фуко «Назіраць і караць», у якой мысляр выкарыстаў ідэю паноптыкума для апісання прынцыпаў улады. А на практыцы яе, падаецца, выкарыстоўваюць «кампетэнтныя органы» ва ўсім свеце. ◆

# Цывілізацыя мяняе адрас

## Як людзі шукалі за акіянам долары і свабоду

**У многіх беларускіх сем'ях захаваліся ўспаміны пра сваякоў, якія сто і болей гадоў таму з'ехалі ў Амерыку. Часцей за ўсё гэта былі маладзейшыя браты і сёстры нашых прабабуляў і прадзядуляў, якім у перанаселенай беларускай вёсцы ў спадчыну зусім не засталося зямлі і трэба было шукаць нейкі іншы шлях, чым лёс земляроба. Пра тое, як заакіянская эміграцыя адбывалася стагоддзе таму, піша Андрэй Вашкевіч.**


WIKIMEDIA COMMONS

**Эмігранты з Усходняй Еўропы ў першым пакаленні** збіраюць ягады пад Балтымарам, ЗША. 1909.

### Чаму ехалі

Людзі ехалі за акіян з розных прычынаў, асноўная маса з якіх мела эканамічны характар. Хранічнае беззямелле беларускай вёскі, галеча яўрэйскіх мястэчак, адсутнасць працы ў гарадах... У далёкай Амерыцы, цяжка працуючы, можна было добра зарабіць.

Але, апрача грошай, было ў гэтым масавым зыходзе таксама і памкненне да свабоды, жаданне пабачыць іншае грамадства, не падзеленае па саслоўнай і нацыянальнай прыкметах. Многія пасля вярталіся дадому: хтосьці назаўсёды, хтосьці каб забраць з сабой нарачоную. Тых, хто вярнуўся з-за акіяна, нават праз дзесяцігоддзі называлі «амерыканцамі», а таксама давалі іншыя з гэтым звязаныя, часам зусім дзіўныя мянушкі. Напрыклад, аднаго майго далёкага сваяка ў вёсцы называлі «Сановабіч», бо ён прывёз з Амерыкі звычку лаяцца словамі *son of a bitch* (сукін сын).

Сямейная гісторыя аўтара гэтага тэксту даволі тыповая. У майго прапрадзеда Яна было тры сыны і дзве дачкі. Дзяліць паміж імі гаспадарку, якая ледзь даходзіла да дзесяці гектараў зямлі, было бессэнсоўна. Таму прынялі рашэнне: зямля і дом дастануцца старэйшаму Адаму, майму прадзеду, а двум братам і сёстрам ён выплаціць па некалькі соцень царскіх рублёў. Дзяўчаты, атрымаўшы грошы, хутка выйшлі замуж, брат Юзік застаўся ў вёсцы, а Уладзіслаў вырашыў паспрабаваць шчасця за акіянам. Незадоўга да Першай сусветнай вайны ён ступіў на амерыканскую зямлю, там ажаніўся з дзяўчынай з ваколіц Гродна і пад канец жыцця меў нават невялікае прадпрыемства па вытворчасці крухмалу. Уладзіслаў да канца жыцця перапісваўся з Адамам, прысылаў яму нейкія грошы і фотаздымкі з домам, аўтамабілямі, сямейнымі святамі. А старэйшы брат, які ў 1950-я страціў зямлю і яшчэ паспытаў сталінскага лагера, шчыра радаваўся за брата-амерыканца. Пасля смерці абодвух трансакіянскія сувязі перарваліся.

### Што знаходзіцца на familysearch.org

Такіх гісторый можна расказаць сотні і тысячы. Напрыклад, на сайце *familysearch.org* па пошукавым запыце *Grodno*

выдаюцца запісы пра 12 тысяч чалавек, якія прыехалі ў ЗША паміж 1892 і 1924 гадамі. І гэта толькі з аднаго горада!

**Аднаго майго далёкага сваяка ў вёсцы называлі «Сановабіч», бо ён прывёз з Амерыкі звычку лаяцца словамі *son of a bitch***

Былі гэта галоўным чынам яўрэі, таму, калі вы захапляецеся фільмам «Аднойчы ў Амерыцы» з класікі сусветнага кінематографа, то можаце сабе ўявіць, што ўсе галоўныя героі фільма нарадзіліся недзе ў Лёзне ці Смілавічах. Арансан, Гольдберг і Беркавіч — тыповыя прозвішчы беларускіх яўрэяў той пары. Ды і галоўны герой Роберта дэ Ніра выпісаны паводле ўзору самага вядомага гродзенскага эмігранта — аднаго з аўтарытэтаў амерыканскай мафіі Меіра Ланскі.

Калі гаварыць пра славянскіх эмігрантаў, то і тут можна пашукаць сваіх сваякоў на гэтым сайце, створаным амерыканскімі мармонамі. Гэта будзе няпроста, паколькі запыт на звычайнае беларускае прозвішча накшталт Міцкевіч выдае тысячы імёнаў. Што зразумела, паколькі толькі праз маленькі Эліс-Айленд каля Манхэтэна прайшло за 50 першых гадоў XX стагоддзя каля 12 мільёнаў чалавек. Колькі з іх паходзіла з тэрыторыі сучаснай Беларусі — ніхто не ведае, але лік ідзе на многія сотні тысяч чалавек.

На выезд наважваліся не самыя бедныя, а тыя, хто меў пару сотняў рублёў на набыццё білетаў


WIKIMEDIA COMMONS

**Мужчынская спальня для імігрантаў** на востраве Эліс-Айленд.




Манета 25 цэнтаў, **прысвечаная імігрантам і Эліс-Айленду.**

і элементарную арганізацыю выезду. Білеты прадаваліся спецыяльнымі агенцтвамі і асобнымі агентамі, якія прадстаўлялі фірмы з офісамі ў Гамбургу, Брэмене, Ратэрдаме і Амстэрдаме.

### «Гродна» і «Тытанік»

Набыццё білета і ад'езд былі звязаныя з праблемамі. Найперш трэба было здабыць дазвол на выезд, і хоць гэта не было фармальна забаронена, улады часта чынілі перашкоды, не выдаючы людзям адпаведныя дакументы. Таму ўжо аселыя ў Амерыцы гарадзенцы нярэдка высылалі сваякам свае ўжо непатрэбныя дазволы, каб тыя па іх таксама маглі пакінуць Расійскую імперыю. Хлопцы прызыўнога ўзросту пераходзілі мяжу з Германіяй нелегальна.

Бывалі дні, калі ў Гамбург прыбывала па 700 чалавек, якія рыхтаваліся адплыць у Амерыку. Дзясяткі параходаў везлі тысячы людзей за акіян у няпэўную будучыню, але людзі верылі, што падарожжа ў смуродзе, без добрай вады і ежы будзе для іх апошняй пакутай.

Апошні раз развітацца з роднай Беларуссю можна было проста ►





Такія здымкі Нью-Ёрка прыслаў дамоў у Заходнюю Беларусь адзін эмігрант.

у каталіцтва дзіця былых уніятаў. Пасля таго святар вырашыў паспрабаваць шчасця за акіянам, але купіў білет на злашчасны «Тытанік». Як успаміналі тыя, хто перажыў катастрофу, Монвіл да апошняга спавядаў людзей на адной з палубаў карабля, які ішоў на дно.

### Лесвіца развітання

Але для пераважнай большасці падарожжа цераз акіян завяршалася ў порце Нью-Ёрка. На мацерыку, праўда, іміграпнты заставаліся ўсяго некалькі хвілін, далей іх паромамі перавозілі на маленькі востраў Эліс, дзе знаходзілася галоўная станцыя па прыёме тых, хто хацеў упершыню ступіць на амерыканскую зямлю. У канцы XIX стагоддзя амерыканскі медыямагнат Джозэф Пулітцэр востра раскрытыкаваў умовы, у якіх знаходзіліся імігранты, што прыбывалі на Манхэтэн. Ён добра ведаў сітуацыю, бо і сам за два дзесяцігоддзі да таго прыплыў у ЗША з Венгрыі. Тады амерыканскія ўлады і заснавалі станцыю прыёму эмігрантаў на Эліс-Айлэндзе.

▸ ў порце Нью-Ёрка, бо ў 1906–1907 гадах праз Атлантыку ў ліку іншых перавозіў пасажыраў параход з назвай «Гродна». Гэта быў нямецкі параход, куплены ў 1906-м Расійскім усходнеазіяцкім таварыствам разам з параходам «Коўна» для арганізацыі перавозак грузаў і пасажыраў з Лібавы (цяпер Ліепая ў Латвіі) у Філадэльфію і Нью-Ёрк. Хоць на «Гродне» і быў падняты расійскі сцяг, але карабель фактычна працягваў заставацца ва ўласнасці немцаў, а канкрэтней — Нямецка-амерыканскага таварыства з Гамбурга. За 1906 і 1907 гады параход «Гродна» пяць разоў перасякаў Атлантычны акіян, наведаў некалькі амерыканскіх партоў, перавозячы за адзін раз па 680 эмігрантаў з Расійскай імперыі. Па дарозе назад «Гродна» завітваў з грузамі ў Капенгаген і Гамбург.

Некаторыя караблі, праўда, да Амерыкі не даплывалі. Згадаем хоць бы знакаміты «Тытанік». Большасць загінулых на ім паходзілі з Харватыі, але быў і як мінімум адзін вілянчук — каталіцкі ксёндз Юзаф Монтвіл. Ён атрымаў забарону на святарства ў Расійскай імперыі за тое, што пахрысціў

**Для праверкі інтэлекту імігрантам давалі заданне сабраць з некалькіх частак просценькі драўляны караблік**

Першай імігранткай, якую ўрачыста сустрэлі на востраве, была ірландка Эні

**Максім Багдановіч.**
**Эмігранцкая песня**

Ёсць на свеце такія бадзягі,
Што не вераць ні ў Бога, ні ў чорта.
Ім прыемны стракатыя сцягі
Караблёў акіянскага порта.

І няма ім каго тут пакінуць,
Бо нікога на свеце не маюць.
Ўсё ім роўна: ці жыць, ці загінуць, —
Аднаго яны моцна жадаюць:

Пабываць у краях незнаёмых,
Ды зазнаць там і шчасця і гора,
І загінуць у хвалях салёных
Белапеннага сіняга мора.

Але мы — не таго мы шукаем,
Не таго на чужыне нам трэба.
Не расталіся б мы з нашым краем,
Каб было дзеля нас у ім хлеба.

І на вулцы пад грукат, пад гоман,
Дзе натоўп закруціўся рухавы,
Нам маячыцца вёсачка, Нёман
І агні партавыя Лібавы.

**«Наша Ніва». №17. 1914**

Мур. Менавіта ёй падарылі залатую дзесяцідоларавую манету, хоць большасць тых, хто прыплыў разам з Эні, былі выхадцамі з Расійскай імперыі. Усе пасажыры трэцяга класа, якіх перавозілі на Эліс-Айлэнд, былі дакладна перапісаныя капітанам карабля. Спачатку анкета ўключала 11 пунктаў, а пасля павялічылася да 33-х. Менавіта матэрыялы гэтых анкет можна знайсці на старонцы *familysearch.org*.

У вялікай зале падарожныя пакідалі багаж і раздзяляліся. Па лесвіцы асобна падымаліся мужчыны і жанчыны з дзецьмі. Ужо тут іх адсочвалі амерыканскія чыноўнікі, выглядаючы людзей з яўнымі фізічнымі недахопамі. Тады і падчас наступнага павярхоўнага медыцынскага агляду адсейвалі калек, хворых і людзей з вельмі нізкім узроўнем інтэлекту. Апошняе высвятлялі проста: давалі заданне сабраць з некалькіх частак просценькі драўляны караблік.

Тут жа імігрантаў рэгістравалі паўторна. Знайсці па матэрыялах гэтай рэгістрацыі сваякоў цяпер вельмі складана. Амерыканскія чыноўнікі бязбожна перакручвалі і скарачалі прозвішчы і імёны, тое самае тычылася і назваў мясцовасцяў, адкуль прыехалі эмігранты. Часта пісалі проста Расія ці Расійская імперыя, а больш свядомыя выхадцы з заходняй часткі імперыі маглі падаць сваёй радзімай і Польшчу, і Беларусь. А можна было проста сказаць назву сваёй вёскі ці суседняга мястэчка або губернскага горада. Чалавек быццам аддзяляўся ад свайго мінулага: для новага жыцця ўжо было не так важна, ці правільна запішуць ягонае прозвішча або месца нараджэння.

Пасля агляду людзі сыходзіліся па «лесвіцы развітання». Правы яе марш вёў да чыгуначных кас, адкуль можна было купіць білеты па ўсёй Амерыцы. Левы марш вёў да парома, які вёз у Нью-Ёрк тых, хто хацеў застацца ў горадзе.

## На выезд наважваліся не самыя бедныя

Сярэдні марш вёў да залы часова затрыманых. Такіх, дарэчы, рабілася ўсё болей. Спачатку былі ўведзеныя тэсты на пісьменнасць, потым амаль спыніўся прыём імігрантаў-азіятаў, пасля пачалі строга адсейваць «камуністаў» і «анархістаў». У 1954-м Эліс-Айлэнд быў канчаткова зачынены.

### Цывілізацыя ніколі не памірае

Далей у кожнага была свая дарога. Большасць ніколі не вярнулася на Радзіму і даволі хутка асімілявалася ў амерыканскім *melting pot*, «плавільным катле». Аднак некаторыя, наадварот, толькі за акіянам усвядомілі сябе беларусамі і па-беларуску пісалі сваякам на радзіму, у той час як тыя адказвалі ім па-расійску ці па-польску.

Яўрэйскім эмігрантам з Амерыкі ў Беларусь пісаць ужо не было каму. Але, як напісалі Чарльз Энгоф і Меер Левін у кнізе «Уздым амерыканскай яўрэйскай літаратуры», «цывілізацыя ніколі не памірае, яна толькі мяняе адрас. У першыя дзесяцігоддзі XX стагоддзя цэнтры яўрэйскай цывілізацыі пераехалі ў Амерыку. Вільня пераехала ў Нью-Ёрк, Гродна — у Філадэльфію, а Мінск — у Бостан»... ◆



**Фотаздымак ураджэнцаў Беларусі, прысланы на Гродзеншчыну з амерыканскай Пенсільваніі** ў сярэдзіне XX стагоддзя.

# «Шпіёнская сетка»

## як вясковыя інтэлігенты з Берштаў процістаялі польскай уладзе

**Шмат правінцыйных беларускіх актывістаў першай паловы XX стагоддзя аж дагэтуль чакаюць нават не ўшанавання сваёй памяці, а проста адкрыцця ўласных імёнаў. А менавіта гэтыя людзі стваралі рэгіянальныя структуры беларускага нацыянальнага руху, выпісвалі і пашыралі беларускія выданні, стваралі беларускія школы. Няўдача праекта Беларускай Народнай Рэспублікі прадвызначыла для большасці асабістую жыццёвую трагедыю, прытым па абодва бакі мяжы, уведзенай Рыжскай мірнай дамовай. Драматычны лёс братоў Сінілаў з-пад Гродна выглядае ў гэтых адносінах дастаткова тыповым. Піша доктар гістарычных навук Сяргей Токць.**

Некалькі гадоў таму адзін мой калега, гарадзенскі гісторык, пасля паездкі ў Вільню падзяліўся сканам дакумента, які ён зрабіў у тамтэйшым архіве. Гэта была анкета для паступлення на пасаду беларускага настаўніка, запоўненая на беларускай мове 2 лютага 1940 года ў літоўскім Каўнасе. На той час у Літву ўжо былі ўведзеныя савецкія войскі, а ў яе складзе знаходзіліся Вільня

## Берштаўскае (Бярштанскае) возера — любімае ў вялікіх князёў

Упершыню ў гістарычных крыніцах Берты згадваюцца каля 1460 года. У XV–XVI стагоддзях тут месціўся двор вялікіх князёў літоўскіх, якія часта прыязджалі сюды на паляванне. Тут жа яны абмяркоўвалі розныя дзяржаўныя пытанні. Гэтыя абмеркаванні ў дакументах Літоўскай Метрыкі нават называліся сонмамі. Вялікі князь прымаў на гэтых соймах розныя пастановы, надаваў прывілеі асобам і населеным пунктам. Так, у 1496-м у Берштах атрымала Магдэбургскае права Горадня. Двор вялікага князя, праўдападобна, месціўся на паўднёва-заходнім беразе Берштаўскага возера.

Бершты (Шчучынскі раён, Гарадзенская вобласць). Від з дрона.

ФОТА ІГАРА КУЛЕЯ

## Рака Котра лічыцца адной з самых чыстых у Беларусі

Яе вытокі — у балоце пад назвай Чапкелі. Далей яна цячэ сярод лясоў.

з Віленскім краем. Запоўніў анкету грамадзянін Літвы, ураджэнец вёскі Бершты Гарадзенскага павета Уладзімір Сініла.

Да таго часу я ўжо выдаў цэлую кнігу пра гэтую вёску, але ўсё адно заставалася нямала неразгаданых таямніц. Да іх ліку належала і гісторыя братоў Аляксандра, Уладзіміра і Юрыя Сінілаў, якія сталі актывістамі беларускага нацыянальнага руху ў сваёй мясцовасці ў 1920-я гады. А гэты падараваны скан анкеты з біяграфічнымі звесткамі яе аўтара акурат дазволіў знайсці адказ і на шэраг пытанняў адносна лёсу ўсёй гэтай сям'і.

### Заможныя і адукаваныя

Браты Сінілы не належалі да карэнных берштаўцаў. Іх бацькі, Васіль Сініла і Караліна з Сядлецкіх, паходзілі з мястэчка Краснасток (Ружаны Сток) у Сакольскім павеце Гродзенскай губерні (цяпер гэта Падляшскае ваяводства ў Польшчы). Там, як сведчылі пазнейшыя дакументы польскай паліцыі, у сямейнай пары ў 1891 годзе нарадзіўся старэйшы сын Аляксандр. Другі сын, вышэйзгаданы Уладзімір, нарадзіўся ў маі 1892-га, а месца нараджэння ў анкеце акрэсліў агульна — Гарадзеншчына. Наймалодшы сын, Юрый, прыйшоў на свет у 1903 годзе. ▶

## Котра — унікальная, раздвоеная рака

Спачатку Котра і Вула фармуюць адну раку. Мінуўшы мяжу Беларусі і Літвы, рака разбягаецца на дзве незалежныя рэчкі: Котру — прыток Нёмана, і Вулу — прыток Мерачанкі. Так склалася ў XIX стагоддзі, калі рэчышча Вулы знянацку перасякло водападзел Котры. У выніку два ранейшыя прытокі Котры цяпер належаць да Вулы. Праз тое панізіўся ўзровень грунтавых водаў і амаль зніклі некалькі тутэйшых вялікіх азёраў. Але найбольшае з іх, Бярштанскае, захавалася ва ўсім сваім харастве. Рэха б'ецца ў берагах атачанага лясамі, як сінім ружанцам, возера, нібы ў гарах. У самім мястэчку галоўнай цікавосткаю ёсць старасвецкая царква Параскевы Пятніцы, збудаваная ў 1816-м. Бярштанскае возера злучанае двума пратокамі з рэчкай Котрай. Праз адну пратоку вада з ракі трапляе ў возера, а праз другую, каля выселку Бераставіца, вяртаецца ў рэчку.

**Сяргей Харэўскі. Маршруты па Беларусі: Котра. Рака і пушча. «Наша Ніва», 2009 год**



З КАЛЕКЦЫІ АРХЕОЛАГА ЮЗАФА ЯДКОЎСКАГА

**Каплічка на падворку** ў вёсцы Берашты. Міжваенны час.

Сям'я Сінілаў не была беднай. Якраз наадварот, яна належала да ліку самых заможных у Берштаўскай валасці. Пра гэта сведчыць наступны факт. Васіль Сініла працаваў аб'ездчыкам у Берштаўскім дзяржаўным лясніцтве. Калі ў 1910 годзе ён памёр, старэйшыя сыны Аляксандр і Уладзімір звярнуліся да ўладаў з просьбай прадаць ім на льготных умовах надзел зямлі ва ўрочышчы Засады непадалёк ад вёскі Берашты, дзе знаходзілася леснічоўка Сінілаў. Васіль з сынамі ачысцілі там ад зараснікаў і пераўтварылі ў ворыва 12 дзесяцін казённай зямлі. Улады вызначылі кошт

## Супрацоўніцтва з бальшавікамі не лічылася тады ў асяроддзі мясцовай беларускай інтэлігенцыі нечым заганным

надзела ў 760 рублёў, што было ў той час для мясцовых сялян вялізнай сумай. Тым не менш зямлю Сінілы набылі, значыць, грошы мелі.



ФОТА ІГАРА КУЛЕЯ

**Будынак гміны міжваеннага часу.** Дэпутаты гміны (аналаг цяперашняга сельсавета) са свайго небагатага бюджэту пералічвалі штогод 300 злотых на Віленскую беларускую гімназію.

### Царкве 200 гадоў

Праваслаўная царква ў Берштах збудаваная ў 1816 годзе. Да пачатку XX стагоддзя яна была філіяй Глыбоцкай прыходскай царквы (цяпер вёска Нарашы).

Уладзімір Сініла да таго часу скончыў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю і ў 1910-м паступіў на працу малодшым настаўнікам у Берштаўскае двухкласнае народнае вучылішча. У 1914 годзе ён стаў яго кіраўніком. І ў тым жа самым годзе выбухнула Першая



ФОТА ІГАРА КУЛЕЯ

**У Берштаўскай школе настаўнік Уладзімір Сініла ў 1919 годзе пачаў вучыць дзяцей на беларускай мове. У 1920-я гады мясцовая моладзь ладзіла ў будынку школы беларускія тэатральныя пастаноўкі**

сусветная вайна, якая назаўсёды зламала ранейшы свет, асабліва для жыхароў гэтага рэгіёна, якія летам 1915 года мусілі масава выправіцца ў бежанства ўглыб Расіі.
Сям'я Сінілаў разам з іншымі сваякамі выехала ў Яраслаўль. Уладзіміра там прызвалі ў войска. Ён скончыў у 1916-м у Маскве Аляксандраўскае вайсковае вучылішча і быў накіраваны ў Бронніцкі пяхотны полк, дзе дaслужыўся да чыну штабс-капітана. Старэйшы ж брат Аляксандр пазней пісаў, што ў бежанстве працаваў у Яраслаўлі ў земстве, удзельнічаў у правядзенні сельскагаспадарчага перапісу, а таксама вучыўся на таксатарскіх курсах.

### Далучэнне да палітыкі

У 1918 годзе Сінілы вярнуліся з рэвалюцыйнай Расіі ў Засады. Уладзімір зноў пачаў настаўнічаць у Берштах, а Аляксандр далучыўся да палітычнага жыцця. Ён уступіў у «Беларуска-Літоўскую арганізацыю» (так абцякальна пра гэта пісалася ў дакументах) і да канца нямецкай акупацыі працаваў па яе заданні ляснічым у Берштаўскім лясніцтве. ▶

### Берштыдалі свету нямала вядомых людзей

Берштаўскія карані мелі паэты Макар Краўцоў і Міхась Васілёк. Краўцоў, нагадаем, напісаў нацыянальны гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». Дзяды Краўцова і Васілька — у іх абодвух сапраўднае прозвішча было Касцевіч — у сярэдзіне XIX стагоддзя выселіліся з Берштаў і заснавалі новую вёску Баброўня. Таксама берштаўскія карані маюць экс-кандыдат у прэзідэнты Беларусі Аляксандр Мілінкевіч і гісторык Вячаслаў Швед. Паходзяць з Берштаў мовавед Мікалай Даніловіч, паэткі Любоў і Вольга Русілкі, Святлана Варапаева (Васілевіч), а таксама Галіна Лепешава — малекулярны біёлаг, прафесарка Універсітэта Вандэрбільта ў Нэшвіле (ЗША).



**Школы ў Берштах была збудаваная на пачатку XX стагоддзя**, тады гэта было двухкласнае народнае вучылішча. Пазней школа дабудоўвалася пры польскай і савецкай уладах.



**Аляксандр Мілінкевіч, адзін з лідараў беларускага руху ў Берштах, дапамагаў беларускай антыпольскай партызанцы, у 20-х разам з Сінілам стварaў мясцовы Беларускі камітэт,** а пазней, з 1927 года — Таварыства беларускай школы. На фота ён са сваёй жонкай Лідзіяй Мілінкевіч, якая працавала настаўніцай у Ліпніках (5 км ад Берштаў), была выпускніцай Дзямідаўскай жаночай гімназіі ў Пецярбурзе, свабодна валодала беларускай, расейскай, польскай, нямецкай, французскай мовамі.

**Проўда!**

Характэрная спецыфіка мясцовай мовы – «оканне» перад «ў» пад націскам (я паехоў, я напісоў, проўда і г. д.).

▶ У гэты час ён удзельнічаў у з'ездзе сялян Гарадзеншчыны. Калі на кароткі час у 1920-м годзе ўсталявалася савецкая ўлада, Аляксандр Сініла ўладкаваўся на працу ў Берштаўскі рэвалюцыйны камітэт, дзе стаў справаводам зямельнага і ляснога аддзела.

Уладзімір таксама пры бальшавіках напісаў заяву ў павятовы аддзел народнай адукацыі з просьбай даць яму працу настаўніка, адзначыўшы, што ўжо выкладаў у 1919-м у Берштаўскай школе беларускую мову, але ў тым жа годзе гэтая школа была зачыненая польскімі ўладамі, а ўсе кнігі і маёмасць канфіскаваныя. Відаць, у тым ліку і ў святле такога стаўлення да беларусаў з боку польскіх уладаў супрацоўніцтва з бальшавікамі не лічылася тады ў асяроддзі мясцовай беларускай інтэлігенцыі нечым заганным.

## У новай айчыне

Пасля канчатковага ўсталявання польскай улады браты Сініла страцілі магчымасць працаваць па сваіх неземляробчых спецыяльнасцях і жылі толькі з уласнай гаспадаркі. Для беларускай інтэлігенцыі гэта тады была тыповая сітуацыя, бо палякі намагаліся не дапускаць прадстаўнікоў нацыянальных меншасцяў ні ў адукацыйную сферу, ні ў сферу лясной гаспадаркі.

Такая сітуацыя натуральна штурхала пакрыўджаных беларусаў у палітыку. У Берштаўскай гміне ў 1922–1923 гадах актыўна дзейнічала беларуска-літоўская партызанка. Дзясяткі маладых хлопцаў перайшлі літоўска-польскую мяжу і ўступілі ў шэрагі беларускага батальёна, які дыслакаваўся ў мястэчку Мерач. Непасрэдных фактаў пра датычнасць братоў Сінілаў да партызанскага руху пакуль не выяўлена, але сувязі гэтыя, улічваючы папярэднія іх біяграфіі, выключаць нельга. Увосень жа 1922 года, падчас парламенцкіх выбараў, Аляксандр Сініла ўступіў у Беларускі выбарчы камітэт і ўвайшоў у спіс кандыдатаў у Сейм ад Блока нацыянальных меншасцяў па Гродзенскай выбарчай акрузе. У барацьбе за галасы беларускага сялянства гэты блок (больш падрабязна пра яго можна прачытаць у артыкуле Аляксандра Пашкевіча «Як немцы з яўрэямі аб'ядноўвалі славян» у самым першым нумары «Нашай гісторыі» (1/2018)) канкураваў з камуністамі і польскімі нацыянальнымі партыямі левай арыентацыі. Беларускія дзеячы павялі выбарчую кампанію пад лозунгамі: «Хочаш, каб уся тутэйшая зямля дасталася




**У польскі час Бершты былі цэнтрам гміны, тут працавала школа.** Цяпер па рацэ Котра прайшла мяжа паміж Беларуссю і Літвой.

## Што за назва «Бершты», ад чаго паходзіць?

Назва Бершты — гэта балцкі варыянт назвы Бераставіца. Адчуваеце роднасць балцкага кораня «бершт-» і славянскага «бераст-»? Пра паходжанне вёскі Засады ўзгадак не засталося. У дакументах XIX стагоддзя яна называлася таксама Закотра.

звязаны з беларуска-літоўскімі партызанамі, таму ў маі 1923 года стаў адным з абвінавачаных на працэсе над імі ў Беластоку, будучы асуджаным на 6 гадоў ▶

тутэйшаму працоўнаму сялянству? Хочаш школы ў роднай мове? Хочаш, каб уся адміністрацыя была свая, тутэйшая, каб урадоўцамі былі нашы людзі? Хочаш служыць у войску ў сваім родным краю? Хочаш быць гаспадаром на сваёй зямлі, хочаш аўтаноміі нашага краю са сваім Соймам у Вільні?». Такія лозунгі найлепшым чынам адпавядалі амбіцыям такіх вясковых інтэлігентаў, як Сінілы.

Дэпутатам Аляксандр Сініла, праўда, не стаў, на ягонае месца ў спісе мандатаў не хапіла. Ад Гродзенскай акругі з беларусаў у Сейм прайшоў вядомы ў той час дзеяч з Гродна Сяргей Баран (Баранаў). Але ён быў непасрэдна

## Па якім крытэрыі там праводзілі беларуска-літоўскую мяжу?

Яна ў ваколіцах Берштаўскай пушчы больш-менш супадае з моўнай мяжой, хоць невялікія вёсачкі і лясныя асады на памежжы былі двухмоўнымі. На літоўскіх дыялектах размаўлялі жыхары вёсак на поўнач ад Берштаў.

**Дарога ў Берштаўскай пушчы.**

ФОТА СЯРГЕЯ ТОКІЦЯ



**Дзеці ў вёсцы Бершты.** Фотаздымак зроблены савецкім карэспандэнтам восенню 1940 года.

турмы. На яго месца ў Сейм павінен быў прыйсці акурат Аляксандр Сініла, аднак улады тут жа абвінавацілі і яго ў антыдзяржаўнай дзейнасці. Праўда, доказаў ягонай «злачыннай» працы паліцыі сабраць не ўдалося, аднак дэпутацкі мандат ён так і не атрымаў.

Тым часам страціў пасаду настаўніка беларускай школы ў вёсцы Матылі Берштаўскай гміны і брат Аляксандра Уладзімір. Яшчэ ў канцы лютага 1922-га браты Сінілы прапанавалі матыльскім сялянам заснаваць на ўласныя сродкі беларускую школу. І гэта ўдалося зрабіць, хоць Матылі лічыліся самай беднай вёскай у гміне. Вясковы актывіст Клімук Грымута прывёз з Вільні падручнікі на беларускай мове, і Уладзімір Сініла зноў пачаў настаўнічаць. На той час гэта была адна з нямногіх прыватных беларускіх школ на Гарадзеншчыне, і праіснавала яна да вясны 1925 года. Акрамя настаўніцтва, Уладзімір Сініла пісаў вершы, дасылаючы іх у Вільню ў беларускія часопісы, дзе яны друкаваліся пад псеўданімам Уладзімір Сыч.

Калі школу ўсё-такі зачынілі, Уладзімір Сініла, паводле справаздачы мясцовага паліцэйскага каменданта, «пачаў пашыраць агітацыю сярод беларускага насельніцтва, каб жадалі беларускіх школ і навучання дзяцей толькі на беларускай мове, а як былы настаўнік і мясцовы жыхар мае ўплыў на тутэйшых людзей». А 28 красавіка, паводле

## Жыццё з лесу

Лес да сёння — галоўная крыніца даходаў берштаўцаў.



**Сядзіба Мілінкевічаў у Берштах.**

ФОТА ІГАРА КУЛЕЯ

інфармацыі паліцыі, ён нелегальна эміграваў у Літву.

У сваёй аўтабіяграфіі Сініла згадваў, што пасля пераходу ў Літву арганізаваў у мястэчку Мерач Беларускае культурна-асветнае таварыства. Затым, аднак, ён адышоў ад актыўнай грамадскай працы і пасяліўся з сям'ёй у Коўне. Да 1940 года ў яго ўжо было чацвёра дзяцей.

### Разгром

А старэйшы і малодшы браты Уладзіміра Сінілы, Аляксандр і Юрый, засталіся на бацькоўскай гаспадарцы. У гэты час па ўсёй Заходняй Беларусі магутнай хваляй разгарнуўся масавы грамадоўскі рух, які да канца 1926-га ахапіў і большасць вёсак Берштаўскай пушчы. Але браты Сінілы да яго чамусьці не далучыліся. Больш за тое, калі напярэдадні чарговых парламенцкіх выбараў у 1928 годзе дзяржаўныя ўлады пачалі арганізоўваць мясцовыя суполкі праўрадавай арганізацыі Беспартыйнага блока супрацоўніцтва з урадам (ББСУ), скарбнікам яго гміннага камітэта Берштаў стаў Аляксандр Сініла. Увайшлі ў яго і іншыя мясцовыя беларускія актывісты, у тым ліку і колішні грамадоўскі лідар Мікалай Касцевіч. А адзін з сяброў камітэта, Аляксандр Мілінкевіч, 6 лютага 1928 года нават паслаў віншавальную тэлеграму Юзафу Пілсудскаму ад імя сыноў і ўнукаў паўстанцаў 1863 года. Хутчэй за ўсё, з боку беларускіх актывістаў уваход у праўрадавую арганізацыю быў тактычным крокам, каб ва ўмовах урадавых рэпрэсій захаваць магчымасць легальна займацца беларускай дзейнасцю.

Аднак калі такія надзеі існавалі, то ім не суджана было спраўдзіцца. Рэальнасць была суровая. Калі ў канцы снежня 1929-га Мікалай Касцевіч, які быў войтам гміны, атрымаў ліст з Цэнтральнай управы Таварыства беларускай школы з заклікам актывізаваць беларускую культурна-асветніцкую працу, то мясцовыя актывісты пастанавілі правесці сход у хаце Сінілаў у Засадах. Але паліцыя, даведаўшыся пра гэта, ▶

**Рыба лінь**

Самай смачнай рыбай сярод мясцовых жыхароў лічыцца лінь





ФОТА ІГАРА КУЛЕЯ

**Войны і Бершты**

У 1812 годзе на Бершты напалі марадзёры з войска Напалеона. У 1863-м у Бершты наведваліся паўстанцы, знішчылі мост цераз Котру. У часы Другой сусветнай вайны нацысты спалілі некалькі лясных вёсак і хутароў у Берштаўскай пушчы.


ФОТА ІГАРА КУЛЕЯ

### Дзе паесці? Дзе спыніцца?

Непадалёк ад Берштаў, у вёсцы Бераставіца, ёсць дзве аграсядзібы. Адна завецца «У Макса», другая без назвы.

### Што наведаць, дзе пабываць?

Варта наведаць курганны могільнік «Мольчын рог» на беразе возера, гарадзішча XII–XIII стагоддзяў на беразе Котры каля суседняй вёсачкі Зубраўка. Вельмі цікавы, хаця і складаны з прычыны шматлікіх завалаў дрэў сплаў на байдарках па рацэ Котра да Нёмана.

адразу правяла ператрусы з прэвентыўнымі арыштамі.

А канчатковы ўдар беларускай справе ў Берштаўскай гміне нанёс судовы працэс супраць членаў «шпіёнскай арганізацыі». У пачатку студзеня 1930 года былі арыштаваныя 9 мясцовых жыхароў беларускай і літоўскай нацыянальнасцяў, у тым ліку Аляксандр і Юрый Сінілы. Усіх іх абвінавацілі ў шпіянажы на карысць Літвы. Падставай для арышту паслужыла тое, што ў канцы снежня 1929-га паліцыя затрымала ў Горадні Юрыя Сінілу. У яго была знойдзена шыфраваная запіска, якая, па звестках паліцыі, нібыта ўтрымлівала інфармацыю для літоўскіх спецслужбаў пра тое, колькі моладзі ў Берштаўскай гміне ўступіла ў шэрагі «Стралецкага саюза» — праўрадавай моладзевай арганізацыі. Паліцыя сцвярджала, што ў Берштаўскай гміне працавала цэлая шпіёнская сетка на чале з Аляксандрам Сінілам, які падтрымліваў сувязь са сваім братам Уладзімірам. Апошні, па версіі паліцыі, нібыта нелегальна перайшоў спачатку ў БССР, а адтуль быў накіраваны ў Літву, дзе працаваў для літоўскай разведкі ў Мерачы.

У пачатку чэрвеня 1930 года арыштаваным жыхарам Берштаўскай гміны былі вынесены прысуды. Лідары арганізацыі (зноў жа паводле версіі паліцыі) Аляксандр Сініла і Мікалай Касцевіч атрымалі па 6 гадоў турмы. Сінілу, апрача таго, было забаронена вяртацца ў Бершты, і ён пасля вызвалення пасяліўся дзесьці пад Беластокам. Малодшы ж з братоў, Юрый Сініла, памёр падчас следства.

Уладзімір Сініла, як вынікае з анкеты 1940 года, ведаў пра лёс сваіх братоў. У анкеце ён даваў такую параду арганізатарам беларускага школьніцтва: «Перад усім аберагайце беларускую школу ад вучыцялёў-наймітаў, каторыя за грошы прыкінуцца беларусамі, а пасля, пусціўшы глыбокія карані, будуць таптаць беларускую справу».

### Нічога не засталося

Далейшы лёс братоў Сінілаў, на жаль, ахутаны таямніцай. Невядома, які адказ на сваю заяву атрымаў Уладзімір. Набліжалася інкарпарацыя Літвы ў склад СССР, і можна меркаваць, што з увагі на палітычнае мінулае яму пагражала вялікая небяспека. Але што з ім пасля таго сталася, пакуль цяжка сказаць: сляды проста абрываюцца. Не ўдалося пакуль знайсці нават фотаздымкаў ні яго, ні братоў.

А сямейнаму гнязду Сінілаў у Засадах таксама не суджана было доўга пратрымацца. У Кнізе ўліку аднаасобных гаспадарак Берштаўскага сельсавета за 1949–1950 гады пазначана гаспадарка Караліны Антонаўны Сінілы ў вёсцы Засады, да якой належала больш за 6 га зямлі. Але ў той жа кнізе было дапісана, што яна пераехала ў Гродна. У пагаспадарчай кнізе Берштаўскага сельсавета за 1949–1951 гады ўласнікам гэтай гаспадаркі пазначана Настасся Васільеўна Соін (магчыма, родная сястра братоў Сінілаў). Разам з ёй жыла пляменніца Марыя Аўхімень з дачкой Аляксандрай. Паводле гэтай кнігі, гаспадарка налічвала 12 га і была самай вялікай у сельсавеце. У пагаспадарчай кнізе на 1952–1953 гады ўласніцай гэтай гаспадаркі пазначана ўжо Марыя Аўхімень, але адзначана, што у ліпені 1952-га яна разам з дачкой Аляксандрай выехала ў Літоўскую ССР. Вёска ж Засады, у якой нават працавала пасля вайны пачатковая школа, знікла ў 1950-я гады ў выніку будаўніцтва вайсковага палігона. Так сямейнае гняздо і расцерушылася па белым свеце. ◆

Скульптура папы Грыгорыя XIII у Балонні, Італія. Ён кіраваў касцёлам ад 1572 да 1585 года. **Грыгарыянскі каляндар — самы вядомы вынік яго пантыфікату.**

SHUTTERSTOCK.COM, BY KIZEL COTIW-AN

# Чыя ўлада — таго і час

**Аб прыгодах беларускага календара піша доктар гістарычных навук Святлана Куль-Сяльверстава.**

У нашым календары ёсць не афіцыйнае, але народнае свята, якое мае парадаксальную назву — Стары Новы год. Яно, бадай што, найлепш характарызуе сітуацыю ў беларускім летазлічэнні апошніх чатырох з лішкам стагоддзяў. На працягу гэтага перыяду на нашых землях ва ўжытку былі два хрысціянскія календары — юльянскі і грыгарыянскі. Абодва яны жывыя і сёння.

## Юльянскі каляндар

Юльянскі каляндар прыйшоў на беларускія землі разам з хрысціянствам. Па ім акрэсліваліся дні хрысціянскіх святаў і прысвяткаў, даты пастоў, парадак набажэнстваў.

Стваральнікам юльянскага календара быў егіпецкі астраном і матэматык Сазіген, які на даручэнне рымскага дыктатара ▸

▶ Гая Юлія Цэзара займаўся распрацоўкай каляндарнай рэформы. У календары былі аб'яднаныя ў адно старажытнарымскія традыцыі адліку часу (назвы месяцаў, іх колькасць) і астранамічныя веды егіпцян (працягласць астранамічнага года, суадносіны месячнага і сонечнага календароў). За падставу каляндарнага цыкла Сазіген узяў вядомую ў той час працягласць астранамічнага года ў 365 дзён і 6 гадзін. Для зручнасці адліку ён прапанаваў тры гады лічыць па 365 дзён, а чацвёрты — па 366 дзён, каб пазбыцца дробнай часткі сутак і ўраўнаважыць астранамічны і каляндарны гады.

Каляндарная рэформа была праведзена Гаем Юліем Цэзарам у 46 годзе да н. э., а адлік па юльянскім календары вядзецца з 1 студзеня 45 года да н. э.

### З'яўленне грыгарыянскага

Пры ўсёй зручнасці і матэматычнай дасканаласці юльянскага календара ў ім адразу была закладзена істотная недакладнасць, якая ўрэшце прывяла да неабходнасці яго рэфармавання. Сапраўдная даўжыня астранамічнага года роўная не 365 дням і 6 гадзінам, а 365 дням 5 гадзінам 48 хвілінам і 46 секундам. Розніца ў 11 хвілін і 14 секунд спачатку была непрыкметнай, але за 128 гадоў яна склала цэлы дзень, а за 1 280 гадоў — 10 дзён. Адстаючы ад астранамічнага года, каляндарны юльянскі год з цягам часу ўсё менеей стаў адпавядаць сонечнаму рытму.

Пра неабходнасць дапрацоўкі юльянскага календара пачалі гаварыць ужо ў XIV стагоддзі. Але паколькі ён быў асвечаны рэлігійнай традыцыяй, то на змены ў ім на працягу некалькіх стагоддзяў не адважваліся. Толькі ў часы агульнага рэфармавання Каталіцкай царквы прыйшоў час і на змену календара. На пачатку 1570-х па ініцыятыве папы Грыгорыя XIII пачала працаваць каляндарная камісія. Першынство ў ёй належала астраному і матэматыку Хрыстафору Клавіюсу.

Новы каляндар уводзіўся ў жыццё папскай булай *«Inter gravissimas»* ад 21 лютага 1582 года. Згодна з ёй, адлік па грыгарыянскім календары павінен быў пачынацца ў каталіцкіх краінах у кастрычніку гэтага года. Пасля 4 кастрычніка наступала адразу 15 кастрычніка — выключаліся дні, якія назапасіліся з-за недасканаласці высакоснай сістэмы.

**Рэч Паспалітая была сярод першых дзяржаў, якія прынялі грыгарыянскі каляндар**

У грыгарыянскім календары, у адрозненне ад юльянскага, высакоснымі былі не ўсе гады з двума нулямі на канцы, якія пачыналі новае стагоддзе, а толькі тыя, у якіх лічба тысяч і соцень гадоў была кратнай чатыром. Такім чынам, калі ў юльянскім календары высакоснымі былі 1600, 1700, 1800, 1900 і 2000 гады, то ў грыгарыянскім з пералічаных — толькі 1600-ы і 2000-ы. На працягу стагоддзяў розніца паміж календарамі павялічвалася: у час рэформы яна складала 10 дзён, цяпер — 13, а з 2100 года будзе 14.

Дадатковы год, як і дадатковы дзень, атрымалі назву **высакосных**, што было звязана з асаблівасцю рымскага адліку дзён у месяцы. Рымляне вялі адваротны лік дням, высакосны дзень быў другім шостым днём перад сакавіцкімі календамі (1 сакавіка), за ім ішоў пяты, чацвёрты і г. д. На латыні назва дадатковага, другога шостага дня гучала як «біс сектус» (*bis sextus*), што і абумовіла ўзнікненне тэрміна «высакосны». Дадатковы дзень быў дададзены да лютага — самага кароткага месяца ў календары.

### Роля Баторыя

За працай над новым календаром зацікаўлена сачыў кароль Рэчы Паспалітай Стэфан Баторый. У гэты час ён праз свайго брата вёў ажыўленыя перамовы з ордэнам езуітаў і з папам аб адкрыцці езуіцкіх школ і калегіумаў на ўсёй тэрыторыі Рэчы Паспалітай. Дзякуючы пасярэдніцтву караля першыя матэрыялы каляндарнай рэформы былі адпраўленыя для разгляду ў Кракаўскі ўніверсітэт. У знак удзячнасці Хрыстафор Клавіюс прысвяціў Баторыю сваю выдадзеную ў 1581-м працу *«Gnomonices libri octo»* («Восем кніг пра гнамоніку»), у якой разглядаліся інструменты і тэхнікі для вымярэння часу.

Рэч Паспалітая была, разам з Папскай вобласцю і Іспаніяй, сярод першых еўрапейскіх дзяржаў, якія прынялі новы каляндар. Спецыяльнага загаду ці соймавай пастановы адносна гэтага, хутчэй за ўсё, не было. Ва ўсякім разе, крыніцы пра гэта не згадваюць. Але папская була была аўтарытэтным дакументам і сама па сабе, бо

каляндарныя пытанні знаходзіліся ў кампетэнцыі святароў. Таму ў дакументах сойма, які ў кастрычніку 1582-га адбываўся ў Варшаве, з'явіліся даты паводле грыгарыянскага календара без дадатковага тлумачэння. У найбліжэйшыя тыдні пасля гэтага на грыгарыянскі каляндар перайшлі таксама канцылярыі Кароны Польскай і ВКЛ, а затым — недзе на працягу наступнага года — дзяржаўныя ўраднікі і гарадское самакіраванне.




WIKIMEDIA COMMONS

**Папа Грыгорый XIII кіруе пасяджэннем камісіі па рэфармаванні юльянскага календара.**

## Праваслаўныя і пратэстанты супраць

Але распаўсюджанне новага календара ў нашай краіне не было лёгкім. Рэч Паспалітая з'яўлялася поліканфесійнай дзяржавай. Найбольш выразна гэта праяўлялася ў Вялікім Княстве Літоўскім, дзе большую частку насельніцтва тады складалі праваслаўныя. Ды і ў Кароне на ўкраінскіх землях актыўна баранілі праваслаўную веру. Моцнымі былі таксама пазіцыі пратэстантаў.

Праваслаўныя патрыярхі, да якіх звярнуліся вернікі з Рэчы Паспалітай, адмовіліся ад выкарыстання новага календара, палічыўшы яго ерассю, якая парушае каноны хрысціянскай царквы. На такіх пазіцыях стаялі і пратэстанцкія святары. Каляндарнае пытанне такім чынам станавілася прычынай канфліктаў. Каталікі, найперш шляхта, настойваючы на тым, што новы каляндар з'яўляецца агульным для ўсіх жыхароў краіны, спрабавалі гвалтам прымусіць праваслаўных і пратэстантаў змяніць парадак літургій і даты святочных набажэнстваў. Праваслаўныя і пратэстанты ў адказ пачалі са зброяй бараніць свае цэрквы і зборы. У Львове, Полацку, Вільні, Рызе каляндарная праблема вылілася ў асабліва зацятыя бойкі паміж жыхарамі.

## Сёння ў нас Хрыстос двойчы на год нараджаецца і ўваскрасае

Улады мусілі пайсці на саступкі. Цягам 1584—1586 гадоў Стэфан Баторый надаў права праваслаўным і надалей карыстацца юльянскім календаром. А пасля Брэсцкай уніі 1596-га юльянскі каляндар стаў таксама літургічным календаром уніятаў.

Выкарыстанне адначасова двух хрысціянскіх календароў стварыла на нашых землях вельмі спецыфічную карціну штодзённага жыцця. Праваслаўныя, пратэстанты і ўніяты жылі па двух календарах, пішучы ў дакументах грыгарыянскую дату, але молячыся паводле юльянскага календара. Падвоілася і колькасць святаў: нават сёння ў нас Хрыстос двойчы на год нараджаецца і ўваскрасае, двойчы нараджаецца і памірае Маці Божая; двойчы на год адзначаюцца Тройца і іншыя рухомыя і нерухомыя святы.

## Каляндарныя арэлі

А вось у Маскоўскай дзяржаве, а затым Расійскай імперыі грыгарыянскі каляндар не прынялі ўвогуле. Да канца яе існавання адзіным афіцыйным календаром там быў юльянскі. У сувязі з гэтым кожны прыход маскоўскіх, а затым расійскіх уладаў на нашую зямлю адзначаўся зменай каляндарнай сітуацыі. Першая такая змена адбылася ў час вайны 1654—1667 гадоў. Пад маскоўскай ▶

акупацыяй у справаводстве зноў пачаў ужывацца юльянскі каляндар. А ўжо трывалае вяртанне юльянскага календара да статусу афіцыйнага і дзяржаўнага адбылося праз паўтара стагоддзя, пасля падзелаў Рэчы Паспалітай. Па меры пасоўвання расійскай мяжы на захад разам з ёй пасоўваўся і юльянскі каляндар, змяняючы свой статус з календара літургіі на каляндар справаводства і свецкага жыцця. Гэты працэс завяршыўся ў 1799-м, калі спецыяльным указам Паўла І юльянскі каляндар прадпісвалася ўжываць з 1 студзеня 1800-га ў якасці дзяржаўнага на землях былой Рэчы Паспалітай.

Усё XIX стагоддзе юльянскі і грыгарыянскі календары раз-пораз мяняліся месцамі. У залежнасці ад таго, у чыіх руках была ўлада, то адзін, то другі каляндар панаваў у справаводстве. Першая такая замена адбылася ў час вайны 1812-га. Разам з войскамі Напалеона на Беларусь у якасці афіцыйнага вярнуўся грыгарыянскі каляндар. Але гэта працягнулася ўсяго некалькі месяцаў, да адступлення французаў.

Наступны раз змена календароў прыйшла ў перыяд паўстання 1830–1831 гадоў. Цэнтральныя паўстанцкія ўлады знаходзіліся ў Варшаве, дзе грыгарыянскі каляндар з'яўляўся афіцыйным календаром Царства Польскага. Таму ўсе адозвы і дэкрэты паўстанцкіх улад мелі грыгарыянскую дату. Адпаведным чынам датавалі свае дакументы і паўстанцы ў Беларусі і Літве.

Акрамя юльянскага і грыгарыянскага календароў, якія з большай ці меншай інтэнсіўнасцю канкуруюць паміж сабой апошнія амаль паўтысячагоддзя, у гісторыі Еўропы былі спробы ўвядзення замест іх альтэрнатыўных календароў.
Як правіла, гэта адбывалася ў выніку грамадскіх пераломаў, калі на хвалі рэвалюцыйнага энтузіязму новыя ўлады імкнуліся разбурыць стары свет да самых асноваў, мяняючы ў ім абсалютна ўсё, не выключаючы і сістэмы летазлічэння.
Самая вядомая спроба такога кшталту — афіцыйнае ўвядзенне французскага рэспубліканскага календара ў ходзе Вялікай Французскай рэвалюцыі. Ён быў афіцыйна ўведзены дэкрэтам Нацыянальнага канвента ад 5 кастрычніка 1793 года і мусіў сімвалізаваць разрыў з традыцыямі, дэхрысціянізацыю і «натуральную рэлігію», асацыяваную з прыродай. Пачаткам новай эры, ад якой пачынаўся адлік часу, быў абвешчаны першы дзень існавання рэспублікі — 22 верасня 1792-га. Год дзяліўся на 12 месяцаў па 30 дзён, замест тыдняў уводзіліся дэкады. Назвам месяцаў даваліся арыгінальныя назвы, сканструяваныя з французскіх, лацінскіх і грэчаскіх каранёў, кожны дзень таксама меў сваю назву, якая паходзіла ад назваў прыродных з'яваў, раслін, жывёл і г. д. Па такім календары французы жылі больш за 10 гадоў, а адменены ён быў імператарам Напалеонам I з 1 студзеня 1806 года. Пасля гэтага Францыя вярнулася да грыгарыянскага календара, хоць падчас Парыжскай камуны 1871 года была зроблена спроба аднаўлення рэспубліканскага.
Менш вядомая спроба распрацоўкі альтэрнатыўнага календара, якая мусіла непасрэдна тычыцца Беларусі, — савецкі рэвалюцыйны каляндар, які спрабавалі ўвесці ў СССР з 1 кастрычніка 1929 года. Ён быў звязаны са спробамі перавесці ўсе савецкія прадпрыемствы і ўстановы на бесперапынную вытворчасць. У каляндарным годзе прадугледжвалася 360 дзён і, адпаведна, 72 пяцідзёнкі. Тыдзень у СССР у 1929–1930 гадах складаўся з пяці дзён, пры гэтым усе супрацоўнікі былі падзеленыя на пяць груп, названых па колерах. Кожная група мела свой уласны выходны дзень у тыдні, а іншая ў той дзень працягвала працаваць (так званая «бесперапынка»). Але гэты каляндар, які дзейнічаў паралельна з грыгарыянскім, быў занадта складаны і поўны супярэчнасцяў, таму не прыжыўся. Ужо з 1 снежня 1931 года ён быў часткова адменены, а 26 чэрвеня 1940-га краіна цалкам вярнулася да традыцыйнага грыгарыянскага календара.

## Мост, цераз які ехалі два тыдні

Суіснаванне ў адной прасторы і часе двух календароў прыводзіла да разнастайных калізій і парадаксальных на першы погляд выпадкаў. Жыхары беларускіх земляў мусілі ўвесь час рабіць храналагічныя вылічэнні, трымаць у памяці падвойныя даты. Прывядзём некалькі каларытных прыкладаў.

Дзякуючы таму, што ў Царстве Польскім быў грыгарыянскі каляндар, а на беларускіх землях — юльянскі, паўстаў самы «доўгі» на свеце мост. Мяжа паміж гэтымі часткамі Расійскай імперыі праходзіла па Нёмане да Гродна, а пасля, пакідаючы ўвесь горад на расійскім баку, па невялікай рэчцы Ласасянка. Перасячэнне моста цераз гэтую рачулку «працягвалася» ў XIX стагоддзі 12 дзён, бо калі выязджалі з гродзенскай часткі, да прыкладу, 1 сакавіка, то на польскую частку прыязджалі нібыта амаль праз два тыдні — 13 сакавіка.

Увесь час існавала праблема суаднясення двух календароў пры датаванні дакументаў, лістоў, дзённікаў. Вядомы кампазітар



Гравюра англійскага мастака Уільяма Хогарта, выкананая ў 1754 ці 1755 годзе. На ёй выяўлены сход перад выбарамі ў англійскі парламент, і сярод іншага відаць лозунг **«Вярніце нам нашыя адзінаццаць дзён!»**. Вялікабрытанія перайшла на грыгарыянскі каляндар за некалькі гадоў да таго, у 1752-м, і з карціны відаць, што далёка не ўсе да гэтага ставіліся з захапленнем.

і палітычны дзеяч Міхал Клеафас Агінскі, да прыкладу, занатоўваючы падзеі расійска-французскай вайны, тое, што адбывалася ў лагеры французаў або ў Заходняй Еўропе, пазначаў грыгарыянскай датай, а калі апісваў сітуацыю на расійскім баку, то мусіў ставіць падвойную дату па двух календарах праз нахіленую рыску. Лісты ў польскія губерні ці ў Еўропу з беларускіх земляў мелі юльянскую дату, а тыя, што ішлі ў адваротным кірунку, — грыгарыянскую. Часам выходзіла, што адказ пісаўся паводле даты раней, чым сам ліст.

Блытаніна ў датах дастаткова часта сустракаецца ў следчых справах паўстанцаў як у 1830–1831 гадах, так і ў 1863–1864-х. Дата пад пратаколам допыту магла быць ранейшай, чым даты ў саміх паказаннях, бо інсургент карыстаўся грыгарыянскім календаром, а следчы — юльянскім.

**Перасячэнне моста цераз рачулку Ласасянку пад Гроднам праз каляндарную розніцу ў XIX стагоддзі «працягвалася» 12 дзён**

### Вузел рассеклі бальшавікі

Неабходнасць каляндарнай рэформы ў Расійскай імперыі пачала абмяркоўвацца ў другой палове XIX стагоддзя. Але супраць каляндарнай рэформы рашуча выступала Праваслаўная царква. І меркаванне Сінода пераважыла аргументы навукоўцаў — рэформа не адбылася.

Сітуацыя пачала мяняцца пасля пачатку Першай сусветнай вайны. Тады зноў спрацавала звыклая для нашых земляў формула: чыя ўлада — таго і час. Грыгарыянскі каляндар у якасці афіцыйнага пасоўваўся на Беларусь разам з кайзераўскімі войскамі, якія займалі ўсё новыя тэрыторыі. У 1915-м, калі фронт стабілізаваўся на лініі Дзвінск — Паставы — Баранавічы — Пінск, гэта адначасова была лінія размежавання дзвюх каляндарных традыцый. На захадзе Беларусі жылі па грыгарыянскім календары, а на ўсходзе афіцыйным заставаўся юльянскі. А потым грымнуў рэвалюцыйны 1917 год.

Каляндарная рэформа была адной з першых, якую правялі бальшавікі пасля прыходу да ўлады. Правесці яе было лёгка, бо былі выкарыстаныя напрацоўкі камісій, якія дзейнічалі яшчэ ў царскі час. Дэкрэтам ад 26 студзеня 1918-га абвяшчалася, што на ўсёй тэрыторыі Расіі з 1 лютага пачынае дзейнічаць еўрапейскі (грыгарыянскі) каляндар. Пасля 1 лютага адразу ішло 14 лютага. І гэтая рэформа аказалася канчатковай — больш спробаў вярнуцца да юльянскага календара на афіцыйным узроўні ніколі не рабілася.

Руская праваслаўная царква, аднак, на грыгарыянскі каляндар так і не перайшла. Быў нядоўгі перыяд, калі такая спроба рабілася, але ўрэшце традыцыйны каляндар у РПЦ вярнуўся і выкарыстоўваецца аж да сёння ◆

**Ганна Севярынец піша пра тое, як расійскі класік змяніў сваё жыццё — і жыццё тых, хто апынуўся «на дне».**

Калі Чэхаў — паспяховы літаратар, модны белетрыст і, акрамя таго, доктар, хворы на туберкулёз, — сабраўся ехаць на Сахалін вывучаць катаргу, ніхто нічога не разумеў. Маштаб гэтага непаразумення відаць і па сёння, калі біяграфісты раптам пачынаюць вышукваць якое-небудзь драматычнае каханне, ад якога Чэхаў бег на Сахалін, ці якую-небудзь асаблівую нуду, ад якой Чэхаў шукаў збаўлення на Сахаліне, ці якіх хаця б камерцыйных разлікаў (гэта ж можна там нагледзецца такіх авантурных сюжэтаў, што крымінальная прэса адарве з рукамі!). «Нашто ты едзеш туды, Сахалін сёння нікому нецікавы!» — ушчуваў яго выдавец Аляксей Суворын, думаючы якраз, што Чэхаў дапускае камерцыйную памылку.

Чэхаў паспрабаваў быў патлумачыць: «У мясціны, падобныя Сахаліну, усе павінны ездзіць, як туркі ў Мекку. Гэта востраў невымоўных пакутаў, на якія толькі можа быць здольны чалавек, вольны ці зняволены. Мы згнаілі ў турмах мільёны людзей, згнаілі дарэмна, без развагаў, па-варварску мы гналі людзей па холадзе ў кайданах, заражалі сіфілісам, разбэшчвалі, гадавалі злачынцаў і ўсё гэта потым звалілі на турэмных наглядчыкаў. Вінаватыя не наглядчыкі, а ўсе мы». Але калі адукаваныя людзі верылі такім тлумачэнням? Суцэльны пафас! Ды ну! Пэўна, ёсць нейкая інтрыжка, ад якой хочацца прыгожа збегчы. Ці растрата казённых грошай. Ці што яшчэ такое, вытлумачальнае.

Тады Чэхаў сапраўды змяніў тон. «Напішу пра Сахалін старонак 100–200 і гэтым аддам свой доўг медыцыне, перад якой я — свіння». О, так значна лепей! Бывае: дзівак-белетрыст едзе за тысячы вёрстаў на катаргу, каб напісаць 200 старонак і аддаць доўг медыцыне. Цяпер зразумела. Дурань, хаця і белетрыст. Яшчэ і сухотнік. Ну хто з сухотамі вандруе па Сахаліне? Дурань.

Але ж былі і тыя, хто разумеў.

21 красавіка 1890 года на Ярослаўскім вакзале ў Маскве сабраліся ўсе магчымыя Чэхавы, Ісаак Левітан, муж і жонка Дзмітрый і Соф'я Кувшыннікавы, артысты Малога тэатра — праводзілі Антона на Сахалін. Доктар Кувшыннікаў прынёс пляшку каньяку з наказам выпіць на беразе Ціхага акіяна. Маладзейшыя сябры таксама заскочылі ў вагон — праехаць з вандроўнікам хоць бы да Тройца-Сергіевай лаўры. Вагон — трэці клас, танней няма куды, куламеса, цісканіна. Ніякіх афіцыйных папер, якія дазволілі б Чэхаву вывучаць Сахалін, атрымаць не ўдалося. Хіба толькі карэспандэнцкі білет газеты «Новое время». Грошы — крэдытныя. І невядомасць — наперадзе.

### Востраў Сахалін

Уцячы з Сахаліна немагчыма: гэта востраў. Існуе, праўда, адзін варыянт: узімку вузкі і неглыбокі праліў Невяльскога, які аддзяляе Сахалін ад зямлі, замярзае, і тады на востраў бягуць ваўкі — паласавацца нябітай жывёлай, пашукаць якой здыхаты. Воўчымі сцежкамі мог прабрацца і чалавек. Але ахвотных няшмат.

Ажно да сярэдзіны XIX стагоддзя ніводная краіна не мела юрыдычных правоў на Сахалін: жылі там малыя паўночныя народы ніўхі (гілякі) і эвенкі, мелі там свае інтарэсы Расія, Кітай і Японія, раз-пораз арганізоўваліся экспедыцыі з мэтамі высветліць: ці сапраўды Сахалін востраў? У 1855 годзе паміж Расіяй і Японіяй быў заключаны трактат аб сумесным непадзельным валоданні Сахалінам. Відавочна, гэта быў юрыдычны казус. Дваццаць год яго спрабавалі вырашыць — і вырашылі. У 1875 годзе ў Санкт-Пецярбурзе было падпісана пагадненне: Расія перадавала Японіі паўночныя Курылы, Японія Расіі — Сахалін. Атрымаўшы ў поўнае і непадзельнае валоданне велізарны востраў, поўны незлічоных багаццяў, імперыя неадкладна стварыла там катаргу — бо з Сахаліна ж немагчыма ўцячы. Гэта ж якая эканомія на ахове, кратах і будынках! Гісторыя сахалінскай катаргі адлічваецца з 23 мая 1875 года: у той момант, калі туды прыехаў Чэхаў, турме на востраве споўнілася 15 гадоў.

У 1890 годзе на Сахаліне ўсё яшчэ жылі абарыгены (сёння там карэнных народаў меней за 1%), потым — пасяленцы, якіх урад перыядычна заваблівае зямлёй і рамантычнай далечынёй, і, нарэшце, вязні і высланыя, былыя і цяперашнія, а таксама іх сем'і, калі на тое была іх воля — паехаць за асуджаным на катаргу.

«Кандальныя», то-бок закутыя ў кандалы, жылі, вядома, у турме. Астатнія — як давядзецца. Нехта — альбо па ўласным выбары, альбо па рашэнні адміністрацыі — жыў у турэмным бараку. Нехта — калі дазвалялі сродкі, прысуд і тэрмін — нават на прыватнай кватэры. Галеча, ніштымніца, часам голад і эпідэміі. Мужчыны на работах, увечары п'янка. Жанчыны з 12 гадоў ужо гандлююць сабой. Зразумела, ніякай медыцынскай дапамогі, ▸

аглядаў, асветы. «Чаму вы так жудасна выглядаеце, як вы так апусціліся?» — спытаў Чэхаў у аднаго з вязняў, былога ганаровага грамадзяніна буйнога горада. «Бо маё чалавечае аблічча было б тут бессэнсоўным», — адказаў той.

### Пісьменнік і катарга

Чэхаў дабіраўся да Сахаліна 81 дзень — пераважна чыгункай і коньмі. На Сахаліне ён правёў 3 месяцы. Шлях дадому заняў 8 месяцаў — з-за халерных каранцінаў ехаць праз мацярык было немагчыма, давялося плысці морам.

За тры месяцы на востраве пісьменнік — сам адзін, па ўласнай ініцыятыве, без заробку — зрабіў поўны перапіс катаржнага насельніцтва. Сем з паловай тысяч індывідуальных картак, у якія заносіліся асабістыя звесткі асуджанага, узровень ягонай адукацыі і месца, адкуль ён прыехаў, сродкі, на якія жыве. Цяжкасці пачыналіся ўжо з імёнаў: шмат хто з катаржан трапляў на Сахалін па чужых паперах, пад чужымі імёнамі, змянялі іх, называліся як хацелі. «Што тычыцца прозвішчаў, па нейкай дзіўнай выпадковасці на Сахаліне зашмат Багданавых і Бяспалавых. Самае распаўсюджанае імя — Іван, прозвішча — Няпомняшчы, — занатуе Чэхаў. — Бывае, што праваслаўны мужычок на пытанне пра імя адказвае: “Карл”. Гэта валацуга, які па дарозе памяняўся іменем з якім-небудзь немцам». Пачынаеш высвятляць імя — чалавек раптоўна раскрываецца. Плача, сумуе, ные душой. Гэта ж, мабыць, нехта шукае яго пад сапраўдным іменем. Мамка ці жонка раптам. Сем тысяч картак, сем тысяч імёнаў, сем тысяч гісторый.

«З прычыны велічэзнага попыту заняткам прастытуцыяй не перашкаджаюць ні старасць, ні пачварнасць, ні нават сіфіліс ў трацічнай форме. Не перашкаджае і ранняя маладосць. Мне даводзілася сустракаць на вуліцы ў Аляксандраўску дзяўчыну 16-ці гадоў, якая, расказваюць, стала займацца прастытуцыяй з 9 гадоў. У дзяўчыны гэтай ёсць маці, але сямейная абстаноўка на Сахаліне далёка не заўсёды ратуе дзяўчат ад гібелі. Распавядаюць пра цыгана, які прадае сваіх дачок і пры гэтым сам таргуецца. Адна жанчына вольнага стану ў Аляксандраўскай слабодцы трымае “ўстанову”, у якой аперуюць толькі адныя яе родныя дочкі».

**Антон Чэхаў. Востраў Сахалін**



SHUTTERSTOCK.COM.BY ARTNAT

**За тры месяцы на востраве пісьменнік па ўласнай ініцыятыве зрабіў поўны перапіс катаржнага насельніцтва**

Чэхаў падымаўся а пятай раніцы, клаўся апоўначы: «На Сахаліне няма ніводнага катаржнага, з якім я не быў бы знаёмы асабіста». Некаторыя карткі — некалькі соцень — часткова альбо поўнасцю запоўненыя двума памагатымі, якія раз-пораз бралі ўдзел у перапісе: Данілам Булгарэвічам і іераманахам Іракліем.

Даніла Булгарэвіч, дарэчы, беларус, з перасяленцаў. Сын крычаўскага святара Аляксандра Булгарэвіча. На Сахаліне ён служыў пры канцылярыі, нейкі час загадваў школамі. На ягонай кватэры спыніўся Чэхаў: «Я жыву ў аднаго маладога чыноўніка, дужа добрага чалавека», — напіша ён потым. Даніла Булгарэвіч часта суправаджаў Чэхава ў паездках па востраве, потым перасылаў яму шматлікія сведчанні і дакументы, якія маглі спатрэбіцца пры працы над кнігай пра Сахалін.

Але і акрамя перапісу ў Чэхава на востраве было шмат турботаў.

Усе тры месяцы ён працаваў як доктар: аглядаў, кансультаваў, лячыў, і не толькі ў тых дамах, па якіх хадзіў з карткамі, — турэмнае кіраўніцтва ў цяжкіх выпадках пасылала па яго. І гэта калі не ўлічваць бясконцую медыцынскую асвету, бясконцыя гутаркі пра гігіену, якія даводзілася весці не толькі з гаспадарамі кватэр і камер, але



**Найстарэйшы маяк вострава знаходзіцца ў Аляксандраўску-Сахалінскім.** Яго паставілі яшчэ ў 1864 годзе. Маяк бачылі і Чэхаў, і Сонька Залатая Ручка, якая адбывала тут пакаранне і пахаваная на мясцовых могілках. Зняволеныя ўручную прасеклі да маяка 87-метровы тунэль у скалах, названы ў гонар Аляксандра II. Тунэль атрымаўся крывы, бо сярод катаржан не было неабходных спецыялістаў. Кіраўніцтва Турэмнага ўпраўлення загадала пакараць вінаватых у крывізне 200 розгамі. Начальства катаргі пакарала 200 катаржан.

і з кіраўніцтвам вострава. Толькі пытанне прыбіральняў у турмах і на ўласных падворках каштавала Чэхаву сапсаваных нерваў, а колькі ж іх было, такіх пытанняў! І адсутнасць вентыляцыі ў камерах, і нішчымная ежа, але і гэта не самае страшнае, бо яшчэ — і дзіцячая прастытуцыя, і жудасны стан жаночай медыцыны... А яшчэ ўнутраны свет сахалінца, што жыве без надзеі, без веры, без любові, у бясконцым пачуцці нянавісці і несправядлівасці...

Чэхаў з'язджаў з Сахаліна, перакананы ў тым, што сама атмасфера катаргі, грамадскага забыцця, распусты і несправядлівасці, цынізму і нянавісці разбэшчвае чалавека, нішчыць усё добрае ў ім, забівае надзею на будучае жыццё. І няма паратунку нікому: ні злачынцу, ні бязвіннаму асуджанаму, ні дзіцяці, народжанаму ў гэтай атруце.

### Кніга

Пісаць пра Сахалін было цяжка. «Я ніяк не мог справіцца з матэрыялам, пакуль не вырашыў: нельга пісаць так, нібыта я хачу некага нечаму навучыць», — дзяліўся з сябрамі Чэхаў. І сапраўды: ніякага пафасу, ніякіх дэкларацый, прамоў і лозунгаў у кнізе няма. Гэта дарожныя нататкі, у якіх адлюстраваны дзень перапісчыка — не больш за тое. Толькі факты, толькі тое, што бачыў на свае вочы. У гэтым — моц.

Тым больш, што тут не толькі пра катаргу і катаржан. Шмат краязнаўчай і эканамічнай інфармацыі, пейзажных замалёвак, падрабязна пракладзеных маршрутаў. У трапных, важкіх дэталях дадзены партрэты сахалінскага чынавенства і кіраўніцтва — без згушчаных фарбаў, але і без прыўкрасаў, па-чэхаўску.

Цікава, што крымінальныя гісторыі, якія б гарантавалі кнізе выключны камерцыйны поспех, Чэхаў наўмысна не ўключаў. Прыкладам, яму давялося пабачыць на катарзе закаваную ў кайданы Соньку Залатую Ручку — яе толькі-толькі злавілі пасля спробы ўцёкаў. Колькі спакусы было ў тым, каб змясціць ▶

## Дапамагаў Чэхаву беларус Даніла Булгарэвіч



Сахалін у часы Чэхава.

WIKIMEDIA COMMONS, ФОТА ІНАКЕНЦІЯ ПАЎЛОЎСКАГА

у кнізе маштабную гутарку з легендарнай зладзейкай! Але не гэта было мэтай Чэхава — таму Сонька там мільгае ў адным абзацы. Няма ў кнізе і партрэтаў іншых легендарных злачынцаў, якіх на Сахаліне хапала.

Але і пазбаўлены «смажаных» гісторый і публіцыстычнай эмацыйнасці «Востраў Сахалін», які Чэхаў пісаў чатыры гады, выбухнуў на ўсю краіну. Адразу пасля публікацыі («Востраў» спачатку выходзіў часткамі ў часопісе «Русская мысль», у 1894-м — асобнае выданне) расійскі ўрад накіраваў на востраў спецыяльныя праверкі Міністэрства юстыцыі і Галоўнага ўпраўлення турмаў. У прэсе і афіцыйных абмеркаваннях упершыню загучалі словы «правы асуджаных». На Сахаліне пачалі адкрывацца школы і фельчарскія пункты, пры самым непасрэдным удзеле Чэхава былі адкрытыя тры прытулкі для сахалінскіх сірот і дзяцей катаржных. У турмах і казармах з'явіліся прыбіральні. Пачалася і барацьба з самаўладдзем турэмных наглядчыкаў — прынамсі, яна актыўна дэкларавалася.

«Я задаволены, што ў маёй белетрыстычнай апранальні будзе вісець і арыштанцкі халат, —




**Сонька Залатая Ручка (Соф'я Блюўштэйн, у дзявоцтве Саламаніяк) была зоркай расійскага крымінальнага свету.** Народжаная ў 1846 годзе ў яўрэйскай сям'і пад Варшавай, яна займалася злачыннай дзейнасцю па ўсёй імперыі і нават у іншых краінах Еўропы. Арганізоўвала буйныя крадзяжы і аферы, якія набывалі шырокі розгалас дзякуючы авантурнасці, схільнасці зладзейкі да містыфікацый і зменаў аблічча. Мела адукацыю, ведала некалькі замежных моў. На Сахалін была саслана ў 1888 годзе і заставалася тут да смерці ў 1902-м. Перад гэтым некалькі разоў паспяхова збягала з турмаў і высылак.
Чэхаў у сваім рамане прысвяціў ёй усяго некалькі радкоў: «Гэта маленькая, худзенькая, ужо з сівізной жанчына з памятым, старэчым тварам. На руках у яе кайданкі: на нарах адно толькі футэрка з шэрай аўчыны, якое служыць ёй і цёплай вопраткай, і пасцеллю. Яна ходзіць па сваёй камеры з кута ў кут, і падаецца, што яна ўвесь час нюхае паветра, як мыш у мышалоўцы, і выраз твару ў яе мышыны. Гледзячы на яе, не верыцца, што яшчэ нядаўна яна была прыгожая да такой ступені, што ачароўвала сваіх турэмшчыкаў».

«Крыху пазней я прымаю амбулаторных хворых. Прыёмная побач з аптэкай, новая; пахне свежым дрэвам і лакам. Стол, за якім сядзіць лекар, абгароджаны драўлянымі кратамі, як у банкірскай канторы, таму падчас прыёмкі хворы не падыходзіць блізка і лекар збольшага абследуе яго на адлегласці. За сталом побач з доктарам сядзіць класны фельчар, моўчкі гуляе аловачкам, і здаецца, быццам гэта асістэнт на экзамене. Тут жа, у прыёмнай, ля дзвярэй стаіць наглядчык з рэвальверам, ходзяць нейкія мужыкі, бабы. Гэтая дзіўная абстаноўка бянтэжыць хворых, і, я думаю, ніводны з сіфілітыкаў і ніводная жанчына не наважыцца гаварыць пра сваю хваробу ў прысутнасці гэтага наглядчыка з рэвальверам і мужыкоў. Хворых няшмат. Усё гэта ці *febris sachaliniensis*, ці экзэмы, ці "сэрца баліць", ці сімулянты; хворыя-катаржнікі настойліва просяць, каб іх вызвалілі ад працы. Прыводзяць хлопчыка з нарывам на шыі. Трэба разрэзаць. Я прашу скальпель. Фельчар і два мужыкі зрываюцца з месца і збягаюць кудысьці, трохі пазней вяртаюцца і падаюць мне скальпель. Інструмент аказваецца тупым, але мне кажуць, што гэтага не можа быць, бо слесар нядаўна тачыў яго. Зноў фельчар і мужыкі зрываюцца з месца і пасля дзвюх-трох хвілін чакання прыносяць яшчэ адзін скальпель. Пачынаю рэзаць — і гэты таксама аказваецца тупым. Прашу карболавай кіслаты ў растворы — мне даюць, але не хутка; відаць, што гэтая вадкасць выкарыстоўваецца тут не часта. Ні таза, ні шарыкаў ваты, ні зондаў, ні прыстойных нажніц, ні нават вады ў дастатковай колькасці».

**Антон Чэхаў. Востраў Сахалін**

пісаў Чэхаў і дадаваў: — Цяпер у мяне ўсё прасахалінена». І сапраўды, усё цяпер у яго па-іншаму: ніякіх табе «Тоўсты і тонкі» альбо «Хамелеон», усё больш «Палата нумар шэсць». Гумар і добразычлівая ўсмешка першых апавяданняў «моднага белетрыста» мяняюцца на скепсіс і сарказм Чэхава «паслясахалінскага».

«Як ядуць арыштанты? Сталовых няма. Апоўдні да барака або прыбудовы, у якой змяшчаецца кухня, цягнуцца арыштанты гужам, як да чыгуначнай касы. У кожнага ў руках які-небудзь посуд. Да гэтага часу суп звычайна бывае ўжо гатовы і, развараны, “прэе” ў закрытых катлах. У кашавара да доўгай палкі прыладжаны “бачок”, якім ён чэрпае з катла і кожнаму налівае порцыю, прычым ён можа зачэрпнуць бачком адразу дзве порцыі мяса ці ніводнага кавалачка — як захочацца. Калі нарэшце падыходзяць самыя заднія, то суп ужо не суп, а густая, ледзь цёплая маса на дне катла, якую даводзіцца разводзіць вадой. Атрымаўшы свае порцыі, арыштанты ідуць прэч; адныя ядуць на хаду, іншыя — седзячы на зямлі, трэція ў сябе на нарах. Нагляду за тым, каб усе абавязкова елі, не прадавалі і не мянялі сваіх порцый, няма. Ніхто не пытаецца, ці ўсе абедалі, ці не заснуў хто; і калі тым, хто распараджаецца на кухні, сказаць, што на катарзе, у асяроддзі прыгнечаных і маральна скурожаных людзей, нямала такіх, за якімі трэба сачыць, каб яны елі, і нават карміць іх сілком, то гэтая заўвага выкліча толькі няўцямны выраз на тварах і адказ: “Не магу знаць, ваша высокаблагароддзе!”»

**Антон Чэхаў. Востраў Сахалін**

## «Цяпер у мяне ўсё прасахалінена»

### Сорак гадоў пасля

Усяго толькі праз сорак гадоў, ужо ў часы СССР, паездкі пісьменнікаў у турмы і лагеры стануць своеасаблівай традыцыяй. Працэс будзе пастаўлены на канвеер: збіраюцца дэлегацыі, замаўляецца транспарт, лагернае кіраўніцтва рыхтуе экскурсіі, забаўкі і банкет. Атрымае савецкая літаратура і свой «Востраў Сахалін» — кнігу «Беламорска-Балтыйскі канал імя Сталіна: гісторыя будаўніцтва, 1931–1934 гг.». У падмурак гэтай кнігі было пакладзена ўражанне Максіма Горкага, якое ён атрымаў, наведаўшы лагер у Салаўках: «Нечуваны, фантастычна паспяховы вопыт перавыхавання небяспечных для грамадства людзей ва ўмовах вольнай грамадска карыснай працы».



ФОТА АЛЯКСЕЯ КУЗНЯЦОВА, RUS-BIOGRAPHY.RU

**Так званы «тачачнік» — вязень-катаржнік, за нейкую правіну прыкаваны да сваёй працоўнай тачкі.** Праз гэта ён мусіў цягаць з сабой тачку не толькі падчас працы, але і ўсе 24 гадзіны сутак. Гэта было вельмі цяжка, бо тачка важыла 5 пудоў (каля 80 кг). Гэты здымак зроблены на Нерчынскай катарзе ў Забайкаллі, але на Сахаліне гэты від пакарання таксама шырока практыкаваўся.

Міжволі параўноўваючы тое, што ўбачыў на Сахаліне Чэхаў, і тое, што павінны былі ўбачыць на Салаўках і Беламорканале савецкія пісьменнікі, немагчыма не думаць, што чэхаўскі Сахалін выглядае курортам у параўнанні з ГУЛАГам. Прыкладам, у «Востраве Сахаліне» апісаныя карцёжнікі, што прагульваюць у карты свае пайкі і кладуцца спаць галоднымі. У ГУЛАГу карцёжнікі ставілі на кон чужыя жыцці — шмат хто са «зніклых без вестак» быў проста «прагуляны ў карты» і забіты ўначы згодна з правіламі гульні.

Але ніхто нічога не ўбачыў. Ніводнага Антона Чэхава ў гэтых дэлегацыях не было.

Бо ён, калі б жыў, даўно на той катарзе ўжо сядзеў бы сам. ◆

# Одры Хэпбёрн

## Зоркі часам не бачаць уласнага святла


WIKIMEDIA COMMONS

**Яна мела ўсё, а марыла пра самае (не?)простае: шчаслівую сям'ю і шмат дзяцей. Пра жыццё і каханні славутай актрысы Одры Хэпбёрн піша Паўліна Скурко.**

Пасля таго, як Одры Хэпбёрн быў пастаўлены смяротны дыягназ — рак страўніка на чацвёртай стадыі, — яна пражыла яшчэ тры месяцы. Сынам і мужу давала парады па садзе: як даглядаць якія дрэвы, кветкі. Апошнія Каляды назвала самымі шчаслівымі ў жыцці: на іх сабраліся сям'я і мноства сяброў, усім Одры падрыхтавала падарункі. Памерла 20 студзеня 1993 года, праляжаўшы два дні без памяці. Актрысе было 63 гады.

### Добрая фея для дзяцей Афрыкі

Усё жыццё яна шукала каханне і сямейнае шчасце — і знайшла іх толькі напрыканцы. «Старасць мяне не хвалюе, я баюся адзіноты», — казала Одры. У 50 яна пазнаёмілася з акцёрам Робертам Волдэрсам — галандцам, як і яна, на сем гадоў маладзейшым. Ён нядаўна пахаваў жонку, актрысу Мерль Аберон, ёй было 68.

Сяброўства Одры і Робі пачалося з галандскай мовы. «Мяне нібы маланкай ударыла, калі яна прамовіла пару слоў па-галандску. Але я думаў, што гэты раман немагчымы», — успамінаў акцёр. Наступныя гады прайшлі ў Швейцарыі ўшчасці і супакоі: прагулкі, праца ў садзе, чытанне, тэлевізар увечары, ранні сон... Абое назапасілі дастаткова, каб дазволіць сабе такое.

Гэтаксама ў апошнія пяць гадоў жыцця Одры знайшла працу сваёй мары: у місіі ЮНІСЕФ па дапамозе дзецям падчас гуманітарных катастроф. «Гэтай працы я чакала 45 гадоў — і нарэшце атрымала яе. Калі я бачыла рэпартажы з бяднейшых краін, адчувала бяссілле. І вось мне выпала магчымасць зрабіць хоць нешта!»

У канцы вайны яе саму ад галоднай смерці ўратавалі амерыканцы — яны скідвалі з самалётаў прадукты ў блакаваную нацыстамі частку Нідэрландаў. Цяпер яна была рада вярнуць доўг. Таксама Одры на ўласныя вочы бачыла Халакост. «Сем'і з груднымі дзецьмі, малых дзетак грузілі ў таварнякі — у скрыні драўляныя, па сутнасці. Яны вызіралі з тых скрынь на нас. Я ніколі не забуду таго жаху, гэтыя пачуцці застануцца са мной назаўжды. Я была там, і ўсё адбывалася на маіх вачах». Яна не магла дапамагчы тым дзеткам, і цяпер аддавала на гэта ўсе сілы, выкарыстоўваючы ўвесь свой уплыў. Цынікам, якія казалі, што міжнародная дапамога толькі падаўжае пакуты бедных дзяцей, Одры адказвала жорстка: ну дык калі наступны раз ваш унук зламае нагу або захварэе, вы яго не вязіце ў бальніцу, не падаўжайце яго пакут.

Высілкамі Хэпбёрн ЮНІСЕФ стаў атрымліваць у два разы больш сродкаў ад дабрачынцаў. Страсць Хэпбёрн была непаказной. Яна ездзіла ў дзясяткі краін штогод. Робі, грамадзянскі муж, ездзіў па свеце разам з ёй.

**«Людзі казалі, што калі больш спіш, менш хочацца есці** Я вырашыла праспаць Каляды[1944 года], але для гэтага трэба было падняцца ў свой пакой. Я паспрабавала, але не змагла. Ногі ацяклі… І тут у дзверы пастукалі. Чалавек з Супраціву прынёс нам трохі кансерваў. Пазней мы даведаліся, што скрынкі з ежай размеркавалі ў кожную сям'ю, дзе загінулі закладнікі» (нацысты расстралялі дзядзьку і старэйшага брата Одры). Елі цыбуліны цюльпанаў, елі траву — мала хто ў нас ведае пра драму голаду ў Нідэрландах зімой 1945-га.

**«Выкідышы былі самай балючай старонкай майго жыцця. Гэта было горш, чым развод бацькоў»**



WIKIMEDIA COMMONS

**«Рымскія канікулы»: так прыйшла слава**

«Рымскія канікулы» (1953) былі яе першым фільмам. Рэжысёр пабачыў на вокладцы часопіса дзяўчыну з вялізнымі, як у аленяняці, вачыма. У Вялікабрытаніі яна была ўжо зоркай мюзікла «Джыджы» (а трапіла туды выпадкова— французская пісьменніца Калет, па творах якой гэты спектакль паставілі, выпадкова пабачыла яе ля гатэля ў Манака і была зачараваная: «Вось мой персанаж»). Рэжысёр са Штатаў замовіў пробы брытанскаму аператару, але папрасіў не выключаць камеру, калі ўсё скончыцца. Нязмушаныя і мілыя паводзіны Одры, якая, адыграўшы пробу, і не здагадвалася, што камера працягвае здымаць, скарылі ўсіх. Здымацца было весела і цікава. Рэжысёр, аператар, акцёры — усім было добра разам. Самай цяжкай была апошняя сцэна развітання ў машыне. Одры ніяк не магла заплакаць. Усё было ненатуральна. Тут рэжысёр закрычаў: «Чорт цябе бяры, ты дагэтуль не ўмееш іграць!» «У мяне пырснулі слёзы. Ён тут жа зняў гэта, абняў мяне і сышоў».

### «Нарадзілася з жаданнем любові»

У асабістым жыцці Хэпбёрн спачатку рабіла памылку за памылкай.

Першы раз Одры выйшла замуж за Мэла Ферэра. Яны сыгралі разам і некалькі роляў. Найбольш вядомы, напэўна, дуэт Наташы Растовай і Андрэя Балконскага. Зрэшты, сучаснікі раскрытыкавалі абаіх: яе за павярхоўнасць, яго — за сухасць. Ферэр падаваўся Одры вельмі разумным, начытаным. Але ён быў на 12 гадоў старэйшы, меў за плячыма тры шлюбы. ▶




**Одры з першым мужам** Мэлам Ферэрам.

## Мовы

«У мяне няма роднай мовы, таму крытыкі вінавацяць мяне ў дзіўным маўленні». Яна нарадзілася ў Бельгіі, у французскамоўным Брусэлі. Тата англічанін, мама галандка, дома гучалі абедзве мовы. Пачатковую школу Одры скончыла ў Англіі, з пачаткам вайны ў 1939-м годзе вярнулася да маці ў Нідэрланды і з 10 да 18 гадоў дзеля ўласнай бяспекі гаварыла толькі па-галандску. У 50-я Одры цудоўна вывучыла італьянскую, затым сама авалодала іспанскай, але… «Няма мовы, на якую я магла б свабодна перайсці, адчуўшы стому, таму што мне так і не ўдалося прывыкнуць ні да адной з іх».

Одры вагалася, сумнявалася. Пачала стасункі з Мэлам, і тут закахалася ў свайго партнёра па фільме «Сабрына», прыгажунчыка Уільяма Холдэна. Некалькі месяцаў страсці, яго абяцанне развесціся і ажаніцца з Одры, яе інтымная размова пра мару — мець сям'ю і многа дзяцей — і страшная праўда. Аказалася, Холдэн, які меў з жонкай дамову пра свабодны шлюб, зрабіў вазэктамію, каб уберагчыся ад пазашлюбных дзяцей. Для Одры гэта стала ўдарам. Яна вельмі хацела дзяцей. «Я нарадзілася з неверагодным жаданнем любові і страснай патрэбай дарыць яе, — казала яна не раз. — Калі я была маленькай, дык пужала маці, спрабуючы скрасці немаўлят з калясак на вуліцах і рынках. Адзінае, пра што я марыла, — гэта мець уласных дзяцей».

Раман з Холдэнам рассыпаўся.

Мэл Ферэр тым часам працягваў заляцацца. І яна пагадзілася. Калі жаніліся, ёй было 25.

Пара пражыла 14 гадоў.

Быў выкідыш, мёртванароджанае дзіця, доўгачаканы сынок Шон і потым зноў выкідыш. Шлюб не вытрымаў папулярнасці Одры. У акцёрстве яна была куды больш запатрабаваная і, відаць, таленавіцейшая за мужа. Той камплексаваў. Да таго ж не разумеў яе жадання прысвяціць усю сябе сям'і. Калі хацела адпачыць, падбадзёрваў здымацца зноў і зноў.

Поўнае ахаладжэнне адносін, татальнае неразуменне, іншыя жанчыны (ды што хаваць — і мужчыны) ды выкідыш разбілі гэту сям'ю. Рымскія сябры ратавалі Одры ад дэпрэсіі і пазнаёмілі з модным італьянскім псіхіятрам Андрэа Доці. Ён стаў другім мужам актрысы і бацькам




**З трэцім мужам Робертам Уолдэрсам (справа)** і прэзідэнтам ЗША Рональдам Рэйганам.

## Стыль

Натуральнасць і сціплая элегантнасць. Яна добра разумела, што ёй пасуе, і ніколі не пагаджалася на касцюмы, якія не падабаліся. Гэта, бадай, адзінае, у чым магла не паслухацца рэжысёра. Яна таксама ніколі не пагаджалася на ўкладкі ў бюстгальтар і карэкціроўку фігуры (а тады ў модзе былі пышныя формы). Яе найлепшым сябрам стаў мадэльер Юбер Жыванshы. У яго яна купляла касцюмы для большасці фільмаў. Разам яны стварылі стыль простай элегантнасці. Другі раз Одры выходзіла замуж у простай кароткай сукенцы з закрытай шыяй і ў белай хустачцы. Хустка запусціла трэнд.


STANDAARD.BE

**Одры сем гадоў.** 1936 год.


PINTEREST.COM

**Одры з мамай** пасля вайны.

яе малодшага сына Лукі. Страсны італьянец ганарыўся статуснай жонкай і даваў многа каментароў прэсе. Для жонкі гэта стала першым званочкам, пра такое яны не дамаўляліся. Потым яна асела ў сямейным гняздзе, гадуючы дваіх сыноў, а ён заводзіў у Рыме новыя і новыя раманы. Пра іх пісалі ў газетах, публікавалі фота яго каханак. Зноў Одры выбрала не таго чалавека для сваёй мары пра шчаслівую сям'ю.

## Да канца жыцця не верыла, што каханне можа быць доўгім

Чаму ж гэтай чароўнай, сімпатычнай ды разумнай жанчыне так не шанцавала ў адносінах? Адказы трэба шукаць не толькі ў норавах Галівуда, але яшчэ глыбей.

Маці, галандская баранэса, любіла Одры, але схаванай любоўю. А знешне была з дзяўчынкай сухой і суровай. Гэтая халаднасць заставалася між імі заўжды. Пасля першага поспеху на сцэне мама абняла яе са словамі: «Ты грала вельмі добра, дарагая, улічваючы тое, што ў цябе няма ніякага таленту». Праяўляць пачуцці ў гэтай высакароднай сям'і было не прынята. Сябры і мужы Одры ўспаміналі, з якой любоўю і цеплынёй ужо старая мама казала пра дачку — і пры гэтым не магла сказаць тое дачцэ наўпрост! «Яна думала, што я нейкім чынам перадам яе пачуцці Одры», — згадваў трэці муж.

Мама вучыла Одры: «Ніколі не спазняйся! Спачатку думай пра іншых! Ніколі не гавары пра сябе, твае думкі нікому не цікавыя. Трэба гаварыць пра іншых! Будзь сціплай, не выстаўляй свае пачуцці...» Але яна не навучыла дзяўчынку стаяць за сябе ў адносінах, патрабаваць для сябе лепшага. У выніку Одры раствaралася ў каханні, плакала ў адказ на здрады і неразуменне і губляла, губляла сілы...

Бацька Одры стаў другім маміным мужам (ад першага шлюбу ў маці было двое сыноў), яна, Эла, таксама была для Джозэфа другой жонкай. Пазнаёміліся ў Інданезіі. Нібыта банкір, а насамрэч авантурыст, які жыў за жончыны грошы, Джозэф ніяк не мог знайсці годную працу. Вінаваціў у гэтым камуністаў. Калі пара вярнулася ў Еўропу, цесць знайшоў Джозэфу работу ў Бельгіі, у брытанскай страхавой кампаніі. Тут бацька Одры ▸

### Moon River

«Месяцовую раку» (Moon River) з фільма «Сняданак у Тыфані» пасля Одры выконвалі пару дзясяткаў спевакоў, у тым ліку Фрэнк Сінатра, Элтан Джон… Але кранальнае выкананне Хэпбёрн кампазітар Генры Манчыні лічыў найлепшым. «Сняданак у Тыфані» паводле твора Трумэна Капотэ стаў для Одры першым пасля нараджэння старэйшага сына. І адразу іміджавая рызыка — яна сыграла прастытутку. Ды парадаксальна: менавіта пасля гэтай ролі яна стала сусветнай іконай стылю. Капотэ быў незадаволены: Галівуд ператварыў яго трагікамічную гісторыю пра самотныя душы ў сентыментальную валянцінка Нью-Ёрка. Ён прагнуў, каб галоўную ролю граў нехта больш характарны, чуллівы і распусны, напрыклад Мэрылін Манро.


ESTET-PORTAL.COM

**Знакамітую чорную сукенку для «Сняданку ў Тыфані»** стварыў французскі мадэльер Юбэр Жываншы. У яго яна купляла касцюмы для фільмаў. Гэты стыль часам называюць «стылем Хэпбёрн»: простасць і сціплая элегантнасць.



## Радзіма

Хоць нарадзілася ў Бельгіі, дзяцінства правяла ў Англіі і Галандыі, а здымалася ў ЗША, Францыі і Італіі, сваёй радзімай Одры лічыла Швейцарыю. Толькі тут, гледзячы на горы і ўдыхаючы чыстае горнае паветра, яна па-сапраўднаму адпачывала. У пасёлку Таляшэназ на беразе Жэнеўскага возера яна купіла дом, побач з якім пасадзіла сад і агарод. Сюды прыязджала ў час цяжарнасці і дэпрэсій, сюды прыехала паміраць, тут і пахаваная.

WIKIMEDIA COMMONS

стаў прападаць на фашысцкіх мітынгах, Эла і Джозэф збіралі грошы для Брытанскага саюза фашыстаў, а ў маі 1935-га нават вячэралі з Гітлерам...

Бацька сышоў з сям'і, калі Одры было 6. Бацькоўскай любові яна шукала пастаянна. Самога бацьку яна адшукае толькі праз доўгія гады — ён жыў у Дубліне. Той сустрэў дачку досыць халодна. Потым яны бачыліся толькі раз, але Одры пастаянна пісала тату і яго новай жонцы лісты і дасылала грошы.

Карацей, перад вачыма ў Одры Хэпбёрн быў не найлепшы прыклад сямейнага жыцця. Сын успамінаў, што Одры да канца жыцця не верыла, што каханне можа быць доўгім: «Закахаўшыся і будучы замужам, я жыла ў пастаянным страху, што мяне пакінуць», «Я ніколі па-сапраўднаму не верыла ў каханне і заўжды была да слёз удзячная за яго».

## Ежа

Паста з вяршковым соусам, біфштэксы, яйкі пашот са смажанай ялавічынай ды бельгійскім півам. Перад вячэрай магла выпіць віскі. Кожны дзень ела шакалад. Усё жыццё актрыса любіла простую ежу.

## Моцная, але няўпэўненая

Відаць, суровае дзяцінства так паўплывала на жанчыну: пры ўсёй лёгкасці натуры і прыязным характары Одры не адкрывалася людзям да канца.

«Пакінуўшы нас, бацька пазбавіў нас упэўненасці — і, магчыма, на ўсё жыццё».

Пасля яе смерці сын казаў: «Яна была вельмі няўпэўненым у сабе чалавекам, і гэта няўпэўненасць прымушала ўсіх адразу ж закохвацца ў яе. Яна была зоркай, што не бачыць уласнага святла».

Але менавіта няўпэўненасць і сямейныя праблемы зрабілі Одры той, кім яна стала — акцёркай.

З дзяцінства дзяўчынка марыла стаць балерынай, і ў яе някепска выходзіла. У гэтых занятках яе цалкам падтрымлівала маці. Па вайне баранэса працавала пасудамыйкай і прыбіральшчыцай, потым фларысткай, экскурсаводкай для багатых турыстаў, рабіла людзям рамонты — усё, каб аплачваць дачцэ ўрокі. Але калі 19-гадовая Одры прыехала займацца ў Лондан, праслаўленая Мары Рамберт сказала ёй шчыра: прымай яна ўжо не стане, занадта позна, дый многа часу сыдзе на аднаўленне аслабелых за вайну мышцаў. Одры свяціў кардэбалет. Але яна марыла пра большае. І тут здарыліся «Рымскія канікулы».

Ужо ў першым фільме напоўніцу праявіліся чары Одры Хэпбёрн. У яе ўсмешцы была не толькі дабрыня і кранальная непасрэднасць. Гэта была таксама яе абарона ад усяго, што магло пакрыўдзіць і параніць. Яе спосаб камунікацыі са светам, яе спосаб сустракаць цяжкасці. Але і зноў — не толькі гэта. У яе ўсмешцы людзі адчулі таксама і вялікую ўдзячнасць свету. Усё жыццё яна прымала як вялікі і нечаканы падарунак. Мусіць, таму гэта ўсмешка натхняе і сёння. ◆

# «Расстралялі іх. Усё роўна толку не будзе з гэтых малых»

**У часе вайны нямецкія спецслужбы ў Беларусі завербавалі больш за тысячу дзяцей-дыверсантаў**

**Калі ідзе гаворка пра выкарыстанне дзяцей у разведвальна-дыверсійнай вайне супраць Чырвонай арміі і савецкіх партызан у гады Другой сусветнай вайны, то часцей за ўсё ваенныя гісторыкі расказваюць пра дзіцячую школу ў мястэчку Гемфурт у Заходняй Германіі, арганізаваную абверам у ліпені 1943 года. Але ў Беларусі былі і свае ўласныя Гемфурты, дзе праходзілі шпіёнскую падрыхтоўку падлеткі абодвух палоў. Піша кандыдат гістарычных навук Святаслаў Кулінок.**

## Пачалі рыхтаваць адразу пасля акупацыі

У фондах Нацыянальнага архіва Беларусі захоўваецца праект дакладной запіскі першага сакратара ЦК КП(б)Б Панцеляймона Панамарэнкі на імя Сталіна, датаваны 18 жніўня 1941 года. У запісцы, акрамя пытанняў, звязаных з эвакуацыяй, Панамарэнка адзначае, што ў вёсцы Крэмнае пад Туравам немцы «арганізавалі трохдзённыя курсы для падлеткаў 13–14 гадоў з дзяцей рэпрэсаваных і іншых контррэвалюцыйных элементаў і рыхтуюць з іх тэрарыстаў для камандзіраў РККА [Рабоча-сялянскай Чырвонай арміі]. Тых, хто прайшоў курсы, узбройваюць наганамі і закідаюць у наш тыл. Гэты ж кантынгент выкарыстоўваецца ў якасці разведчыкаў». З вялікай доляй верагоднасці можна казаць пра тое, што гэта быў першы навучальны цэнтр па падрыхтоўцы немцамі дзяцей-дыверсантаў на тэрыторыі СССР.

## Чаму дзеці?

Чаму нацысты выкарыстоўвалі непаўналетніх дзяцей? Прычыны празаічныя.

Нямецкія спецслужбы былі нацэленыя на дасягненне выніку любымі сродкамі. Ніякіх сумленных правіл, ці, як цяпер кажуць, *fair play*, для іх не існавала.

Мужчыны з акупаваных тэрыторый або пайшлі ў армію, або хаваліся. А дзеці з жанчынамі пазаставаліся. Хто ж жанчын і дзяцей будзе чапаць? Так думалі людзі напачатку. У Мінску, напрыклад, дзеці ва ўзросце да 18 гадоў складалі ў часы акупацыі 44% ад агульнай колькасці насельніцтва.

Для агента-падлетка лёгка было прыдумаць легенду. Дзіця выклікае шкадаванне, асабліва калі яно сірата. Агенты траплялі ў партызанскія злучэнні пад выглядам тых, хто шукае ратавання ад адпраўкі ў Германію, бежанцаў з прымусовых работ, пацярпелых ад карных аперацый. Самай распаўсюджанай легендай для агента быў расказ пра тое, што карнікі расстралялі ягоных бацькоў і падлетак прыйшоў у партызанскі атрад, каб за іх адпомсціць.

## Як вербавалі

Дзеці наіўныя і ўражлівыя. Важную ролю адыгрываў і псіхалагічны фактар: падлетка цягне на прыгоды, вандроўкі, яму хочацца быць падобным да вайскоўцаў, а гэта значыць — мець зброю... Ужываліся і грубыя спосабы вярбоўкі: запалохванне, сямейнае закладніцтва, подкуп, пагроза знішчэння членаў сям'і.

І гэта давала вынік. З другой паловы 1942 года ў партызанскіх дакументах пачынае сістэматычна з'яўляцца інфармацыя пра выкарыстанне падлеткаў у якасці разведчыкаў і дыверсантаў. Вось толькі некалькі прыкладаў. ▸

▶ У загадзе № 32 ад 1 ліпеня 1942 года па партызанскім атрадзе Райцава звярталася ўвага: «Глыбокай разведкай выяўлена, што праціўнік за апошні час вярбуе шпіёнаў з цывільнага насельніцтва абодвух палоў ва ўзросце ад 12 да 18 гадоў і засылае іх у тыл Чырвонай арміі і партызанскія атрады з мэтай падрыўной дыверсійнай працы, агентуры і разведкі».

У аператыўнай зводцы № 16 Паўночна-заходняй групы ЦК КП(б)Б ад 4 верасня 1942-га адзначалася, што «за апошні час немцы ўзмоцнена засылаюць у партызанскія атрады дзяцей ва ўзросце ад 8 да 16 гадоў з заданнямі шпіёнскага характару».

У справаздачах асобых аддзелаў партызанскіх брыгад і атрадаў адзначалася: «Немцы не грэбавалі для адпраўкі ў разведку і падлеткамі ва ўзросце ад 10 да 16 гадоў, беручы ў закладнікі бацькоў», «стваралі для шпіёнскай мэты спецыяльныя школы, асабліва для ўкамплектавання школ дзецьмі-падлеткамі і жанчынамі, нечым пакрыўджанымі партызанамі ці рэпрэсаванымі органамі НКВД».

## Дзе і чаму вучылі

Да канца 1942 года (яшчэ да стварэння школы ў Гемфурце) на акупаванай тэрыторыі Беларусі ўжо дзейнічалі сем школ і курсаў, дзе рыхтавалі агентаў-падлеткаў.

12 лістапада 1942-га камбрыг Сяргей Мазур паведаміў, што «для шпіёнаў ёсць школы... у Мінску, дзе адмыслова рыхтуюць малых».

28 лістапада таго ж года камандзір спецатрада Георгій Архіпец паведаміў, што «ў Барысаве і Магілёве ёсць спецшколы, дзе навучаюць падлеткаў шпіёнскай працы і з гэтай мэтай рассылаюць па атрадах, каб яны маглі даведацца і перадаць, колькі ў атрадзе чалавек, хто камандзір і інш. У атрадзе Дзяругі была шпіёнка — дзяўчынка гадоў 14-ці, — якая да яе расстрэлу распавяляла, што была ў Барысаўскай разведшколе. Яна павінна была даведацца пра колькасць людзей у атрадзе».

У палітданясенні па Сіроцінскай партызанскай брыгадзе Сямёна Кароткіна і Васіля Фралова за першую палову снежня 1942 года паведамлялася: «Агентурнай разведкай устаноўлена, што ў горадзе Гарадку спецыяльна з ліку малалетніх створана школа шпіёнаў колькасцю 25 чалавек... Прычым гэтая школа другая. Першая была арганізавана ў Шуміліне, у 40 чалавек, з якой 2 хлопчыкі былі злоўленыя ў размяшчэнні штаба брыгады».

Чым цяжэй робіцца немцам на вайне, тым больш яны пачынаюць вербаваць мясцовую агентуру. Прыярытэтным кірункам стала не разведка, а дыверсія, асабліва супраць каманднага складу.

У лютым 1943 года быў затрыманы 10-гадовы хлопчык Чарашнёў, які атрымаў ад немцаў заданне кінуць таблеткі ў калодзежы з пітной вадой у месцах расквартаравання чырвонаармейцаў. Чарашнёў, не ведаючы, у чым справа, паспрабаваў гэта зрабіць, але быў затрыманы. Пры экспертызе ў таблетках былі выяўленыя бацылы сапу — хваробы, смяротна небяспечнай для коней.

У лістападзе 1943-га ў партызанскай брыгадзе «Разгром» былі выкрытыя дзве дзяўчынкі 10-ці і 6-ці гадоў. У іх былі знойдзены атрутныя рэчывы пад выглядам лекаў.

Для выканання заданняў сталі больш актыўна прыцягвацца сіроты, беспрытульнікі і дзетдомаўцы. У адным з дакументаў абвера за 1942 год, у якім даваліся інструкцыі па вярбоўцы агентуры, адзначалася: «Варта наведваць дзіцячыя дамы, там утрымліваюцца 15–16-гадовыя падлеткі, якіх можна выкарыстоўваць для высылання на заданні». Напрыклад, у красавіку 1943-га з «Магілёва было накіравана 25 выхаванцаў дзіцячых дамоў з задачай разведкі партызан. Такая агентура легендуецца невыноснымі ўмовамі жыцця ў дзіцячых дамах».

Выкрыты агент Канстанцін Мандрык (13 гадоў),



**Хлопчыкі кідаюць камяні ў помнік Леніну. 1941 год.** Фота зроблена нямецкім фатографам. Найхутчэй, што яно было пастановачным.



**Хлопчыкі каля знішчанага помніка Леніну ў Менску.** 1941 год.

які навучаўся ў Слуцку, падчас допыту паведаміў, што «набор быў у гэтую школу з дзіцячых прытулкаў і бежанцаў, дасланых з-за фронту... Асноўнае пытанне было пастаўлена як разведка ў лясах — гэта значыць, знаходжанне размяшчэння партызанскіх атрадаў, распазнаванне ўзбраення рознага тыпу».

У 1944 годзе навучанне дзяцей было фактычна пастаўлена на канвеер. Да лета 1944-га на тэрыторыі Беларусі сталі дадаткова дзейнічаць школы (курсы) па падрыхтоўцы агентаў-падлеткаў у Брэсце і Баранавічах. Напрыклад, у Брэсце на цяперашняй вуліцы 17 Верасня «размяшчалася шпіёнская школа для непаўналетніх 1927–1929 гадоў нараджэння. Тэрмін навучання ў ёй складаў 3 месяцы. Курсантам выплачваўся аклад за час навучання ў 1600 марак».

Усяго на тэрыторыі Беларусі ў гады вайны дзейнічалі паўтара дзясятка школ і курсаў, на якіх навучаліся будучыя разведчыкі і дыверсанты непаўналетняга ўзросту. Яны размяшчаліся ў Баранавічах, Бабруйску, Барысаве, Брэсце, Вілейцы, Гарадку, Крэмным, Куранцы, Мінску, Магілёве, Оршы, Сянне, Слуцку, Халопенічах і Шуміліне. Праз гэтыя ўстановы прайшло ад тысячы да некалькіх тысяч дзяцей.

## Пасля выкрыцця

Лёс выкрытых партызанамі нямецкіх агентаў, у тым ліку непаўналетніх, быў незайздросны. У дачыненні да іх у абсалютнай большасці выпадкаў ужывалася найвышэйшая мера — расстрэл.

**«Мы дваіх з іх ужо расстралялі. Прыйшлі прасіцца. Пытаемся: з якой вёскі? Яны: з такой. Мы паслалі туды даведацца, ці ёсць такія людзі. Няма»**

У лесе проста не было неабходных умоў (памяшканняў, канвойных, лішняга харчавання і г. д.) для доўгага ўтрымання выкрытых пад вартай. Знаходжанне патэнцыйнага дыверсанта ў атрадзе ўзмацняла і без таго вялікія рызыкі таксама для мірных людзей, жанчын і дзяцей, што хаваліся ў партызанаў у лясах.

Вось што казаў пра непаўналетніх шпіёнаў камбрыг Сяргей Мазур: «Мы дваіх з іх ужо расстралялі. Прыйшлі прасіцца. Пытаемся: з якой вёскі? Яны: з такой. Мы паслалі туды даведацца, ці ёсць такія людзі. Няма, прыйшлося іх па ўсіх правілах, усё роўна толку не будзе з гэтых малых».

8 лістапада 1943 года вартавым атрада «Бальшавік» быў затрыманы хлапчук 15-ці гадоў, непрыкметны на выгляд, у падранай вопратцы, з бруднымі тварам і рукамі. Ён назваўся Міхаілам Шарэйкам, а падчас допыту прызнаўся ў выкананні шпіёнскага задання на немцаў. «Па заключэнні ўпаўнаважанага асобага аддзела Шарэйка расстраляны...»

Праўда, у вельмі рэдкіх выпадках непаўналетніх дзяцей-агентаў, якія здаваліся «бяскрыўднымі», маглі і адпусціць. Адзін з партызанскіх камандзіраў згадваў: «Мы амаль палову гэтых малых пераловілі. Ім немцы абяцалі махоркі, гарэлкі, хлеба, адзення. Як пачынаеш гаварыць з гэтымі малымі, яны ва ўсім прызнаюцца. Мы частку расстралялі, частку разагналі дадому».

Таксама выкрытыя агенты маглі выжыць, калі іх перавярбоўвалі і накіроўвалі назад з ужо процілеглымі заданнямі. У пастанове начальніка асобага аддзела 1-й Мінскай брыгады ад 11 жніўня 1943 года адзначалася: «Хмяльніцкую В. В. 1927 г. н. за шпіянаж на карысць нямецкай дзяржавы расстраляць. Астатніх 6 дзетак вызваліць і накіраваць у дзіцячы дом з асаблівай задачай». Такія дзеці апыналіся паміж двух агнёў, шанцы ў выніку ацалець таксама былі не вельмі высокія. ◆

# ПАХ ЧАБАРОВЫ

## Духмяная расліна, якая стала сімвалам

**Пахне чабор... Чуеце? Што для вас значыць гэты водар? І нават само слова — назва духмяных зёлак? Якія асацыяцыі? Разважае доктар гісторыі Алесь Белы.**

**Сімвал позняй БССР**

У традыцыйнай беларускай культуры чабор (*Thymus vulgaris*), можа, і не быў надта адметны. Але ён здаўна ўжываўся як зёлкавая гарбата ці сам сабою, ці ў складзе збораў. Напрыклад, з мёдам — як прафілактыка або лекі ад кашлю.

Выбух жа папулярнасці гэтай расліны адбыўся ў пасляваеннай БССР. Тады чабор раптам зрабіўся адным з нефармальных сімвалаў Савецкай Беларусі, увасобленым у дзясятках паэтычных вобразаў і камерцыйных брэндаў. Каб прыгадаць тыя вобразы, не трэба асабліва і напружваць памяць. Бо хто не памятае славутага верша Петруся Броўкі «Пахне чабор»? Яго ў школе абавязкова вучылі на памяць. Выдадзены ў 1982 годзе зборнік вершаў Ларысы Геніюш называўся «На чабары настоена», і ў ім чабор ды ягоны моцны водар згадваецца ажно ў чатырох вершах. У тым жа 1982-м з'явіўся песенны хіт у выкананні ВІА «Чараўніцы» — «Пах чабаровы». А яшчэ можна згадаць народную песню «Чабарок» пра міленькага, у якога «крывенькія ножкі». Вядомую, дарэчы, у апрацоўцы Несцера Сакалоўскага, аўтара музыкі дзяржаўнага гімна Беларусі.

Страшна папулярнай у позняй БССР была і назва «Чабарок»: так называліся безалкагольны напой, цукеркі, узорныя танцавальныя ансамблі, садовыя таварыствы, санаторый пад Баранавічамі, дзіцячы лагер, шматлікія




прадуктовыя крамы, а ў многіх гарадах і мястэчках (асабіста ведаю прынамсі пра Гомель, Навапалацк, Барысаў, Нясвіж, Светлагорск, Моталь, Антопаль) — рэстараны, кафэ, бары або сталовыя. Апошнія пераважна практыкавалі нарматыўную беларускую савецкую кухню паводле «Зборніка рэцэптур нацыянальнай кухні», які з 1956 года выпускаў Саўмін СССР, а з 1983 года — саўміны саюзных рэспублік. Прыгожая расліна стала адным з сімвалаў беларускага савецкага патрыятызму.

Сёе-тое з суквецця «Чабаркоў» па інерцыі дажыло да нашых часоў, хоць, бадай, ужо мала хто адчувае той сімвалізм, хай сабе і абмежаваны строгімі савецка-бюракратычнымі рамкамі, які ўкладаўся ў вобраз гэтых зёлак у 70-я і 80-я. Тым больш што рэстараны і кавярні, якія захавалі назву «Чабарок», часцей за ўсё адмовіліся ад невыразнай і сёння слаба запатрабаванай беларускай савецкай кухні. Да чагосьці ж абноўленага нацыянальнага яны таксама пакуль не дайшлі.

## Мігрант з Міжземнамор'я

Чабор як лекавую і араматычную расліну ведалі ўжо ў Старажытным Егіпце. Англійскае і старафранцузскае слова *thyme*, лацінскае *thymus* і вядомае таксама і ў нас слова *цім'ян* паходзяць ад грэцкага *thumon*, а тое — ад дзеяслова *thuein* — «спальваць як ахвяру». Егіпцяне выкарыстоўвалі эфірны алей расліны як кампанент сродкаў для бальзамавання.

Радзіма чабару — Міжземнамор'е, але паступова ён распаўсюджваўся на поўнач. Дзякуючы ў тым ліку рымлянам, якія верылі, што чабаровы водар дадае мужнасці легіянерам і «ачышчае» жытло. Пазней гэтае павер'е ўспадкавалі і заходнія еўрапейцы. Гожыя паненкі дарылі галінкі чабару сваім рыцарам, іх клалі пад падушкі, каб абараніцца ад начных кашмараў, абкурвалі дымам дамы ад злых духаў і клалі ў труны нябожчыкам — каб палегчыць тым пераход у іншы свет.

**Чабор** (*thymus*) — расліны з роду шматгадовых паўхмызнякоў сямейства ясноткавых (*Lamiaceae*). У Беларусі можна сустрэць 3 віды чабару: чабор паўзучы, або звычайны (*Thymus vulgaris*; народныя назвы *цымбер, цэбрык, калатовічкі*), чабор блышыны (*Thymus pulegioides*) і чабор Маршала (*Thymus marschallianus*). Расце на лясных палянах і ўзмежках, на баравых пясках. Цвіце ў чэрвені – жніўні, плады выспяваюць у жніўні – верасні. Расліна вельмі духмяная, з рэзкім цёплым водарам, абумоўленым у асноўным фенольнымі лятучымі духмянымі рэчывамі — тымолам і карвакролам. У ежу спажываюць лісце і маладыя парасткі ў свежым і сушаным выглядзе як гарбату і прыправу да многіх страў. У медыцыне ім карыстаюцца як заспакаяльным сродкам пры разладзе нервовай сістэмы, хваробах бронхаў, органаў стрававання, коклюшы, рэўматызме.

## Для лекаў і кахання

У многіх міжземнаморскіх краінах чабор ці адмыслова вырошчваюць, ці збіраюць дзікарослы ў прамысловых колькасцях. Усе турэцкія гатункі чабару паступаюць на рынак пад найменнем *Kekik*. Усе іспанскія, якія збіраюцца ў дзікарослым выглядзе, прадаюцца пад агульнай назвай *Tomillo*. У кожнай культуры вобраз гэтай спецыі і травы, з якой яна выпрабляецца, чымсьці адрозны.

У беларускіх хатах таксама паўсюль можна было сустрэць вянкі з чабару і мяшэчкі з ім. Араматэрапеўты распавядуць вам, як пах чабару паляпшае настрой і самаацэнку. Сучасная медыцына сцвярджае, што чабор спрыяе крываўтварэнню, паляпшае дзейнасць страўніка і стымулюе імунную сістэму. Да таго ж ён мае моцнае антысептычнае дзеянне, таму яго часам называюць «прыродным антыбіётыкам». Нездарма ў адным з вершаў Янкі Купалы, напісаным у пачатку ▸

## Чабор у творчасці беларускіх паэтаў

**Пятрусь Броўка**

Хіба на вечар той можна забыцца?
...Сонца за борам жар-птушкай
садзіцца,
Штосьці спявае пяшчотнае бор,
Пахне чабор,
Пахне чабор...

**Ларыса Геніюш**

Стаяць дрэвы,
бы здані белыя,
Паліць сонейка,
скрозь трава.
Чабаром густым
з ніў павеяла,
Завінулася галава.

**Пімен Панчанка**

Меднастволы, як выліты высіцца бор,
Зацвітае на ўзлессі блакітны чабор,
Заглядзелася сонца у люстра азёр, —
Гэта ты, мая Беларусь!

**Генадзь Бураўкін**

Быццам матуля ішла да крыніцы,
Выліла ў полі вядро сырадою...
Пахне чаборам і медуніцай.
Пахне вашчынаю маладою.

**Васіль Зуёнак**

Ой, краса чабарова,
Вочы сінія,
Заламаныя бровы
Ўсё асілілі...
...Ой, краса чабарова,
Чары чорныя...
Адышла за дуброву
Ночка зорная...

▶ XX стагоддзя, чабор ляжыць на прылаўку перад бабулькай-прадаўшчыцай на рынку разам з іншымі лекавымі зёлкамі:

Ляжаць перад бабкай,
Ці вечар, ці ранак,
Пучкі дзівасілу,
Чабор і румянак.

А ў беларускай лірыцы пах чабару сімвалізуе бясклапотную летнюю цеплыню, дурман кахання і сувязь з роднай зямлёй. Невыпадкова ажно два беларускія літаратары мелі ці маюць такія псеўданімы: актывіст нацыянальнага руху ў міжваеннай Заходняй Беларусі Янка Чабор і наш сучаснік Пятро Чабор. Не грэбавалі ім і палітыкі: П. Чабор — адзін з псеўданімаў дзеяча Беларускай сялянска-работніцкай грамады Пятра Мятлы.




### Чабор у кулінарыі

Чабор часта ўключаюць у склад розных сумесяў спецый, самая вядомая з якіх — «праванскія зёлкі» (*herbes de Provense*). Яна папулярная як на радзіме, у Паўднёвай Францыі, так і ва ўсім свеце. Акрамя чабару, у склад гэтай сумесі ўваходзяць кервель, эстрагон, чабер (сваяк чабару, які ў нашых краях у дзікарослым выглядзе не расце), маяран, размарын, лаванда і часта фенхель. Гэтая сумесь выкарыстоўваецца для прыгатавання многіх страў Паўднёвай Францыі, асабліва рыбы, але таксама мяса і гародніны, у тым ліку славутага рагу «рататуй».

Вядомы таксама «захтар» (*Zahtar*) — сумесь з Іарданіі, якую найбольш выкарыстоўваюць для барбекю з бараніны. Арыгінальны смак складаецца з арэхавага — кунжуту, духмянага — чабару і кіслага — сумаху.

Збор травы (галінак) чабару адбываецца да наступлення перыяду цвіцення (чэрвень – пачатак ліпеня). Маладыя атожылкі высушваюць на паветры, на зацененай пляцоўцы або ў сушылцы з добрай вентыляцыяй. Затым галінкі абмалочваюць і прасейваюць для выдалення здранцвелых фрагментаў сцёблаў.

Як спецыя чабор трапіў у шляхецкую кухню Рэчы Паспалітай даволі позна, прыкладна ў сярэдзіне XVI стагоддзя. Але і праз стагоддзе ўжыванне яго ў кухні яшчэ было даволі абмежаваным. Галоўным чынам ён выкарыстоўваўся ў стравах, запазычаных з нямецкай кухні — для заправы тушанага мяса (ялавічыны і дзічыны), а таксама фаршу з гусей і дзікіх птушак, фаршыраванага і запечанага ялавічнага страўніка, каўбасных фаршаў ды рыбных паштэтаў.

Куды лепш наша шляхта рассмакавала чабор у эпоху Асветніцтва, калі ў Рэч Паспалітую прыйшла мода на французскія стравы. Шмат рэцэптаў страў, якія гатаваліся з чабаром, можна знайсці ў славутай кнізе Войцеха Вялёндкі «Дасканалы кухар». Гэта пераважна булёны для гатавання

Назву «Чабарок» у БССР мелі безалкагольны напой, цукеркі, танцавальныя ансамблі, садовыя таварыствы, санаторый пад Баранавічамі, дзіцячы лагер, крамы, рэстараны, сталовыя.




**Ансамбль народнага танца «Чабарок».**




мяса, тушаныя стравы з воднай птушкі, соусы для марынавання і кансервавання мяса.

У сучаснай польскай кухні чабор найчасцей выкарыстоўваецца як дадатак да мяса, у прыватнасці печанага або смажанага на грылі, да гуляшу, леча, папрыкашу, дзічыны. Таксама ён паляпшае смак салатаў, сыроў, тушаных або смажаных памідораў. Выдатна спалучаецца з бульбай, пятрушкай, часнаком, цыбуляй і лаўровым лістом. Таксама папулярны пры прыгатаванні куранят, запечаных у зёлках, паштэтаў, крэм-супу з таматаў або квяцістай капусты, піцы з салямі, печанай «чырвонай» рыбы і многіх іншых страў.

Нядаўна ў Польшчы пачалі выраблядь і сваю арыгінальную мяшанку зёлак — «Зёлкі польскай кухні» (*Zioła kuchni polskiej*), відавочна як адказ на «правансkія зёлкі». У яе склад уваходзяць сушаныя пятрушка, зялёная цыбуля, кроп, любіста, маяран, чабор, чабер, эстрагон.

**Чабор — гэта традыцыйны беларускі смак, які пасуе да мяса, гуляшу, салатаў, сыроў, бульбы, паштэтаў, піцы і рыбы**

А вось беларуская кухня дагэтуль усур'ёз з чабаром не пасябравала, нягледзячы на тыя ж гістарычныя перадумовы. Хоць асобныя нашы энтузіясты нацыянальнай кухні такія эксперыменты ўжо ставяць. А варта было б і беларусам па прыкладзе суседзяў падумаць пра падобную мяшанку «з нацыянальным водарам і смакам». Прытым адрасавацца гэта мусіць не толькі турыстам, а падзяляцца як своеасаблівы агульны «пароль» крытычнай колькасцю саміх нашых людзей.

Чабор — годны сімвал нацыянальнай культуры, з добрым патэнцыялам для развіцця, хай сабе і сфармуляваны ў савецкую эпоху. У цэлым сучасная публіка прыхільна сустракае новыя падкрэслена патрыятычныя прадукты, заснаваныя на вобразе гэтай травы. І гэта дае надзею, што ў такога вобразу ёсць не толькі мінулае, але і будучыня. А пакуль, як прыйдзе чарговае лета, знайдзіце час, у чэрвеньскі сонечны дзянёк паедзьце на прыроду і з асалодай удыхніце цёплы і востры пах чабаровы... ◆




**Андрэй Мароз, уладальнік міні-бровара TRYEBeer, які варыць у тым ліку і арыгінальны гатунак піва «Чабор»:**

— Часта з сябрамі хадзілі ў паходы. З успамінаў: раніца на высокім беразе Іслачы, панцак, тушонка і гарбата з чабарком для бадзёрасці і добрага настрою — незабыўна. І бабуля ў вёсцы пад Любчай у чэрвені часта з чабарку рабіла гарбату. Ну і, канечне, верш «Пахне чабор» ды іншыя. Захацелася зварыць піва з такой яскравай беларускай ноткай. Так нарадзіўся гэты гатунак: жытні «гозэ» з чабарком паводле аўтэнтычнай нямецкай тэхналогіі. Піва закісляецца натуральным шляхам з удзелам дражджэй *Lactobacillus* і мясцовых *Brettanomyces*. Чабор дадаём у два этапы: на варку і потым перад самым разлівам, бо пах расліны адрозніваецца пры рознай тэрмічнай апрацоўцы. Немцы робяць класічны «гозэ» з пшанічным соладам і дадаюць каляндру. А мая версія — з жытнім соладам і чабарком.

**Віталь Броўка, уладальнік бара «Торвальд» у Віцебску:**

— Люблю дадаваць свежы чабор у мясныя стравы. А сухі часта ўжываю заміж арыгана (мацярдушкі) або правансkіх зёлак. Асабліва ў салатках з сырам. Чабарок у сям'і заўжды збіралі і ўжывалі, але толькі як гарбату. Асабліва ўзімку і ад прастуды. А ўжо недзе ад 2000-га мы з братам, смажачы грыбы, сталі кідаць у алей часнок разам з галінкамі свежага ці сухога чабару. А ўслед за тым і ў мяса, асабліва тушачы труса.

Рэцэпт даволі просты: свежага, пажадана даволі тлустага труса, нацёртага соллю і чорным перцам, абсмажыць у разагрэтым алеі, дзе папярэдне ўжо прасмажылі з тузін галінак чабару з кветкамі і 3–4 зубочкі часнаку. Галінкі і зубочкі лепш дастаць з алею, як кідаеце мяса, каб потым не заміналі. Абсмажыўшы на вялікім агні да карачкі з абодвух бакоў, трэба дакінуць крышаныя моркву, цыбулю і накрыць. Праз 5 хвілін усё перамяшаць, пасыпаць сухім чабарком і ўліць крыху вяршкоў ці тлустага малака. Накрыць і на ціхім агні тушыць 30 хвілін. Падаваць з варанай ці печанай бульбай і свежай гароднінай.

# Сямейны рэцэпт з татарскімі каранямі

Дзень добры, паважаная рэдакцыя, мяне завуць **Вадзім Багуцкі**. Вырашыў даслаць вам сямейны рэцэпт картаплянікаў, якія гатуюць у нашай сям'і. Не ведаю, ці спатрэбіцца, але калі што, можаце проста самі пакаштаваць іх.

Увогуле, сітуацыя з гэтымі картаплянікамі дзіўная. У інтэрнэце на запыт па іх выдаюцца зусім іншыя стравы (часцей за ўсё запечаныя). А ў нас у сям'і картаплянікі менавіта вараныя, з загорнутай у цеста бульбяной начынкай.

Здаецца, што калі іх варыць, а потым смажыць, то атрымаўся б амаль што беларускі фастфуд (ужо лепш, чым адны толькі дранікі).

Па сутнасці, нашы картаплянікі — гэта варэнікі з бульбай, але гатуюцца яны асаблівым чынам. Магчыма, гэты рэцэпт нават мае татарскія карані: мае дзед з бабуляй паходзяць з вёскі Арда Клецкага раёна Мінскай вобласці. ◆

**Найбольш смачна есці картаплянікі крыху падстылымі, мачаючы іх у растопленае масла**



**Інгрэдыенты:**

*Для начынкі:* 1 кг бульбы, зваранай з лупінай (найбольш падыдзе старая бульба, таму звычайна картаплянікі гатуюць вясной), 1 сырое і 5 вараных яек, пучок зялёнай цыбулі, пучок кропу, соль.

*Для цеста:* шклянка мукі, сырое яйка, соль, 150 г вады.

**Спосаб прыгатавання:**

*Начынка:* Бульбу і яйкі абіраем ад лупінаў. Дробна наразаем цыбулю і кроп. Бульбу, яйкі, кроп і цыбулю скідаем у вялікую міску і дадаём солі на смак. Пачынаем секчы нажом адразу ў місцы, паступова пракручваючы яе па крузе. Увага: трэба не мяць, не таўчы, а менавіта секчы. Пасечаныя бульба і зеляніна будуць лепш захоўваць смак і водар. Пасля кожнага правароту міскі сумесь перамешваем. Працягваем, пакуль не атрымаецца вельмі дробна пасечаная, амаль аднародная маса. Дадаём сырое яйка для вязкасці і зноў перамешваем. Сумесь павінна нагадваць амаль суцэльны бульбяны камячок.

*Цеста:* Змешваем муку, ваду і яйка, дадаём солі на смак. Месім і, галоўнае, сочым, каб цеста атрымалася не рэдкім. Накрываем цеста ручніком і даём яму крыху пастаяць (хвілін 20).

Раскачваем цеста, а пасля шклянкай выразаем у ім кружочкі. Кладзём на кружочкі бульбяную сумесь і заварочваем усё гэта як пельмені або варэнікі. Картаплянікі варым у крыху падсоленай вадзе да гатоўнасці.

Найбольш смачна есці картаплянікі крыху падстылымі, мачаючы іх у растопленае масла.

# Кісель. І сон па раскладзе

## Як жыў апошні кароль Рэчы Паспалітай пры канцы жыцця

**Перад апошнім падзелам Рэчы Паспалітай і паўтара года пасля яго Станіслаў Аўгуст Панятоўскі жыў у Гродне. Кацярына ІІ не магла дачакаць, калі ён адрачэцца ад трону. Імператрыца прыставіла да Панятоўскага агентаў, якія мусілі дакладаць у Пецярбург пра кожны крок караля. Іх паведамленні — каштоўная крыніца для сённяшніх гісторыкаў, піша Наталля Васілюк. З іх мы бачым, што кароль, нягледзячы на нягоды, не пакідаў каралеўскіх звычак і вёў здаровы лад жыцця.**

Вядома, што прагулкі на свежым паветры станоўча ўплываюць на стан чалавека. Мабыць, таму ад цяжкіх думак кароль ратаваўся штодзённымі шпацырамі. Адразу пасля прыезду ў Гродна ў пачатку 1795 года Станіслаў Аўгуст гуляў па двары Новага замка і па беразе Нёмана. Далей не хадзіў і не ездзіў. Магчыма, проста баяўся паказвацца перад людзьмі, якія вінавацілі яго ў страце краіны.

Але 15 сакавіка Панятоўскі ўсё-такі выправіўся за горад, першы раз. Ехаў ён у адкрытай карэце ў суправаджэнні расійскіх «сяброў». Карэту акружалі некалькі прыдворных і канвой з 24 чалавек. Вялікая колькасць аховы можа сведчыць, што апошні манарх сапраўды баяўся выязджаць за горад, і гэты выезд стаў для яго сур'ёзным выпрабаваннем. Картэж адправіўся да вёскі Грандзічы за 4 км ад Гродна. Вяртаючыся дахаты, кароль заехаў у госці да галоўнакамандуючага расійскімі войскамі на тэрыторыі Рэчы Паспалітай Мікалая Рапніна, а з чатырох гадзін вечара да


WIKIMEDIA COMMONS

**Новы замак у Гродне.**

захаду сонца гуляў па тэрасе над Нёманам. Праўда, пасля гэтай прагулкі кароль прастудзіўся і некалькі дзён не выходзіў са спальні, але ўжо з 26 сакавіка аднавіў шпацыры.

Летам Станіслаў Аўгуст праводзіў на паветры цэлыя гадзіны. Ён бываў у недалёкіх ад Гродна Панямуні, Ласосне, Аўгустове, Караліне, Путрышках, Адамовічах, а таксама на лясной дачы князя Любецкага ў Пышках. Панятоўскі займаўся верхавой яздой, таму часам ездзіў на прагулкі конна. Апошні манарх Рэчы Паспалітай не раз праязджаў прыгараднымі дарогамі — віленскім і скідзельскім трактам, а таксама па азёрскай дарозе (мястэчка Азёры знаходзіцца за 30 км на ўсход ад Гродна). Акрамя таго, Панятоўскі нярэдка наведваў сядзібу ў Станіславове


DAELMANS.BE

**У більярд Станіслаў Аўгуст гуляў часта**, амаль кожны дзень.



НАЦЫЯНАЛЬНЫ МУЗЕЙ У ВАРШАВЕ

**Ян Чэслаў Манюшка (1853–1908). «Кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі ў Пецярбурзе».** Аўтар карціны — сын кампазітара Станіслава Манюшкі. Асноўны матыў яго жывапісу — пастаральныя, настальгічныя сцэнкі з апошняга перыяду Рэчы Паспалітай.

Панятоўскі сядзіць у золаце, раскошы і дабрабыце, ногі на мяккай падушцы. Але на душы смутак і сорам. Са слязьмі на вачах экс-кароль глядзіць на выяву свайго любімага Палаца на вадзе ў варшаўскіх Лазенках. Панятоўскаму спачувае слуга, апрануты ў традыцыйны шляхецкі строй краіны, якой ужо няма. **А з партрэта на сцяне насмешліва глядзіць Кацярына ІІ — каханне, за якое кароль аддаў радзіму.**

(цяпер яна ў межах Гродна, па вул. Церашковай, 29).

Асабліва любіў Станіслаў Аўгуст вёску Ласосна. Тут ён падоўгу заставаўся адзін. Але часта гуляў і ў кампаніі. Напрыклад, 9 мая кароль разам з Рапніным гулялі ў Панямуні, дзе назіралі за яўрэйскім вяселлем.

Нягледзячы на тое, што Станіслаў Аўгуст любіў балі, у яго быў дакладны распарадак дня: адпраўляўся спаць а 23-й гадзіне, прачынаўся а 6-й. Да распарадку дня ставіўся сур'ёзна. Ідучы адпачываць, Панятоўскі патрабаваў, каб у замку была цішыня.

Таксама Станіслаў Аўгуст трымаўся правільнага харчавання. На сняданак, а 6-й, піў кісель з арабін.У палацы быў спецыяльны кухар, які ўначы гатаваў каралю ежу для сняданку. Перыядычна кароль абедаў на свежым паветры — на балконе над Нёманам. Спажываў і віно, аддаючы перавагу французскаму. На адным прыёме пакаштаваў венгерскае — не спадабалася, папрасіў замяніць.

У апошнія гады жыцця кароль страціў нюх, таму жадаў, каб яго талеркі заўсёды праціралі асафецідамі.

Станіслаў Аўгуст не вельмі любіў бываць на чужых абедах. Да каго б ён ні хадзіў, разам з ім быў ягоны кухар, які ў чужым доме гатаваў каралю некалькі страў на каралеўскі густ.

У лютым 1795 года каралю прывезлі з Варшавы більярд ды іншыя гульні. З гэтага дня Станіслаў Аўгуст гуляў часта, амаль кожны дзень.

Вясной 1797-га на запрашэнне новага імператара Паўла І Панятоўскі выехаў у Пецярбург. Жыў ён там у Мармуровым палацы, які Кацярына будавала для графа Аляксея Арлова, — шыкоўным звонку, але сырым і брудным знутры. Нягледзячы на нібыта неблагое здароўе, праз год апошні кароль Рэчы Паспалітай памёр ад інсульту ва ўзросце 66 гадоў. ◆

**Асафеціда** — гэта расліна, якая мае вельмі востры пах, падобны на часночны. Калі дадаць асафеціду ў ежу, смак і пах расліны будзе вельмі добра адчувацца. Яго адчуе нават той, у каго не вельмі добры нюх. Для таго і дадавалі ў ежу Панятоўскаму гэтую прыправу — каб ён хоць штосьці адчуваў.


MINSK-OLD-NEW.COM

# Ці бамбілі савецкія самалёты ўжо вызвалены Мінск?

**У папярэднім нумары, пішучы, хто і як бамбіў беларускія гарады падчас Другой сусветнай вайны, гісторык Антон Рудак мімаходзь згадаў, што «апошнім часам распаўсюджваюцца плёткі, нібыта Мінск савецкая авіяцыя бамбіла ў ліпені 1944-га ўжо пасля таго, як немцы сышлі з горада». І катэгарычна заявіў, што гэта абсалютна не адпавядае рэчаіснасці. Тут ён разглядае гэта пытанне больш падрабязна.**

### «Сталін даў загад»

Нарадзіўся міф 3 ліпеня 2012 года, калі на сайце радыё «Свабода» з'явіўся тэкст Віталя Сямашкі «Яны дагэтуль не ведаюць, што аж да 3 ліпеня Мінск бамбілі "нашы"!» Словы, вынесеныя ў загаловак, належаць кандыдату тэхнічных навук Алесю Клышку, які ў 2010 годзе выдаў кнігай аўтабіяграфічную паэму «Мінская зямля», далучыўшы да яе ўспаміны сваёй сястры Ірыны Клышкі, якія па аб'ёме складаюць амаль траціну гэтага выдання. Сам Алесь Клышка нарадзіўся пасля вайны, у 1948 годзе, а Ірына Клышка — у 1935-м. У ліпені 1944-га ёй было дзевяць гадоў.

Тэкст Віталя Сямашкі быў прымеркаваны да выхаду дапоўненага перавыдання «Мінскай зямлі». Аўтар у ім пісаў: «У "Мінскай зямлі – 2" Алесь Клышка заяўляе: Мінск да 3 ліпеня ўшчэнт за 2 дні разбамбіла... савецкая авіяцыя». Далей і сам Клышка ў гутарцы з журналістам сцвярджаў: «Сталін ведаў, што ў Мінску немцаў няма, і калі запыталі ў яго, ці трэба рабіць бамбаванне, ён даў каманду: "Усё роўна"». Сямашка ў адказ задаў свайму суразмоўцу лагічнае пытанне: «А тагачасныя мінчукі ўсведамлялі, што іх бамбавалі свае?» Алесь Клышка ўпэўнена адказаў: «Не».

Але ніякіх стэнаграмаў з падобнымі словамі савецкага дыктатара ў прыродзе не існуе. Сталін ніколі не казаў нічога падобнага пра Мінск улетку 1944-га. Клышка пераказаў за кімсьці нейкія плёткі.

### Сястра не пацвярджае

Паколькі сам Алесь Клышка нарадзіўся ўжо пасля вайны, асабістых успамінаў ён мець не мог. Але, можа, свае сенсацыйныя сцверджанні ён грунтуе на ўспамінах сястры, якой

тады было дзевяць гадоў? Ды не: прачытаўшы ўспаміны Ірыны Клышкі ў выданні «Мінскай зямлі» 2010 года, я не знайшоў у іх аніякай згадкі, што савецкая авіяцыя нібыта бамбіла Мінск пасля адступлення немцаў. Аўтарка толькі сцвярджае: «Самыя страшныя бамбёжкі былі, калі чырвоныя наступалі». І ніякіх згадак пра дні, калі немцы нібыта ўжо адступілі, а саветы яшчэ не прыйшлі. Нічога дзіўнага, бо такіх дзён на самай справе проста не было.




**Дом Чырвонай арміі (цяпер Дом афіцэраў) у Мінску ў ліпені 1944 года.** Пажар 3 ліпеня быў выкліканы выбухам пакінутай тут немцамі перад адступленнем бомбы, якую не паспелі своечасова абясшкодзіць савецкія сапёры. На іншым фота пажару ўжо няма, але відаць цела забітага нямецкага вайскоўца.

Віталь Сямашка, праўда, піша: «Алесь Клышка карыстаўся не толькі ўспамінамі. Ён шмат гадоў працаваў у закрытых архівах музея Вялікай Айчынай вайны, вывучыў багата дакументаў». Але рэч у тым, што нічога канкрэтнага, што гэта за дакументы, не кажацца і яны не цытуюцца. Іншыя ж аўтары, якія працавалі ў фондах таго самага музея, не толькі не пацвярджаюць версію Клышкі, але і абвяргаюць яе.

## Немцы трымаліся да апошняга

Возьмем кнігу супрацоўніцы Інстытута гісторыі НАН Ірыны Варанковай «Минск: лето 1941, лето 1944». Яе даследаванне цалкам прысвечана першым дням вайны ў Мінску да прыходу немцаў, але ў заключным яго раздзеле па аналогіі асвятляюцца і падзеі, якія папярэднічалі адступленню вермахта.

Дык вось, Ірына Варанкова, грунтуючыся на дакументах з таго самага музея Вялікай Айчыннай вайны, піша, што нямецкая эвакуацыя з Мінска адбывалася з 27 чэрвеня да 1 ліпеня ўключна, калі немцы ўзарвалі чыгуначныя шляхі. Да 30 чэрвеня Мінск пакінулі ўсе цывільныя немцы. 1 ліпеня пачалі дзейнічаць падрыўныя каманды, якія нішчылі абсталяванне прадпрыемстваў, але ўжо вечарам таго самага дня яны пакінулі Мінск разам з васьмю тысячамі параненых нямецкіх вайскоўцаў. Вайсковыя часткі немцаў усё яшчэ заставаліся ў горадзе.

2 ліпеня ў Мінск увайшлі аўтакалоны 4-й арміі з папаўненнем. Немцы планавалі замацавацца на ўсходняй ускраіне горада і аказаць супраціў. Але ўжо зранку 3 ліпеня на вуліцах Мінска з'явіліся першыя савецкія танкі. За дзень горад быў цалкам узяты пад кантроль савецкай арміяй — і тым жа вечарам зноў патрапіў пад бомбы. Толькі гэтым разам яны былі ўжо нямецкія.

Як бачым, двух дзён «безуладдзя» ў ліпені 1944-га проста не было.

Магчыма, бязлюддзе на яшчэ нядаўна запоўненых вуліцах, характэрнае для пачатку любых актыўных баявых дзеянняў, магло стварыць у нейкай часткі сведкаў — асабліва тых, што былі дзецьмі ці падлеткамі, — ілюзію таго, што 1 ці 2 ліпеня Мінск быў зусім пакінуты немцамі. Але дакументы і сама логіка падзей сведчаць пра адваротнае. Калі б немцы раней адступілі з Мінска, саветы не прамінулі б магчымасці як мага раней заняць горад – тэмп іх наступлення быў тады надзвычай высокім. Ніякай аб'ектыўнай патрэбы марудзіць не было. ◆

А вось у чэрвені 1941 года, калі немцы наступалі, безуладдзе сапраўды было, і цягнулася яно акурат два дні. Апошнія савецкія войскі пакінулі Мінск ужо 26 чэрвеня каля шостай вечара, а прадстаўнікі ўлады — яшчэ раней. Як вынік, у горадзе адразу ж пачалося рабаванне складоў і крамаў. Савецкія войскі ў наступныя два дні спрабавалі стрымаць наступленне вермахта на захад ад Мінска. Уступілі немцы ў сталіцу БССР толькі раніцай 28 чэрвеня.

# Палёт італьянца ў Беларусі

**На гэтых фатаграфіях адлюстравана падрыхтоўка паветранага шара да запуску з велатрэка ў мінскім Губернатарскім садзе (цяпер парк Горкага) у канцы XIX стагоддзя. Самі фота — даволі вядомыя, яны неаднаразова публікаваліся. А вось адносна таго, якая менавіта падзея з гісторыі паветраплавання ў Беларусі на іх выяўленая, былі рознагалоссі. Загадку разгадаў падпалкоўнік Мікалай Кавалёў.**

Часцей за ўсё ў шматлікіх публікацыях выказвалася меркаванне, што гэтае фота, магчыма, тычыцца знакамітага палёту Станіслава Драўніцкага 26 верасня 1891 года, які ўвайшоў у гісторыю як першы, зроблены ў Мінску. Разважанні аўтараў звычайна канчаюцца прыблізна такімі словамі: «Хто ведае, ці не гэтая падзея адлюстравана на фота?», «Краязнаўцы гадаюць, ці не той самы гэта палёт?», «Патрэбны дадатковыя звесткі, калі хто мае інфармацыю, пішыце!». Што ж, адгукнёмся на просьбы і расставім у гэтай справе ўсе кропкі над «і».

### Што вядома пра гэтыя фота?

Першае фота стала вядомым пасля публікацыі ў кнізе Васіля Каляды «Мінск учора і сёння» ў 1989 годзе. Арыгінал фотаздымка захоўваецца ў Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі. На адвароце ў яго напісана: «Падрыхтоўка да палёту паветранага шара з Губернатарскага саду; фота зроблена з адхону р. Свіслач (у раёне Магазіннай вуліцы) у жніўні 1899 года. Шар напаўняўся грэтым паветрам (гарэла салома). Палёт трываў некалькі дзён. Шар падымаўся на 200–300 м. Паветраплавальнік спускаўся на парашуце. Пакуль шар напаўняўся грэтым паветрам, яго ўтрымлівалі салдаты. У Вільні адбыўся няшчасны выпадак: адзін салдат заблытаўся ў вяроўках і быў падняты дагары нагамі. 1960 год, Леантовіч».

Як патлумачыла супрацоўніца музея Надзея Саўчанка, гэты здымак у ліпені 1960-га перадаў у музей жыхар Кіева Уладзімір Леантовіч. У свой час ён скончыў Мінскую мужчынскую гімназію, а на момант перадачы з'яўляўся прафесарам архітэктурнага факультэта Кіеўскага дзяржаўнага мастацкага інстытута.

Другое фота захавалася ў Беларускім дзяржаўным архіве кінафотафонадакументаў у Дзяржынску і належыць да калекцыі пісьменніка і журналіста Яфіма Садоўскага. Захавалася ў яго, праўда, не сама фатаграфія, а яе негатыў на фотастужцы (адзін кадр). Да таго ж гэта фота на негатыве — толькі рэпрадукцыя з арыгінала. Паступіў негатыў у архіў у канцы 1972-га, а ў анатацыі пераказваецца інфармацыя, аналагічная той, якая ёсць пры першым фотаздымку. Дата здымкі і тут пазначана 1899 годам.

### Хто? Дзе? Калі?

Няўзброеным вокам відаць, што гэтыя крыху адрозныя паміж сабой фота, хоць і паходзяць з розных калекцый, адлюстроўваюць адну і тую ж падзею. А вось хто іх зрабіў, дзе і калі?

Цалкам магчыма, што фота зрабіў сам Уладзімір Леантовіч. Бо ён яўна быў непасрэдным сведкам тых падзей. Надпіс на адвароце ў момант дарэння фатаграфіі музею зроблены нібыта з памяці, тут згаданы нават віленскі няшчасны выпадак, які не меў непасрэднага дачынення да гэтага здымка. Ды і ўзрост Леантовіча пасуе: у 1899 годзе яму было ўжо 18 гадоў. Таму ягонае аўтарства хоць на 100% і не даказанае, але вельмі верагоднае.

Велатрэк у Мінску, дарэчы, з'явіўся толькі ў 1896 годзе, таму верагоднасць таго, што здымкі паказваюць падзею 1891 года, увогуле роўная нулю. Але ці адпавядае рэчаснасці пазначаная дата: 1899 год? Бо, паводле Надзеі Саўчанка, дата на адвароце першага фотаздымка самім Леантовічам была выпраўлена на 1898 год. Што ж, гэта лёгка праверыць, узяўшы падшыўку газеты «Мінскі лісток» за 1898 год. Калі б у горадзе ў гэты час адбываліся нейкія авіяцыйныя падзеі, то газета ніяк не магла іх прамінуць: для таго часу гэта была з'ява зусім не шараговая. Але ні пра што падобнае ў 1898 годзе на яе старонках не згадваецца.

А вось у тым жа «Мінскім лістку» за 1899 год, які па маёй просьбе пагартаў сябар з Санкт-Пецярбурга, такая згадка акурат ёсць: «У суботу і нядзелю [4 і 5 верасня]



ФОТА З КАЛЕКЦЫІ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ГІСТАРЫЧНАГА МУЗЕЯ БЕЛАРУСІ

**Цяпер на месцы колішняга велатрэка ў парку Горкага знаходзіцца будынак хакейнага клуба.** Калі зрабіць прывязку да сучаснага ландшафту, то ягоныя дэталі будуць супадаць з дэталямі на фота: наперадзе велатрэк, за ім алея, далей — луг, Свіслач. Круты ўзгорак — пачатак вуліцы Магазіннай (сучасная Кірава).



ФОТА З ФОНДАЎ БЕЛАРУСКАГА ДЗЯРЖАЎНАГА АРХІВА КІНАФОТАФОНАДАКУМЕНТАЎ

у Губернатарскім садзе адбыўся палёт паветранага шара, прычым у суботу падымаўся з шарам паветраплавальнік Эрнэста Вітола, а ў нядзелю *т-те* Марго. Абодва палёты скончыліся ўдала, і публіка, якая сабралася на трэку Мінскага таварыства аматараў спорту, даволі шматлікая, узнагародзіла адважных паветраплавальнікаў апладысментамі. Эрнэста Вітола з дапамогай парашута апусціўся ля ліцейнага завода Якабсона, прычым трапіў на дрэва, але не параніўся, а мадэмуазэль Марго апусцілася недзе на Залатой Горцы».

## Настаўнік славутага Утачкіна

Такім чынам, мы робім выснову, што фотаздымкі належаць аднаму фатографу (верагодна, Уладзіміру Леантовічу), зробленыя ў адзін час (1899 год) і з аднаго месца (на велатрэку, каля сучаснага будынка хакейнага клуба). А выяўлена на іх падрыхтоўка да палёту Эрнэста Вітола ці мадэмуазэль Марго.

Пра мадэмуазэль Марго мы, на жаль, нічога не ведаем, а вось пра Вітола тое-сёе адшукаць удалося. Газеты пісалі, што па нацыянальнасці ён быў італьянцам, але ці так гэта было сапраўды? Неабавязкова. У той час не было рэдкасцю, што экзатычныя замежныя імёны бралі ў якасці псеўданімаў, для «гучнасці». Вядома, што гэты чалавек быў патомным аэранаўтам і пачаў лётаць на паветраным шары разам са сваім бацькам, які пазней загінуў. На працягу васьмі гадоў Вітола гастраляваў за мяжой, у еўрапейскіх краінах і ў Амерыцы. А што з ім было пасля — ёсць звесткі толькі ўрыўкавыя. У верасні 1909-га з'явілася абвестка, што ў Мінск прыбыла «сям'я вядомых паветраплавальнікаў Вітола», якая будзе рабіць палёты і скачкі з парашутам. Пасля гэтага сляды Эрнэста канчаткова губляюцца.

Але перад тым, як знікнуць з нашага поля зроку, Эрнэста Вітола ўпісаў сваё прозвішча ў гісторыю паветраплавання ўсёй Расійскай імперыі. Ён стаў першым настаўнікам у справе паветраных палётаў для славутага расійскага авіятара пачатку XX стагоддзя Сяргея Утачкіна, даў яму, як той казаў, першую пуцёўку ў неба. Калі ў 1907 годзе Вітола гастраляваў на радзіме Утачкіна ў Адэсе, той дняваў і начаваў пад аэрастатам і ўрэшце ўгаварыў знакамітасць узяць яго з сабой у палёт. Што і вызначыла ягоны далейшы лёс. ◆

# АПОШНІ ВАМПІР

ЧАСТКА 7
























ДАСПАДОБЫ ТАБЕ Ў АПРАМЕТНАЙ СЯДЗЕЦЬ? ХА, ВЕДАЮ, ШТО НЕ! ПАГОДЗІШСЯ БЫЦЬ З НАМІ – АДРАЗУ ВЫЙДЗЕШ АДТУЛЬ! НУ?!

НЕ! НІКОЛІ!!!

УВЕСЬ ТЫ Ў БАЦЬКУ – ТАКІ Ж УПАРТЫ І ТАКІ Ж ДУРНЫ! НЕ ЗГОДНЫ?! ДОБРА!..

ТАДЫ ПАЧЫНАЕМ...

...ВОДНЫЯ ПРАЦЭДУРЫ!!

НЯЎЖО ПАТОПЯЦЬ?..

ВАДА ПАДЫМАЛАСЯ ЎСЁ ВЫШЭЙ...

ТРЭБА ТРЫМАЦЦА НА ПАВЕРХНІ...

НУ, ЯК ТАБЕ? ПРЫЗВЫЧАЙВАЙСЯ, КУПАЦЦА БУДЗЕМ РЭГУЛЯРНА, ПАКУЛЬ НЕ ПАГОДЗІШСЯ! ШМАТ ЧАГО ТЫ МОЖАШ, АКРАМЯ АДНАГО – ДЫХАЦЬ ПАД ВАДОЙ!

ЗАЛІВАЙ ЯГО ТАК РАЗ НА ДЗЕНЬ, ДЫ З КОЖНЫМ ДНЁМ УСЁ БОЛЬШ, АЖ ПАКУЛЬ ДА КРАТАЎ НЕ ДОЙДЗЕ! НЕ ЗАХОЧА СЛУЖЫЦЬ НАМ – ТО ХАЙ ЗАХЛЫНАЕЦЦА!

ТАК, ТАВАРЫШ ГЕНЕРАЛ!


ПАЦЯГНУЛІСЯ ДНІ... АЛЕ АДНОЙЧЫ ЗДАРЫЛАСЯ НЕЧАКАНАЕ...
НЕ, НЕ ПАДАЛОСЯ, СЁННЯ Я САПРАЎДЫ ІХ ЧУЎ...


ВАДА ПАДНІМАЛАСЯ УСЁ ВЫШЭЙ, І РАПТАМ...
А? АДКУЛЬ ГЭТА?..
...ЯК НАДАКУЧЫЎ ГЭТЫ ЦАНАВА І ЯГОНЫЯ КРЫВАСМОКІ!..
...ЯК ТАМ ДАЧУШКА БЕЗ МЯНЕ?..
...СВЯЦІЦЦА ІМЯ ТВАЁ, ПРЫЙДЗЕ ВАЛАДАРСТВА ТВАЁ...
...СЛЕДЧЫ СКАЗАЎ: КАЛІ ЗДАМ ЯГО, МОЖА, ТЭРМІН СКАРОЦЯЦЬ...
ЛЮДЗІ! ДЫК ВОСЬ ДЗЕ ЯНЫ СЯДЗЯЦЬ! ЗНАЧНА ВЫШЭЙ ЗА МЯНЕ...НАРЭШЦЕ...


ТОЙ ЧАЛАВЕК, ШТО ДУМАЎ ПРА ЦАНАВУ ДЫ КРЫВАСМОКАЎ...
ВІДАВОЧНА, ШТО ЁН ПРА ІХ ВЕДАЕ... ТРЭБА ПАСПРАБАВАЦЬ НЕЯК НАЛАДЗІЦЬ З ІМ СУВЯЗЬ!


НАСТУПНЫМ ДНЁМ...
НУ ВОСЬ, ПАЧАЛОСЯ...


ГЭЙ!.. ЧУЕЦЕ МЯНЕ? ВІТАЮ ВАС! НЕ ЗДЗІЎЛЯЙЦЕСЯ: Я МАГУ ЧЫТАЦЬ ДУМКІ...
ТАК, ЁН ПАВІНЕН БЫЦЬ НЕДЗЕ ТУТ...
Я ЧУЎ, ШТО ВЫ ВЕДАЕЦЕ ПРА ВАМПІРАЎ... АДКУЛЬ?


...МНЕ ПРАПАНОЎВАЛІ СТАЦЬ АДНЫМ З ІХ...
Я ТАКСАМА ВАМПІР, АЛЕ ІНШЫ... МНЕ ТРЭБА ДАПАМОГА.
Я ЧУЎ ПРА ЦЯБЕ. ТУТ ХУТКА РАЗЫХОДЗІЦЦА ІНФАРМАЦЫЯ. БУДЗЬ НАПАГАТОВЕ ЗАЎТРА...
ПАЧАКАЙЦЕ...


...АЛЕ ЯК ВЫ ЗМОЖАЦЕ МНЕ ДАПАМАГЧЫ?..
УСЁ, ВАДА СЫХОДЗІЦЬ...


ШТО Ж БУДЗЕ? МОЖА, МАСАВЫЯ ЎЦЁКІ ЗНЯВОЛЕНЫХ? ХУТЧЭЙ БЫ ЎЖО...


НАЗАЎТРА...
СЁННЯ ШТОСЬЦІ ДАЎЖЭЙ ТОПЯЦЬ, ЧЫМ ЗВЫЧАЙНА... ВОСЬ І КРАТЫ ЎЖО... Я ТУТ НЕ ПРАТРЫМАЮСЯ ДОЎГА.


НУ, ПРЫВІТАННЕ, КРЫВАСМОК! ЯК, ВЫЙСЦІ ГАТОВЫ? НЫРНУЦЬ НЕ СПРАБУЙ...
...


...БО НЕ ПАСПЕЕШ!
ДАВАЙ, ХУТЧЭЙ, ПАКУЛЬ ВАРТАВЫ ТВОЙ АДПАЧЫВАЕ!
ВЫ МЯНЕ АДПУСКАЕЦЕ ЦІ ПРОСТА Ў ІНШЫМ МЕСЦЫ ЗАСТРЭЛІЦЕ?
МАГУ І ЗАСТРЭЛІЦЬ, КАЛІ ТАК ХОЧАЦЦА! ДАВАЙ, РУШ!


ТАК, СЮДЫ! Я ПЕРШЫ, ТЫ - ЗА МНОЙ!


БАЧЫШ - ВАДА? ГЭТА ПАДЗЕМНАЯ РАКА, НЯМІГА.
ВЫЙДЗЕШ ПА ЁЙ ДА СВІСЛАЧЫ. ПАКУЛЬ АБДУМАЮЦЦА - ДАЛЁКА БУДЗЕШ.


АЛЕ Ж АБДУМАЮЦЦА! ТАК І БЕГАЙ АД ІХ УСЁ ЖЫЦЦЁ...
МОЖА, ТАК, А МОЖА - І НЕ...
ТЫ НАВІНЫ ЧУЎ?
ЯКІЯ? МНЕ ТУДЫ ГАЗЕТ НЕ ДАСТАЎЛЯЛІ.


СТАЛІН ПАМЁР!
ПАМЁР?! А Я ДУМАЎ, ШТО ЁН БЕССМЯРОТНЫ!
ХА-ХА, І ЁН ТАК ДУМАЎ! ХУТКА І ЦАНАВА ПАЛЯЦІЦЬ ДАГАРЫ НАГАМІ!


МНЕ ГЭТЫЯ ВАМПІРЫ ВО ДЗЕ СЯДЗЯЦЬ! З-ЗА ІХ НАМІ ЎЖО ДЗЯЦЕЙ ПАЛОХАЮЦЬ!
ПАКУЛЬ ЯНЫ КРОЎ ПІЛІ, Я НА ВАЙНЕ СВАЮ ПРАЛІВАЎ! ГОДЗЕ, НАГЛЯДЗЕЎСЯ!!!


І АПОШНЯЕ. ВОСЬ СПРАВА ТВАЙГО БАЦЬКІ З АРХІВА. ТАМ ФОРМУЛЫ, ГРАФІКІ... Я ЧАЛАВЕК ВАЙСКОВЫ, НЕ РАЗБІРАЮСЯ.
ТЫ ЗІРНІ: МОЖА, ЁСЦЬ СПОСАБ НЕЙТРАЛІЗАВАЦЬ УСІХ ГЭТЫХ ВАМПІРАЎ? КАБ НЕ ПАЧЫНАЦЬ З РАССТРЭЛАЎ ДЫ ІКЛЫ ІМ НЕ РВАЦЬ...
ЯК ДАЗНАЕШСЯ, ТО ЗНАЙДЗІ МЯНЕ. А ЦЯПЕР БЫВАЙ!
ТАК...


ПАЧАКАЙЦЕ... А... КАЛІ Б СТАЛІН НЕ ПАМЁР, ВЫ Б МЯНЕ ВЫПУСЦІЛІ?
... НАЎРАД ЦІ.
ШТО Ж, НАПЕРАДЗЕ - СВІСЛАЧ...
БУДУ ШУКАЦЬ ВЫХАД...

# Наша Пластыляндыя

Аўтар: Алесь Кудрыцкі

Свежы ветрык, сонца! Як весела плыць насустрач прыгодам.

Угу!

Ох, няма ўжо сіл трымаць ветразь...

Працуй, працуй, хлопча! Вучыся!

Глядзіце!

Хто гэта?

Можна, я з вамі?

Жанчына на караблі прыносіць няшчасці!

Угу...

Ты што, шпіёніла за мной?

Ад цябе ніякай карысці, адны клопаты.

Не хочаце – не трэба. Затое мая лодачка хутчэйшая!


Вяслуем! Раз, два!


Нам не дагнаць яе...


У гэтым месцы рака раздвойвалася. Зорачка паплыла налева, а слімакі – направа.


Зорачка далёка абагнала карабель Танакі і купцоў.


Тым часам яны заўважылі кагосьці на востраве.


Гэй! Вазьміце мяне з сабой. У мяне ў куфры шмат тавараў на продаж. А я вам добра заплачу.


Вось гэта іншая справа. Канечне, возьмем!
Адразу бачна – сур'ёзны слімак. Не тое, што тая гультайка ў шкарлупцы.


Толькі памажыце зацягнуць куфар на карабель.


Які цяжкі... Ды што там такое ўнутры?
А вось зараз пабачыце.


Бац!
Усім стаяць!
Аддавайце ўсё, што маеце!


Разбойнікі звязалі Танаку і купцоў.
Гы-гы!


Ого! Які вялізны бурштын.
Было вашае – стала нашае.

Хэй-хо! Добрая здабыча.

Ну мы і дурні...







Ну што, цяпер зноў скажаце, што ад мяне ніякай карысці?

Працяг будзе...




## Што рабіць з шыльдай?

Такую таблічку ў роднай Оршы заўважыла пісьменніца **Паліна Сцепаненка**. «Орша, Беларусь, 5 жніўня 2019 года», — падпісала яна з горкай ironiяй. З другога боку, шыльда гэта ўжо гістарычная, адзначыла Сцепаненка.

Фота выклікала неабыякую рэакцыю. «У музей» — самы часты каментарый. «І ўсё-такі гэта смешна. Найвялікшы геній чалавецтва. Няўжо ў гэта верылі?» — задаецца пытаннем **Зміцер Дрозд**. «Усяго толькі замяніць генія на злодзея — і няхай вісіць», — разважае **Руслан Гайдай**. «А мне падабаецца, тым больш так і ёсць», — сустракаецца і такі пункт гледжання.

«У кожным горадзе найлепшая вуліца завецца вуліцай Леніна», — заўважыў нехта ў каментарах. Не, не ў кожным, пярэчаць яму, вось у Маладзечне перайменавалі. Сапраўды, дзякуючы мэру Генадзю Карпенку (1949–1999) горад амаль пазбавіўся ад савецкіх назваў. Цэнтральная вуліца мае назву Вялікі Гасцінец — так называўся гістарычны шлях з Менска на Вільню. Табліца перайменаванняў, якую ў 1994-м надрукавала мясцовая газета (у інтэрнэце яе змясціў **Уладзімір Садоўскі**), дагэтуль можа служыць узорам мудрага падыходу ў гэтай справе: паболей гістарычных назваў, паболей мясцовых герояў і беларускіх культурных кодаў. Так вуліца Калініна стала вуліцай геніяльнага мастака Язэпа Драздовіча, вуліца Кастрычніцкая — Каляднай, Астроўскага — вуліцай князя Канстанціна Астрожскага, змагара за незалежнасць нашай дзяржавы, Чырвонаармейская — вуліцай беларускага лётчыка-героя Сяргея Грыцаўца.

### Вазьміце на заметку

Як вядома, шэраг вуліц, завулкаў і плошчаў нашага горада перайменаваны. Камісія па перайменаванню пры гарвыканкоме працягвае сваю работу. Нядаўна гарвыканком зацвердзіў новыя назвы яшчэ пяці вуліц. Так як не ўсе маладзечанцы ведаюць назвы і тых вуліц, што перайменаваны раней, мы па шматлікіх просьбах нашых чытачоў друкуем поўны спіс старых і новых назваў:

| СТАРАЯ НАЗВА | НОВАЯ НАЗВА |
|---|---|
| Плошча Леніна .......... | — Цэнтральная плошча |
| Плошча Свабоды ........ | — Старое Места |
| Праспект Леніна ........ | — Вялікі Гасцінец |
| Вул. імя 60-годдзя Вялікага Кастрычніка ... | — вул. Ф.Скарыны |
| Вул. Ф.Энгельса ........ | — вул. І.Буйніцкага |
| Вул. К.Маркса ........... | — вул. Бухаўшчына |
| Вул. Савецкая ........... | — вул. Віленская |
| Вул. Калініна ............ | — вул. Я.Драздовіча |
| Вул. Кірава .............. | — вул. Грамадоўская |
| Вул. Дзяржынскага ..... | — вул. Вольная |
| Вул. Рэвалюцыйная ..... | — вул. Лібава-Роменская |
| Вул. Ф.Скарыны /р-н хлебазавода/ ........ | — вул. К.Буйло |
| Вул. Горкага ............. | — вул. Замкавая |
| Вул. Асіпенкі ............ | — вул. Вялікасельская |
| Вул. Пушкіна ............ | — вул. Гарадоцкая |
| Вул. Чырвонаармейская . | — вул. С. Грыцаўца |
| Вул. Піянерская ......... | — вул. Велікодная |
| Вул. Асаавіяхіма ........ | — вул. Рымарская |
| Вул. Кастрычніцкая ..... | — вул. Каляднная |
| Вул. Прыгарадная ...... | — вул. Новы Свет |
| Вул. П.Марозава ......... | — вул. Алаізы |
| Вул. Куйбышава ......... | — вул. Местачковая |
| Зав. Куйбышава ......... | — вул. Святаянская |
| Зав. Палярны ............ | — вул. Тапалёвая |
| Зав. Чырвоны ............ | — вул. Купальская |
| Вул. Астроўскага ........ | — вул. К.Астрожскага |
| Зав. Астроўскага ........ | — вул. Я.Лёсіка |
| Вул. Танкістаў ........... | — вул. Цвідаўская |
| Зав. Танкістаў ........... | — вул. Ул. Галубка |
| Вул. Суворава ........... | — вул. Ушацкая. |

## Першая пасажырская чыгунка за паўстагоддзя

«Такога ў Беларусі не было з паўстагоддзя: пачала будавацца новая чыгунка, на якой плануецца пасажырскі рух, — напісаў у сябе ў фэйсбуку краязнаўца з Глыбоцкага краю, аматар чыгункі **Кастусь Шыталь**. — Чыгунка гэтая будзе ісці ад станцыі Урэчча на ўчастку Асіповічы – Слуцк да станцыі Слаўкалій каля Нежынскага горна-ўзбагачальнага камбіната. Шлях яе пройдзе каля горада Любань, дзе праектуецца прыпынак для пасажырскіх цягнікоў.

Апошняя новая чыгунка была пабудавана ў Беларусі ў 2012 годзе: участак Ашмяны – Бабpоўнікі, які абслугоўвае будаўніцтва БелАЭС. Але яна прызначана для перавозкі грузаў, а не пасажыраў. Чыгункі ж, па якіх ходзяць пасажырскія цягнікі, апошні раз адчыняліся ў 1970-х гадах: у 1972-м участак Бронная Гара – Белаазёрск і каля 1974-га ўчастак Цярухаўка – Кругавец, збудаваны да Гомельскага горна-ўзбагачальнага камбіната, які здабывае кварцавы пясок.

Гэта калі не лічыць караценькага адрэзка чыгункі ад станцыі Шэметава да прыпыначнага пункта «Нацыянальны аэрапорт Мінск», які быў адкрыты 7 лістапада 2014 года і скасаваны 7 красавіка 2017-га. Прыпынак той адразу планаваўся як часовы – на яго месцы цяпер пабудавалі другую ўзлётна-пасадачную паласу. Але ў 2014 годзе прэзідэнт даў загад, каб у аэрапорт хадзілі цягнікі, таму і пабудавалі нешта каля кіламетра чыгункі і прыпынак. Хоць ведалі, што прыйдзецца потым разбіраць».

У каментарах да паста чытачы падкрэслівалі зусім невялікую шчыльнасць чыгуначнай сеткі ў Беларусі ў параўнанні з некаторымі суседнімі краінамі (у Беларусі – каля




SHUTTERSTOCK.COM, BY KORSART

26,5 км на 1 тыс. км, а ў Польшчы – каля 64 км на 1 тыс. км). А таксама прыгадвалі пра некаторыя старыя чыгуначныя лініі, якія калісьці ў нас былі, але цяпер скарочаныя ці ўвогуле разабраныя: Наваельня – Навагрудак, Лепель – Параф'янава, Полацк – Расоны – Пскоў, Лынтупы – Падброддзе і іншыя.

Казалася і пра пажаданасць новых чыгуначных ліній: Ваўкавыск – Жабінка (што дало б магчымасць непасрэдна злучыць паміж сабой чыгункай Гродна і Брэст), Ваўкавыск – Івацэвічы, Лынтупы – Гудагай і іншыя. Людзям хочацца мець максімальна зручныя і разнастайныя камунікацыі ў тых кірунках, па якіх самі ездзяць. Праўда, эканамічная мэтазгоднасць такіх праектаў у сённяшніх умовах далёка не відавочная, і на гэта звярталі ўвагу іншыя ўдзельнікі абмеркавання.

Але гэтаму аргументу рашуча пярэчыць гродзенскі гісторык **Андрэй Вашкевіч**, якому акурат у гэтыя дні давялося пераадолець шлях з аднаго заходняга абласнога цэнтра ў другі. Ён эмацыйна піша: «Сёння пераезд з Брэста ў Гродна заняў 4 гадзіны 40 хвілін. Амаль 300 хвілін адлегласць у крыху больш за 200 кіламетраў, брацці і сёстры! І гэта быў аўтавакзальны экспрэс! Самыя хуткія маршруткі ідуць 3 гадзіны 40 хвілін (і білет на іх не купіць), а ёсць аўтобус, які ідзе 6 гадзін. Я, вядома, разумею, мне скажуць: чыгунка з Жабінкі да Ваўкавыска, якая дазволіла б з камфортам цягніком завітваць з Гродна да Брэста за якія гадзіны тры, ніколі не акупіцца. Але што значыць "не акупіцца" ў беларускіх умовах? А што, нікому па факце не патрэбная дарога вакол Белавежскай пушчы акупілася?! А ўсе гэтыя будынкі судоў і палацаў і розныя гульні?! Не трэба "акупіцца – не акупіцца". Даеш чыгунку Жабінка – Ваўкавыск праз Поразава!»

## Ай-яй-яй, чаму салдаты навучылі…

«Сельскі хорар і сельская эротыка» — так назваў свой допіс гісторык-архівіст **Дзяніс Лісейчыкаў**. Ён прывёў кавалкі з царкоўнага летапісу вёскі Дзмітравічы цяперашняга Бярэзінскага раёна 1914–1915 гадоў:

«К замечательным случаям в приходе относится убийство молнией крестьянина и крестьянки села Дмитрович, неделю тому назад женившихся. Несмотря на то, что в доме были кроме убитых другие люди и убитые сидели поотдаль друг от друга, молния выбрала именно их, совершенно не тронув других. Получилось впечатление, что она нарочно забежала в дом за ранее намеченными жертвами».

Пачатак Першай сусветнай вайны ў вёсцы азначыўся розным: «Сказываются следы прошлогодняго пребывания солдат в нашей местности. Хорошия: научили делать валенки. Плохия: открыли секрет гнать самогонку, оставили несколько незаконнорожденных детей».

Адметна, што ў гэтай вёсцы амаль усе жыхары маюць прозвішча Сапега, адзначыў у каментарах **Вадзім Вярэніч-Стахоўскі**. Цікавае сяло, пацвярджае Лісейчыкаў. У сярэдзіне XVIII стагоддзя тут жыў святар-фальсіфікатар пергаментных дакументаў. А ў 1830-х яно належала рэктару Полацкай духоўнай семінарыі Міхалу Шалепіну.

## Немаўлятка Андрэй Тадэвуш Банавентура

«Выглядае проста, але ў гэтай купелі быў ахрышчаны Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка. Косава, касцёл Святой Тройцы», — піша **Аляксей Ластоўскі**. ◆



# EGCG



## Korean Green Tea Catechin

antioxidant protection

Серыя касметыкі EGCG KOREAN Green Tea Catechin на аснове канцэнтраванай сілы 4 кампанентаў зялёнага карэйскага чаю:

- *BioGenic EGCG-200*
- *Ферментаваны экстракт зялёнага чаю*
- *Гідралат зялёнага чаю*
- *Экстракт ствалавых клетак зялёнага чаю*

*а таксама:*

- *Натуральны японскі зялёны чай Matcha*




ТАА «Беліка-М» УНП 190839042

УЗМАЦНЯЕ АБАРОНУ СКУРЫ АД НЕГАТЫЎНАГА ЎЗДЗЕЯННЯ:




Белита-М®
COSMETICS